

Літаратура і мастацтва

газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

4 СНЕЖНЯ 1998 Г. № 49/3977 КОШТ 4 000 РУБ.

## ЧАТЫРЫ ПЫТАННІ ДА БЕЛАРУСА

***Васіль АЎРАМЕНКА: "Кожная партыя, рух і нават асобныя грамадзяне "закансерваваліся" ў сабе, "варацца ва ўласным сочыве". Існуе пэўная патрэба ў разбурэнні гэтых межаў, у рэалізацыі "дыскутабельнай энергіі" людзей і ўзнаўленні кантактаў між рознымі сацыяльнымі групамі. Толькі ў вольным абмене ідэямі і думкамі можа нарадзіцца ісціна і з'явіцца святло ў канцы беларускага тунеля".***

5

## І ЯШЧЭ АДНО СВЕДЧАННЕ

***Ніл ГІЛЕВІЧ: "...Тады вядучым матывам быў матыў сацыяльны, дакладней — сацыяльна-класавы, сёння — нацыянальны, сёння ўсё — і розум, і душа, і сэрца паэта — падпарадкавана адной усеахопнай ідэі — ідэі духоўнага і культурнага адраджэння беларусаў як нацыі, беларуса як чалавека, ідэі нацыянальна-дзяржаўнага самасцвярджэння. Гэта перш за ўсё і дарага. Бо толькі гэтая ідэя здольная вывесці наш народ на шлях актыўнага гістарычнага жыцця".***

6—7

## НА ПРЫНЦЫПАХ ВЫСОКАЙ ЛЮБОВІ

***Навум ГАЛЬПЯРОВІЧ: "І ўсё ж літаратура будзе жыць, бо мы ў ёй толькі кароткія знічкі, якія чыркнуць у бясконцым космасе, пакінуўшы або не пакінуўшы след ці ўспамін. Будзьма ж бачыць і графаманаў, і творцаў, аддаючы шчыра і бясстрасна належнае кожнаму. Бо інакш усё, што мы робім, па вялікім рахунку не мае ніякага сэнсу".***

6—7

## АКУЛЫ, КРАКАДЗІЛЫ, ШАКАЛЫ

***Апавяданне Георгія МАРЧУКА***

9

## БУДЗЬМА РАЗАМ!

*Шаноўныя чытачы. 15 снежня канчаецца падпісная кампанія на першае паўгоддзе 1999 года. Часу зусім нямнога, але ён яшчэ ёсць, каб сказаць сваё слова ў падтрымку беларушчыны і аб тым, што мы ёсць, былі і будзем, а для гэтага ўсяго трэба схадзіць у любое паштовае аддзяленне і аформіць падпіску на нацыянальную перыёдыку, каб заўтра не гаварыць, што беларускія выданні ніхто не чытае, і што мы гінем. Калі не можацца падпісацца на "ЛіМ" адразу на паўгоддзе, падпішыцеся на квартал, а то і на месяц. Паспрыяйце аформіць падпіску на наш штотыднёвік блізкім да Вашага месца жыхарства бібліятэкам, школам, грамадскім установам. Кошт "ЛіМа" на адзін месяц — 50 тысяч рублёў, на квартал — 150 тысяч і на паўгоддзе — 300 тысяч.*

**Наш індэкс — 63856.**



*Гарэцкія (Радзім Гаўрылавіч ля партрэта дзядзькі Максіма Іванавіча).*

Імя Радзіма Гарэцкага, несумненна, шмат гаворыць сэрцу кожнага беларуса, хто неабыякавы да нашай нацыянальнай гісторыі і разбіраецца ў стасунках сённяшняга дня. Радзім Гаўрылавіч — прадстаўнік слаўнага роду Гарэцкіх, знакаміты вучоны ў галіне геатэктонікі, акадэмік Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі і Расійскай акадэміі навук. А да ўсяго — актыўны грамадскі дзеяч, руплівец на ніве нацыянальнага Адраджэння. Нядаўна ж Р. Гарэцкі выступіў і ў новай іпастасі, напісаўшы кнігу "Ахвярую сваім я..." Максім і Гаўрыла Гарэцкія", якая пабачыла свет у выдавецтве "Беларуская навука".

У панядзелак, 7 снежня, Р. Гарэцкаму спаўняецца 70 гадоў. Лімаўцы віншуюць Радзіма Гаўрылавіча з гэтым слаўным юбілеем, жадаюць яму новых поспехаў на ніве навуковай і грамадскай дзейнасці. А чытачоў адсылаюць на 7-ую старонку, дзе змешчана рэцэнзія на згаданую кнігу шаноўнага юбіляра.



# КОЛА ДЗЁН

***На Беларусі — сцюдзёна. Сапраўдная зіма запанавала задоўга да прыходу каляндарнай. Увесь лістапад — яшчэ восеньскі месяц — сярэднесутачныя тэмпературы былі на 12–19 градусаў ніжэй нормы, а 21-га ў Мінску на два градусы быў пераўзыдзены тэмпературны мінімум за 100-гадовы перыяд назіранняў.***

***1-га снежня сцюжа ці не ўзрасла. Тым не менш 2-га снежня людскія насы, меркавалася, павінны былі сінець масава — на мітынгах пратэсту: цэны людзей — "достали", а зарплаты — "ну очень смешные". Ды ўлады, як кажуць, нанеслі папераджальны ўдар. Ідэалагічная апрацоўка працоўных калектываў і іх прафсаюзных лідэраў (апошнія — чарговыя ворагі) была магутнай, штодзённай і мэтанакіраванай, яна вялася праз СМІ і непасрэдна чыноўнікамі "вертыкалі" ад нізу да верху. Напярэдадні "дня ікс" некалькі найбольш буйных прадпрыемстваў наведаў сам прэзідэнт. Мітынг на МТЗ адбыўся 1-га снежня. Рэпартаж паказала тэлебачанне. Кадры былі ўразлівыя і красамоўныя. Ці не ўпершыню на твары прэзідэнта не было звычайнай лагоднай усмешкі. Не было ў яго і палкіх абяцанняў з прыкладаннем рукі да сэрца. Прэзідэнт быў злы і ці не ўпершыню — шчыры: забяспечваць людзей жыллём, павышаць ім зарплату, ствараць багацце прадуктаў у крамах — гэта, маўляў, клопат урада, а ў яго, як у кіраўніка дзяржавы, функцыі зусім іншыя... Інакш выглядалі і ягоныя слухачы. На экране не было колішніх радасных, шчаслівых — як раней пры сустрэчах з прэзідэнтам — твараў. Твары былі пераважна панурыя, а ў вачах — роспач і нявер'е...***

***Улады перамаглі: у другі дзень снежня людзі не выйшлі на мітынгі. Яны сталі ў чэргах ля малочных, мясных, хлебных прылаўкаў. Толькі ж чэргі, як вядома, яшчэ больш выбухова асяроддзе, чым мітынгі...***

***А мароз, між тым, пачаў, здаецца, здаваць пазіцыі. Ці ж надоўга? Зіма трывогі нашай — наперадзе...***

## ЭВАЛЮЦЫЯ ТЫДНЯ

Прэзідэнт Нацыянальнага цэнтра стратэгічных даследаванняў "Усход—Захад" прафесар Л. Заіка прааналізаваў эвалюцыю сярэдняй зарплаты суайчыннікаў за апошнія 6 гадоў. У зыходным, 1992 годзе, яна была каля 30 долараў, у 1995-ым — паднялася да 100 долараў, зараз зноў апусцілася да 30 "баксаў". У дадатак у тым зыходным 92-ім сярэднестатыстычны беларус мог набыць на зарплату прадуктаў і тавараў амаль у 2 разы больш, чым на пятым годзе эксперыментаў над насельніцтвам.

## "ШАПКА" ТЫДНЯ

"Сёння ў Беларусі маецца 27 міністэрстваў, 17 дзяржкамітэтаў і мноства іншых дзяржаўных кантор, дзе адносна высокую зарплату рэгулярна атрымліваюць каля 70 тысяч чыноўнікаў. Нават у Расіі, дзе насельніцтва амаль у 15 разоў больш, на 10 000 чалавек прыпадае 28 дзяржбюракратаў, у нас — 68". Гэта — "шапка" нумара "Народнай волі" за 2-га снежня.

## РЭАЛІІ ТЫДНЯ

"У 1991 годзе ў Старадарожскім раёне было 38735 галоў буйной рагатай жывёлы, з іх 11246 — кароў. Сёння засталося адпаведна 24720 і 7917. Падобная ж сітуацыя ў суседніх Любанскім, Салігорскім ды і ў іншых раёнах". Гэтая кароткая газетная інфармацыя дае, бадай, адказ на тое, чаму ў нас вынайдзена нешта белавата-сівавагае, паўтарапрацэнтнае тлустасці пад назваю "малако"...

## ЮБІЛЕЙ ТЫДНЯ

1-га снежня споўнілася 85 гадоў з таго дня, як на заводах Форда ўпершыню запрацавала бесперапынная зборачная лінія — канвеер. У той час з яго кожныя 2 гадзіны 38 хвілін сыходзіў аўтамабіль. Гэты юбілей міжволі спараджае пытанні: а які тэмп "фордаўскага" канвеера ў Абчаку і які прыбытак дае ён нашай дзяржаве? Ці не спыніўся ён зусім? Бо штосьці чамусьці не чутно аб ім нічагуткі...

## НАПАМІНАК ТЫДНЯ

У дзесяты раз свет адзначыў (1-га снежня) дзень прафілактыкі СНІДу. "Чума XX стагоддзя" распаўзаецца па свеце імклівымі тэмпамі. Сёння хворых на СНІД у свеце — 34 мільёны. Толькі сёлета выяўлена 5,8 мільёна ВІЧ-інфіцыраваных. СНІД ужо забраў з жыцця 13,9 мільёна чалавек, у тым ліку сёлета — 2,5 мільёна. Распаўзаецца СНІД і па Беларусі. На 1-га лістапада сёлетняга года ў краіне выяўлена 2257 выпадкаў заражэння ВІЧ, з іх 470 чалавек ВІЧ-інфіцыраваліся сёлета, а 37 сталі ягонымі ахвярамі. Гэтая страшэнная бяда робіць яшчэ страшнейшай і другую бяду — п'янства. Сёлета спажыванне алкаголю ў Беларусі можа перавысіць 25-літровы рубеж (на душу насельніцтва), што пагражае не толькі дэградацыяй нацыі, а практычна яе вынішчэннем. Калі ж мы задумаемся? Калі спахопімся? Хіба тады, калі будзе позна?

## ПРЫЗНАННЕ ТЫДНЯ

Дырэктар Інстытута гісторыі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі Міхаіл Касцюк стаў першым нашым вучоным, якому прысвоена званне правадзейнага члена Цэнтральна-Еўрапейскай акадэміі навук і мастацтва. Сёння, калі робяцца спробы павярнуць кола гісторыі зноў назад, у тым ліку і ў гістарычнай навуцы, вельмі сімптаматычна, што менавіта гэты наш гісторык удастоены такога высокага гонару.

## ЭКСПЕРЫМЕНТ ТЫДНЯ

Нацыянальны банк Беларусі дазволіў шасці буйнейшым банкам скупляць валюту ў насельніцтва па рынкавым кошце — ад 185 да 210 тысяч рублёў за долар. Дазволіў часова — з 28 лістапада да 10 студзеня наступнага года. Дазволіў з умоваю, што 95 працэнтаў скупленай валюты будзе паступаць у Нацбанк, і толькі рэшта — у свабодны продаж... па даведках, што нехта едзе за мяжу на лячэнне ці каб пахаваць там сваяка. Эксперымент ёсць эксперымент, асабліва калі гэта — наш эксперымент. Мы вельмі добра ведаем, чым яны звычайна канчаюцца, нашы эксперыменты...

## ЦЫТАТА ТЫДНЯ

"Любая нацыянальная ідэя непазбежна павінна грунтавацца на гістарычных традыцыях і сімвалах народа. Вельмі сумнеўна, што цяперашняя ўлада, якая наладзіла рэферэндум, адмяніла ранейшыя герб, сцяг, якая праводзіць курс на абмежаванне ролі беларускай мовы, усур'ёз зацікаўлена ў апеляцыі да гістарычнай памяці народа. У краіне суцэльнага панавання сімвалаў савецкай эпохі (самай вялікай у свеце колькасці помнікаў Леніну на душу насельніцтва, назваў вуліц, калгасаў, школ іменамі дзеячаў савецкай эпохі і г.д.) найбольш верагодна толькі ўзнаўленне якойсьці разнавіднасці ранейшай "сацыялістычнай" ідэалогіі. У гэтай сувязі з цяжкасцю верыцца ў магчымасць усталявання ў грамадстве хрысціянскіх каштоўнасцей, якімі прэзідэнт хацеў бы замяніць нацыянальную ідэю, ва ўмовах паўсюднага панавання сімвалаў камуністычнага бязбожжа".

*(Валерый Карбалевіч, "Дыялог ці маналог?", "Свободные новости", 27.11—4.12.98)*

---

НАДЗЁННАЕ

# Такая ў нас праўда

Нядаўна зайшоў у абанементны аддзел Пастаўскай раённай бібліятэкі. На адной з вітрын — навінкі беларускай літаратуры. Сярод іх кніга выбраных твораў Леаніда Дранько-Майсюка "Гаспода" і кніга навел Георгія Марчука "Хаос", якую і ўзяў пачытаць. Чалавек шэсць абменьвалі кнігі. Кінуў вокам — на вокладках назвы на рускай мове.

— Ці бяруць чытачы беларускія кнігі? — пытаюся ў бібліятэкаркі Іны Бандарэнкі.

— Бяруць, але рэдка, ды і то, калі парэкамендуеш. Ёсць у нас пяць-шэсць жанчын, якія чытаюць творы І. Шамякіна, Г. Далідовіча, П. Місько, Б. Сачанкі, В. Хомчанкі, Л. Арабей.

Як высветлілася з далейшай гаворкі, чытачы цёпла адзываюцца аб беларускіх кнігах, у якіх у асноўным пішацца пра вёску, каханне і, вядома ж, пра вайну. І як зазначаюць яны, беларуская літаратура многае дае для душы і настройвае на глыбокі роздум.

— Ну, а ці быў выпадак, — пытаюся, — каб хто-небудзь папрасіў кнігу нашага паэта?

— На вялікі жаль, ні аднаго, — і бібліятэкарка пагля́дзела на мяне невясёлымі вачыма. Затым дадала: — На паэзію наогул попыту няма, нават на рускую класіку.

— А што ж тады чытаюць?

— Моладзь, ды і старэйшыя людзі, у асноўным бяруць замежны дэтэктыў.

— Але ж такая літаратура не патрабуе напружанай разумовай працы, — заўважаю я. — Яна не дае нічога ні для душы, ні для сэрца. Прачытаў — і тут жа забыўся.

Пасля непрацяглай паўзы бібліятэкарка пахвалілася:

— А вучні гарадскіх школ усё ж чытаюць творы беларускіх літаратараў, хай сабе й тады, калі ад іх вымагае такой работы школьная праграма.

Падымаюся на другі паверх і заходжу ў чытальную залу. За сталамі — некалькі чалавек з газетамі. Маладая дзяўчына робіць выпіскі з часопіса, — напэўна, студэнтка. Прыцягнула маю ўвагу кніжная выстаўка ў кразнаўчым кутку — "Зямля пад белымі крыламі". На паліцы, да якой прымацавана палоска ватману з надпісам "Творчасць нашых землякоў", кнігі Уладзіміра Дубоўкі і сціплыя зборнічкі мясцовых паэтаў. На стэлажах — часопісы "Полымя", "Маладосць", "Першацвет", "Роднае слова" (сёлета апошні не выпісваюць — няма грошай). З нашых газет — "Звязда", "ЛіМ", "Настаўніцкая газета". Звяртаюся да бібліятэкаркі, маладой дзяўчыны:

— Ці чытаюць нашы часопісы?

— Так, чытаюць. "Полымя", "Маладосць", "Роднае слова" бяруць нават на дом. Часцей за ўсё — настаўнікі. Шмат якія матэрыялы патрэбны ім як выкладчыкам беларускай літаратуры.

У пастаўскай кнігарні мяне чакала расчараванне. Хаджу шукаю — дзе ж тут нашы родныя кнігі? Ды вось яны, "прымасціліся" на паліцы ў самым куточку: "Прошча" У. Някляева, "Гаспода" Л. Дранько-Майсюка, "Праўдзівы аповед пра твой і мой радавод" У. Ліпскага, "Зялёныя дажджы" В. Гардзея, "Кроў сусвету" В. Куставай, "Двое на тонкім лёдзе" А. Афяроўскага. І — усё!

Затое рускамоўных кніг — паліцы гнуцца! На чатырох з іх даўжынёю па добрых пяць метраў — дзіцячыя кнігі. І з дзесяткаў розных найменняў — толькі чатыры-пяць на беларускай мове. Пры ўваходзе ў кнігарню на трох сталах — так званая бульварная літаратура.

— Чаму так мала беларускіх кніг? — пытаюся ў прадаўца Наталлі Макоўскай.

— Няма попыту. Каб мы гандлявалі толькі імі, то даўно б вылецелі ў "трубу". Цяжка ішла беларуская кніга ва ўсе часы. Бывала, чалавек бярэ што-небудзь з рускай літаратуры, дык яму ў "нагрузку" — беларускую кнігу. Хоць такім спосабам рэалізоўваўся тавар.

— І класіка беларуская — не хадавы тавар?

— Якраз наадварот, — ажывілася, адказала сп. Наталля. — Сёлета, дзесьці ў канцы вясны, паступілі кнігі Я. Коласа, Я. Купалы, М. Багдановіча — прывабныя тамы ў кардонных вокладках, па экземпляраў 6-8 кожнага аўтара. Тут жа іх і раскупілі. Не залежваюцца кнігі Івана Шамякіна, хутка прадалі яго "Сатанінскі тур", "Вялікую кнігарню". Не паспела паступіць у кнігарню "Палеская мадонна", як і яна знайшла свайго пакупніка.

— А як ідзе паэзія?

— Ніводнай кнігі ніхто не ўзяў. Гэты тавар толькі на аматара. Дарэчы, сярэдняе пакаленне беларускіх паэтаў у нас проста не ведаюць. А з другога боку — кнігі сталі дарагімі, апошнім часам цана на іх павысілася ледзь не ўдвая. Во, кніга "Зялёныя дажджы" В. Гардзея каштуе 91 тыс. рублёў. Гэта, здаецца, мала, кошт паўтары кілаграмаў вермішэлі, але ж трэба мець на ўвазе памер заробкаў.

У сваёй вёсцы Камаі я шмат каму з 30-50-гадовых людзей задаў адно і тое ж пытанне:

— Каго вы ведаеце з беларускіх пісьменнікаў?

Называюць Купалу, Коласа, Багдановіча, Крапіву, Танка, Шамякіна, некаторыя — Панчанку, Мележа, Быкава, Куляшова. Пры падказцы згадваюць Гілевіча, Барадуліна, Бураўкіна. А з маладзейшых ужо нічога і не ведаюць. А ці знаюць каго-небудзь з іх школьнікі, ці чулі пра некаторых? Гутару з вучаніцамі 9-га і 11-га класаў нашай сярэдняй школы. Яны ўпершыню чуюць ад мяне пра Някляева, Законнікава, Галубовіча, Дранько-Майсюка, Пісьмянкова, Баравікову, Мятліцкага, Салтука, Жыгунова і іншых. Паказваю ім газету "ЛіМ", цікаўлюся, ці знаёма яна ім. Адна вучаніца сказала, што аднойчы настаўніца прынесла яе на ўрок, але гэта было даўно.

І няма нічога дзіўнага, што нашы людзі не ведаюць сваіх літаратараў. Усенародны трыбуны пісьменнікам, за рэдкім выключэннем, не прадастаўляюць. "Звязда", як беларускамоўная газета, апошнія гады менш піша пра літаратуру. Гэту пачэсную місію выконвае газета "ЛіМ". Але — на ўвесь Пастаўскі раён прыходзіць яе ўсяго 11 экземпляраў, у тым ліку на горад Паставы — 4 экземпляры. У Камаях, дзе жыве больш чым 800 чалавек, газету "ЛіМ" выпісваю я адзін. Няма яе і ў Камайскай сельскай бібліятэцы (раён не выдзеліў грошай на падпіску), ні ў мясцовай школе.

Такая ў нас праўда — невясёлая, горкая.

**Аркадзь НАФРАНОВІЧ**

---

ПРАЕКТЫ

# Каб ажыло Траецкае...

Беларускі фонд культуры, здаецца, выходзіць з паласы крызісу. Нягледзячы на цяжкасці, ён стабілізаваў матэрыяльнае становішча, захаваў старыя праекты — "Вяртанне", "Вернутыя імёны", "Бібліятэка — асяродак культуры" — і распачаў выдавецкую і навуковую дзейнасць. Праведзены навукова-практычныя канферэнцыі: па беларускіх паясах — у Слуцку, па гісторыі і археалогіі — у Крэве. Распрацаваны праект закона аб увозе і вывазе культурных каштоўнасцей. Фонд цесна супрацоўнічае з Міністэрствам культуры, Домам дружбы, саюзамі народных майстроў і фалькларыстаў.

Прадстаўнікі названых і многіх іншых устаноў культуры сабраліся нядаўна на паседжанне рады БФК, каб абмеркаваць новы праект. Тычыцца ён вядомага ў Мінску Траецкага прадмесця, якое, на думку Я. Сахуты, не стала, на жаль, жывым куточкам горада. У наступным годзе там плануецца з мая па лістапад праводзіць Траецкія кірмашы, дзе майстры народных рамёстваў і промыслаў змогуць папулярызаваць традыцыі народнага мастацтва і прадаваць свае вырабы. Апошні момант вельмі важны, бо на сёння існуе праблема сацыяльнай запатрабаванасці майстроў салома- і лозапляцення, ганчарства, ткацтва, разьбы па дрэве і іншых. Гістарычны цэнтр сталіцы быў бы вельмі прыдатным для тыднёвых выставак-кірмашоў з розных рэгіёнаў рэспублікі.

Натуральна, такія кірмашы маглі б стаць асяродкамі нацыянальнай культуры, таму яны будуць суправаджацца канцэртамі народнай песні і танца, выступленнямі дзіцячых калектываў, паэтаў і да т.п. Была б дарэчы і традыцыйная кухня.

Безумоўна, праграма кірмашоў у Траецкім прадмесці павінна быць узаемазвязана з рэалізацыяй мясцовых праграм па развіцці народнай творчасці, стварэнні цэнтраў па захаванні народных абрадаў, традыцыйных рамёстваў, стварэнні творчых майстэрняў.

**Г. З.**

---

ІМПРЭЗЫ

# Пяцьсот колераў...

Пабачыў свет 500-ы нумар часопіса "Вясёлка". З гэтай нагоды рэдакцыя наладзіла для сваіх чытачоў сапраўднае свята. У Доме літаратара сабраліся супрацоўнікі рэдакцыі, актыўныя аўтары і, канечне ж, хлопчыкі і дзяўчынкі, выхаванцы сталічных садкоў і вучні малодшых класаў сярэдніх школ. Вітаў жаданых гасцей галоўны рэдактар часопіса, ён жа прэзідэнт Беларускага дзіцячага фонду Уладзімір Ліпскі разам з Васем Вясёлкіным.

На вечарыне выступілі намеснік галоўнага рэдактара часопіса "Маладосць" Казімір Камейша, галоўны рэдактар часопіса "Бярозка" Уладзімір Ягоўдзік, Артур Вольскі, Ніна Галіноўская, Ніна Маеўская, галоўны спецыяліст Дзяржаўнага камітэта па друку Уладзімір Матусевіч, намеснік прэзідэнта Беларускага дзіцячага фонду Аляксандр Трухан, кампазітар Кім Цесакоў. Сваім майстэрствам парадавалі прысутных вакальны калектыў дзіцячага садка "Ліхтарык", фальклорны ансамбль "Пралеска" Мінскага палаца піянераў і моладзі і іншыя.

---

ДРУК

# "ББДЛ": чарговы том

На вокладцы кнігі пазначаны тры знакамітыя прозвішчы: Якуб Колас, Міхась Лынькоў, Янка Маўр. Пабачыўшы, што яна выйшла ў серыйным афармленні, адразу ж здагадваешся, якія творы ў ёй змешчаны. Але, але — у чарговым томе "Бібліятэкі беларускай дзіцячай літаратуры", якую не першы год выпускае выдавецтва "Юнацтва", надрукаваны акурат гэтыя аповесці: "На ростанях", "Міколка-паравоз" і "Палеская рабінзоны. На гэтых творах выхоўвалася ўжо не адно пакаленне беларускіх дзяцей і падлеткаў. Творы гэтыя вартыя ўвагі і сёння, бо і сённяшнія юныя чытачы знойдуць у іх герояў, чыё жыццё варта пераймання, далучацца да лёсаў яркіх, непаўторных.

ВЫСТАВЫ

# Напамінак, папярэджанне

Пры Мінскім мастацка-вытворчым камбінаце ёсць крама-салон "Мастак", а пры ёй — маленькая выставачная зала. Там час ад часу ладзяцца персанальныя альбо групавыя выставы.

27 лістапада ў галерэі "Мастак" адкрылася экспазіцыя жывапісцаў Генадзя Міронава, Бекіра Смольскага, Андрэя Лук'янава і скульптара Мікалая Ваўчка. Спонсар выставы — японская дабрачынная арганізацыя "Мост у Чарнобыль", якая займаецца аздараўленнем беларускіх дзяцей — ахвяр чарнобыльскай катастрофы.

Выстава мае назву "Святло чорнай зоркі" і эпіграф: "...і толькі чорная зорка будзе лашчыць мёртвым святлом Зямлю пасля катастрофы". Мастакі паставілі мэтаю паказаць прыгажосць прыроды, некранутай цывілізацыяй, і вынікі чалавечага ўплыву на прыроду. Чарнобыль у дадзеным выпадку набывае сімвалічна-знакавы сэнс. Гэта — апафеоз чалавечага эгаізму. Чарнобыль дае падставы задумацца, ці варты чалавек называцца HOMO SAPIENS. Зрэшты, усю гісторыю цывілізацыі можна разглядаць, як усё больш і больш пачварную эксплуатацыю прыродных рэсурсаў дзеля таго, каб чалавек меў усё большы і большы камфорт. Вялікія катастрофы (Чарнобыль у гэтым шэрагу) час ад часу прымушаюць людзей задумацца, на нейкі момант спыніцца. Але толькі на нейкі момант...

Ніхто дагэтуль не ведае, як сумясціць чалавечую прагу камфорту і клопат аб жывой прыродзе. Не ведаюць гэтага і мастакі, што наладзілі выставу "Святло чорнай зоркі". Але нагадаць аб праблеме — ніколі лішнім не будзе.

На адкрыцці выставы выступіў народны мастак Беларусі Гаўрыла Вашчанка, чыя "малая радзіма" на Палессі атручана радыяцыяй. Пра Чарнобыль як пра агульную бяду гаварыла прадстаўніца арганізацыі "Мост у Чарнобыль". Беларусь і Японія параднёны аднолькавай бядою: Хірасіма—Нагасакі—Чарнобыль.

Мастакі і арганізатары выставы спадзяюцца, што гэтая культурная акцыя можа мець розгалас па-за межамі Беларусі.

**П.В.**

# Вольны мастак — вечны вандроўнік

Сёлета 110 гадоў з дня нараджэння Язэпа Нарцызавіча Драздовіча — можа, самага загадкавага беларускага творцы XX стагоддзя. Ягоную творчасць нельга адназначна "прывязаць" да нейкага мастацкага напрамку — сецэсіі, інсіту, нацыянальнага рамантызму. Прытым, што ў творах Драздовіча спалучаецца стылістыка так званага народнага мастацтва з мысленнем, уласцівым мастаку-прафесійніку. Язэп Драздовіч — з'ява унікальная не толькі для Беларусі, але, бадай, для ўсёй Усходняй Еўропы. Прынамсі, у культуры нашых бліжэйшых суседзяў няма аналагаў творчасці Драздовіча.

Нацыянальны музей гісторыі і культуры Беларусі адзначае юбілей вялікага мастака выставай ягоных твораў, што захоўваюцца ў фондах музея. Гэта графічныя аркушы, алейныя жывапіс, маляваныя дываны, разьбярства. Экспазіцыя зроблена такім чынам, каб можна было ўявіць маштабнасць і шматграннасць асобы Язэпа Драздовіча. Дзядзька Язэп называў сябе "вечным вандроўнікам", але заўжды марыў пра сваю хату. Замест родных сцен лёс даў яму дарогу, замест даху — неба. Драздовічу, з яго сялянскай ментальнасцю, мабыць, хапіла б Сусвету ў міжрэччы Мнюты і Ауты. І вандраваў ён па Беларусі не столькі ў пошуках новых уражанняў, колькі таму, што часта заставаўся без працы, без заробку, без хлеба. Не ад добрага жыцця стаў ён "вольным мастаком".



Далёка не ўсё, што намаляваў і напісаў Язэп Нарцызавіч, дайшло да нашчадкаў. Да нас. Але галоўнае: ён падарыў Беларусі легенду свайго жыцця, загадку сваёй творчасці. У сваіх дзённіках мастак прыгадвае, як сустрэў недзе на беларускай дарозе Ісуса Хрыста. Мастак і Хрыстос павіталіся, як добрыя знаёмыя. Дальбог, так яно і было...

**П.ВАСІЛЕЎСКІ**

# Пяць гадоў на эстрадзе



Для "лёгкага" жанру гэта, пагадзіцеся, нямала. І за пяць гадоў на беларускай эстрадзе спявак Уладзімір Ухцінскі нямала паспеў. Сведчанне таго — свая ўдзячная публіка. Пішуцца касеты з новымі праграмамі, здымаюцца відэакліпы, песні для якіх спявак выбірае з дапамогаю... слухачоў, зважаючы найперш не на ўласны густ, а на "градус папулярнасці" канкрэтнага твора падчас канцэрта. З 10 снежня замоўлена гастральнае турнэ Уладзіміра Ухцінскага па Беларусі. І як бы ні спрачаліся наконт ягонай творчасці прыхільнікі розных эстрадных напеваў ды густаў, у адным яны, безумоўна, салідарызуюцца, артыст, які заўсёды спявае на канцэртах жывым голасам, на фоне нашай татальнай "фанерызацыі" заслугоўвае павагі.

*Фота А. ПРУПАСА*

# Энцыклапедычна, папулярна, рэкламна

Усімі гэтымі якасцямі валодае кніга "Тэатры Беларусі", якая пад рэдакцыяй доктара мастацтвазнаўства Анатоля Сабалеўскага і пад эгідай Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь і рэдакцыі часопіса "Тэатральная творчасць" пабачыла свет у выдавецтве "Беларуская навука". Выданняў, прысвечаных тэатру, як вядома, раней з'яўлялася нямала і нягледзячы на цяжкасці, выходзяць яны і сёння. Але гэта, як правіла, ці даследчыя працы, што ахопліваюць пэўны перыяд у сцэнічным жыцці, ці манаграфіі, прысвечаныя асобным творцам.

"Тэатры Беларусі" — гэта дакладнасць і ўсеахопнасць інфармацыі пра кожны з 27 тэатраў (24 з іх атрымліваюць дзяржаўную датацыю), што працуюць сёння ў нашай краіне. Гэта аб'ектыўнасць ацэнак, якія тысяча шляху, пройдзенага тым ці іншым калектывам. Нарэшце, гэта звесткі пра асобных рэжысёраў, акцёраў, іншых дзеячаў сцэны. А да ўсяго — гэта інфармацыя пра параметры сцэн, умяшчальнасць глядзельных залаў. Пазначаны таксама адрасы тэатраў, згадваюцца нумары тэлефонаў і факсаў.

Каб сабраць такую разнастайную інфармацыю, паклапаціліся аўтары артыкулаў Тамара Гаробчанка і Дзіяна Стэльмах. Сам жа А. Сабалеўскі ў невялікім уступе "Беларусь тэатральная" нагадаў увесь шлях беларускага тэатральнага мастацтва, пачынаючы з сівой даўніны, калі людзям дарылі сваё майстэрства скамарохі, па сённяшні дзень.

Немалаважна і тое, што тэкст падаецца не толькі ў арыгінале — зразумела, на беларускай мове. Наталля Лейзер зрабіла пераклад на англійскую, а Уладзімір Крук сфатаграфаваў будынкі кожнага тэатра.

Кніга-даведнік разлічана не толькі на нашых аматараў сцэны, але і замежных, а таксама на арганізатараў гастроляў. Яны з дапамогаю даведніка змогуць лепш зарыентавацца ў жыцці тэатральнай Беларусі.

АНОНС

# Ушануем Максіма

У сераду 9 снежня а 12 гадзіне запрашаем ускласці кветкі да помніка Максіму Багдановічу. У гэты дзень у Мінску ў сям'і маладых інтэлігентаў нарадзіўся сын, якому наканавана было стаць найвялікшым паэтам сваёй Маці-Краіны.

Ушануем яго памяць, збяромся разам, каб узгадаць светлыя радкі Максімавай паэзіі.

●

9 снежня ў 15 гадзін у Свята-Мікалаеўскай праваслаўнай царкве п. Ратамка (насупраць чыгуначнай станцыі) адбудзецца набажэнства ў гонар дня нараджэння славутага беларускага паэта Максіма Багдановіча.

Запрашаем тых, хто жадае ўславіць імя Паэта і падтрымаць беларускую царкву.

**Літаратурны музей Максіма Багдановіча**

АБСЯГІ

*БРЭСТ...*

# Хто з сем'яў пераможа?..

Днямі ў горадзе пройдзе абласны фестываль сямейнай творчасці. Прымуць у ім удзел каля паўсотні сем'яў. У гарадскім цэнтры маладзёжнай творчасці адбудзецца конкурс, потым удзельнікі раз'едуцца з канцэртамі па школах і інтэрнатах. У нядзелю адкрыецца выстава сямейнай творчасці, адбудзецца вялікі заключны канцэрт.

**Святлана ГУЛЯЕВА**

*ГОМЕЛЬ...*

# Свята ў горадзе над Сожам

Гамяльчане адсвяткавалі 55-ую гадавіну вызвалення свайго горада ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. З такой урачыстай нагоды была арганізавана вялікая і разнастайная праграма. Адбыўся конкурс салдацкай песні, міжнародны турнір па бальных танцах, праведзены іншыя не менш цікавыя мерапрыемствы. Адкрылася выстава "Мы мір адстаялі — нам у гэтым міры жыць" з экспанатаў абласнога краязнаўчага музея і работ вучняў гарадскіх школ. У экспазіцыі прадстаўлены бюсты герояў Савецкага Саюза А. Ісачанкі, Е. Барыкіна, Ц. Барадзіна, асабістыя рэчы маршала, двойчы Героя Савецкага Саюза, камандуючага войскамі І Беларускага фронту К. Ракасоўскага, работы франтавога мастака Ю. Рахоўскага, які вызваляў Гомель. А ў творах школьнікаў — розная тэматыка: гады вайны і мірны дзень.

# Гучала музыка французская

З кожным годам больш трывалымі становяцца творчыя сувязі гомельскіх музыкантаў з калегамі краін дальняга замежжа. У вялікай зале Гомельскага каледжа мастацтваў імя Н. Сакалоўскага прайшоў канцэрт з твораў французскіх кампазітараў. Перад слухачамі выступіў сімфанічны аркестр Гомеля, мастацкім кіраўніком і галоўным дырыжорам якога з'яўляецца В. Краўцоў. Дырыжыраваў на гэты раз Жан Клод Ам'е з Францыі. Салістамі былі навучэнец ліцэя пры Беларускай акадэміі музыкі, лаўрэат міжнародных конкурсаў Алег Бабій (фартэпіяна), Лярыса Мальцава (сапрана), Тамара Сапегіна (мецца-сапрана). У канцэрце прагучалі творы Сен-Санса, Гуно, Бізэ.

# Храм вяртаецца вернікам

У 1872 годзе ў Рэчыцы пабудавалі царкву, якая была асветлена ў гонар Успенія Святой Багародзіцы. Доўгі час за саветамі царква выкарыстоўвалася як Дом культуры. Затым тут размяшчаўся краязнаўчы музей. Цяпер былы будынак храма вяртаецца вернікам. Музей пераедзе ў памяшканне музычнай школы N 1, а для яе будуць узведзены новыя апартаменты. На адраджэнне храма і мастацкія роспісы распрацоўваецца праектная дакументацыя, выдзяляюцца неабходныя сродкі. У наступным годзе храм адкрыецца.

**Аляксей ШНЫПАРКОЎ**

*ВІЦЕБСК...*

# Прыцягненне майстра

На Караткевічаўскіх чытаннях, што прайшлі ў рамках дзён літаратуры з нагоды дня нараджэння пісьменніка, адметнае веданне і разуменне творчасці славутага земляка паказалі студэнты аддзялення беларускай філалогіі і гісторыі Віцебскага дзяржуніверсітэта. Яны чыталі ўрыўкі з твораў Караткевіча, навуковыя даклады па творчасці майстра. На вечарыне ў літаратурным музеі цікавымі былі ўспаміны пра Уладзіміра Сямёнавіча былога дырэктара Беларускага Акадэмічнага тэатра імя Я. Коласа (цяпер дырэктар Беларускага тэатра "Лялька") Г. Асвяцінскага. Дарэчы, ён паведаміў, што ў будучым годзе віцебскія лялечнікі прыступяць да пастаноўкі караткевічаўскай "Ладдзі роспачы".

# Крылы надзеі

У абласным краязнаўчым музеі адкрылася унікальная фотавыстава вядучага на Беларусі вучонага-арнітолага, віцэ-прэзідэнта Заходне-Беларускага таварыства аховы птушак Уладзіміра Іваноўскага "Гэтыя цудоўныя птушкі". Больш за 20 год ён вывучае жыццё драпежных птушак на верхавых балотах Беларускага Паазер'я. Яго навуковыя работы шырока вядомы сярод біёлагаў многіх краін свету. Аднойчы на міжнародным кангрэсе ў Вене У. Іваноўскі на атрымана ганарар за цікавы даклад купіў фотаапарат. Колькі нечаканых адкрыццяў ён зрабіў пры дапамозе свайго надзейнага сябра! На выставе прадстаўлены апошнія здымкі У. Іваноўскага і яго вучняў В. Кавалёнка, Д. Шамовіча і І. Башкірава, зробленыя на балоце "Ельня", у казачна-чароўных расонскіх лясах. "Кулічковае эльдарада", "Вечар на возеры чарназобай гагары", "Царства гогаляў", "Свет чорнага жураўля" — вось назвы некаторых работ. Унікальнасць такой выставы вызначаецца сапраўднай навуковай каштоўнасцю здымкаў і іх вялікім мастацкім густам. Неўзабаве выстава пераедзе ў Брэст, а потым — у Гародню.

# У ананімнай паэмы ёсць радзіма — Гарадок

Гарадоцкі райаддзел адукацыі і мясцовая рада Таварыства беларускай мовы правялі другія літаратурна-краязнаўчыя чытанні, прысвечаныя 25-ым угодкам адкрыцця асобы Канстанціна Вераніцына. На думку аднаго з арганізатараў чытанняў, дырэктара Вархоўскай школы Леаніда Гаравога, віцебска-гарадоцкае паходжанне паэмы "Тарас на Парнасе" — факт амаль неаспрэчны. Менавіта пад Віцебскам і ёсць тое пуцявішча, з якога адправіўся ў падарожжа палясоўшчык Тарас. На чытаннях школьнікі і настаўнікі Гарадоччыны даказалі, што беларускую класіку яны вывучаюць грунтоўна і лічаць паэму "Тарас на Парнасе" сапраўднай жамчужынай беларускай паэзіі.

**Святлана ГУК**

*МАГІЛЁЎ...*

# На выставе — карыкатуры

У музеі этнаграфіі абласнога цэнтра зараз з поспехам працуе выстава "Позірк Квазімоды" вядомага жыхарам горада па публікацыях у мясцовым і рэспубліканскім друку магілёўскага мастака-карыкатурыста Віктара Міхеева. Выстава гэтая падрыхтавана маладзёжным творчым аб'яднаннем "У ціхім віры" пры падтрымцы маладзёжнага цэнтра "Ратуша" і студыі "3 plus". У экспазіцыі — больш за сто лепшых работ, створаных аўтарам на працягу пяці гадоў творчай дзейнасці. Нягледзячы на тое, што Віктар неаднаразова прымаў удзел у выставах-конкурсах карыкатурыстаў у Беларусі, Літве, Польшчы, Бельгіі, у родным горадзе ён выстаўляецца ўпершыню.

**Алесь ПЯТРОВІЧ**





## На родным факультэце

**На мінулым тыдні факультэт журналістыкі БДУ сустракаў сваю былую студэнтку Святлану Алексіевіч. Кабінет, у якім адбывалася размова пісьменніцы з прыхільнікамі яе таленту, быў перапоўнены. Размова была зацікаўленай, жывою. Пра што? Калі коратка, дык яе можна падаць прыкладна гэтак, у выглядзе пытанняў і адказаў.**

**— Вы, кажуць, не любіце выступаць публічна?**

**— Месца творцы не на барыкадах. Духоўнае жыццё — асабістае, яно павінна праходзіць у цішыні і спакоі. Рэвалюцыя захлынулася. Нічога не можа быць роўным жыццю.Ніводная ідэя. У нас няма ідэй, акрамя ідэі барацьбы, а моваю нянавісці я гаварыць не хачу.**

**— Вас абвінавачваюць у своеасаблівай "зачараванасці смерцю", "мастацкай некрафіліі", "адлюстраванні голай праўды". Ці так гэта?**

**— Кнігі — гэта адлюстраванне нашай гісторыі, якая спрэс — вайна і смерць, і ў гэтым, вядома ж, не мая віна. Абвінавачванні ў кан'юнктурнасці таксама беспадстаўныя, паколькі як могуць быць кан'юнктурнымі творы пра вайну, што скончылася 40 гадоў таму, ці пра чарнобыльскую трагедыю, якая пачалася ажно ў 86-м? "Чарнобыльская малітва" — кніга пра беды, якія "беларуская лабараторыя" вынаходзіць для ўсяго свету. Вайна ідзе іншая — не равуць танкі і самалёты, не лятаюць кулі, смерць нясуць трава і кветкі... Мастацтва шмат чаго не ведае пра чалавека. А таму неабходна прыглядацца і прыслухоўвацца да апошняга.**

**— Як вы адносіцеся да крытыкі?**

**— Нармальна. Аднак хацелася б, каб яна была такога ж узроўню, што і твор. Крытыку я падзяляю на патрэбную і асабіста мне цікавую. У любым выпадку крытыка служыць на карысць справе папулярызацыі ідэй пісьменніка. Калі ж казаць пра тых, хто меў на мяне ўплыў, то гэта, безумоўна, Алесь Адамовіч.**

**— Не так даўно "Литгазета" напісала, што Алексіевіч усё ж руская пісьменніца. Гэта не магло не звярнуць увагу беларускіх чытачоў. Кім вы самі сябе лічыце?**

**— Беларускай пісьменніцай, якая піша на рускай мове.**

**— Людзі плачуць над вашымі кнігамі. Ці бачыце вы пасля іх напісання радасці ў жыцці?**

**— Раней праблем з абаронай псіхікі не ўзнікала, зараз яны з'явіліся. Кожнага паасобку чалавека трэба і можна любіць, але разам яны робяць часта жахлівыя рэчы. Менавіта цяпер адчула неабходнасць напісаць кнігу пра каханне "Дзівосны алень вечных ловаў" — так будзе яна называцца. Людзі ў адказ на пытанне, што ж гэта такое — "каханне", кажуць: "аварыя, катастрофа, я — ахвяра і г.д.". Гэта мяне турбуе. Трэба злазіць з барыкад. Мы нараджаемся недзеля таго, каб закрыць сваім целам дот ці рэактар.**

**— Чым патлумачыце сваю вядомасць за мяжою? Ці не вынік гэта супрацьстаяння Беларусі з заходнімі краінамі і вашага крытычнага стаўлення да ўлады?**

**— Сёння дысідэншчына ўжо не праходзіць. Там кніга — тавар. Нікога не цікавіць жыццё аўтара. Калі ты заявіш пра сябе і знікнеш на некалькі гадоў, пра цябе ўсе забудуць. Прычына ж поспеху, напэўна, у спалучэнні дакументалізма з мастацкім. Гэта адкрыццё для Захаду.**

**— Чаму няма беларускага выдання "Чарнобыльскай малітвы"?**

**— Таму што, згодна з дзяржаўнай палітыкай, усе чарнобыльскія праблемы будуць вырашаны да 2000 года.**

**— Якой вы бачыце нацыянальную ідэю?**

**— Няварта выдумваць нічога новага. Такая ідэя ёсць. Гэта незалежная беларуская дзяржава са сваёй культурай, гісторыяй, моваю. Адстойванне на ўсіх узроўнях нацыянальных інтарэсаў.**

**Напрыканцы будучыя прадстаўнікі "чацвёртай улады" атрымалі ад госці шэраг парад і пажаданняў: 1) быць "працаголікамі"; 2) трымаць характар; 3) "збіраць" сваю адметнасць; 4) умець адчуць свежыя тэксты; 5) памятаць, што жыццё — высакародны від спорту.**

**Вадзім ДОЎНАР**

## Запрашаем на вечарыну

**8 снежня ў 18 гадзін у Доме літаратара адбудзецца літаратурны вечар, прысвечаны 100-годдзю з дня нараджэння вядомага беларускага пісьменніка, драматурга, заслужанага дзеяча мастацтваў БССР Рыгора Кобеца. Запрашаем жадаючых.**

***У красавіку леташняга года Таварыства беларускай школы абвясціла конкурс творчых работ для школьнікаў "Не пакідайце ж мовы нашай беларускай..." За прабеглы час Таварыства атрымала блізу тысячы допісаў-твораў розных жанраў, у якіх дзеці знаходзяць пераканаўчыя словы ў абарону роднай мовы. Канчатковае падвядзенне вынікаў конкурсу адбудзецца 19 снежня. Відавочна, нялёгка даваліся дзецям спробы літаратурнай творчасці. Але яны кіраваліся не толькі жаданнем прадэманстраваць свой творчы патэнцыял і перамагчы ў конкурсе. У пару, калі становішча беларускай мовы ў Беларусі выклікае цэлую чараду неўразумелых пытанняў, удзел у конкурсе стаў для многіх школьнікаў яшчэ і спосабам падзяліцца сваім клопатам з іншымі людзьмі, аблегчыць душу, пра што яны самі прызнаваліся ў сваіх лістах.***

***Прапаную чытачам "ЛіМа" некалькі твораў, дасланых вучнямі старэйшых класаў розных школ Беларусі.***

**Сяргей ЗАПРУДСКІ,**
**дацэнт Беларускага дзяржаўнага універсітэта**

*І ў кожным слове — крышачку цябе,*
*Бо нездарма так многа дзіўных твораў*
*На ёй да дзён сучасных існуе.*
*Купала, Колас, Мележ, Багдановіч...*
*Якіх імён яскравы карагод!*
*Мы дзякуючы ім заўсёды помнім:*
*Калі ёсць мова — значыць ёсць народ.*

**Алена ХВАЙНІЦКАЯ,**
**вучаніца 10 класа СШ № 40**
**г. Віцебска**

### Беларуская мова

*Так, моваў існуе нямала,*
*Ды колькі б іх не вывучаць,*
*На роднай словы "маці", "мама"*
*Заўсёды найшчырэй гучаць.*

# "Калі ёсць мова — значыць ёсць народ"

### Наша мова

*Што ёсць*
*Мова наша, беларуская?*
*І чаму у свеце без вайны*
*Мы ідзем*
*сцяжынкаю не вузкаю*
*І сабе не вызначым цаны?*
*А спрадвеку ж*
*Нас вучылі прадзеды —*
*Мову матак шчыра шанаваць,*
*Берагчы, вякамі*
*ўсё, што складзена*
*І на здзек нікому не даваць!*
*Наша мова —*
*Спадчына народная*
*Ёй ніхто не вызначыць цаны.*
*Дык лунай жа*
*птушкаю свабоднаю,*
*Дык жыві ж у свеце без вайны!*
*Каб табою дзеці ганарыліся,*
*Мовай маткі шчыра называўсь,*
*Каб нідзе, ніколі не забыліся —*
*Вымаўляю годна: "Беларусь!"*

**Алесь ПІКУН,**
**вучань 10 класа Міхнавіцкай**
**СШ Калінкавіцкага раёна**

•

*Не пакідайце ж беларускай мовы!*
*Яна з'яўляецца крыніцай дабрыні:*
*У кожным гуку нашага жыцця аснова,*
*У кожным слове бачны нашы карані.*

*Ніхто не змог яе ніколі знішчыць,*
*Бо нельга сцерці словы з памяці людской.*
*Мова жыве, і памылкова лічаць,*
*Што аджыла яна ў гаворцы гарадской.*

*Мы — моладзь — разумець павінны:*
*Ад нас залежыць многае ў жыцці,*
*Культурны скарб*
*нам трэба перадаць нашчадкам,*
*І мову нашу мы павінны зберагчы!*

**Міхаіл СУБАЧ,**
**вучань 10 класа Вілейскай**
**беларускай гімназіі**

•

*Не пакідайце нашай мовы вы:*
*Яна — жыцця крыніца для народа,*
*І без яе, без мовы, на зямлі*
*Пражыць не зможам вельмі доўга.*

*Яе павінны пранясці*
*Праз хвалі часу, непагадзь стагоддзяў*
*Дзеля таго, каб штосьці у жыцці*
*Было сваё, адвечнае, ў народзе.*

*Каб мову нашу лёс не напаткаў*
*Лаціны старадаўняй слова,*
*І трэба, каб народ яе наш падтрымаў,*
*Бо нам патрэбна наша мова!*

**Іван ЛЯШКОВІЧ,**
**вучань 10 класа Вілейскай**
**беларускай гімназіі**

•

*На свеце моваў — як у свеце зорак,*
*Так многа, што іх проста не злічыць.*
*А беларусам лепшай зоркай — Сонцам —*
*Іх мова беларуская зіхціць.*
*Яна сваёй дзяржавы тварам стала*
*Пасля гадоў шматлікіх забыцця,*
*Найпрыгажэйшая з усіх славянак...*
*А можа — проста родная мая?*
*Яна нагадвае бабулі голас,*

*І хоць увесь свет абшукаеш,*
*Не знойдзеш больш такой красы,*
*Дзе слоўца кожнае так ззяе,*
*Як быццам кропелька расы.*

*Крыніца з чыстаю вадою,*
*Яе не вычарпаць да дна.*
*І ў вуснах вечнаю, жывою.*
*Адзінай праўдай ёсць яна.*

*Рабілі ўсё, каб яе знішчыць,*
*Чырвоным дротам паланіць,*
*Ды нават сярод папяліішчаў*
*Яна жыве і будзе жыць.*

*Бо мовы вечныя скрыжалі*
*Чужацкай не разбіць брыдзе,*
*І хоць яе укрыжавалі,*
*Я веру, што з крыжа сыдзе.*

*Яна заўсёды будзе з намі,*
*Празрыстая, нібы крышталь,*
*Як сонца разам з прамянямі,*
*Як з вагра кальчугі сталь.*

*Святлом хай новы дзень абудзіць,*
*Хай звонам звоніць у цішы!*
*Нязломнай сілай заўжды будзе*
*І вечнай песняю душы.*

*Яна, як бы малітва тая,*
*Штодзень гучыць хай з году ў год,*
*Бо мова нашая святая,*
*І без яе мы — не народ.*

**Алена ЛЮТКО,**
**вучаніца 11 класа**
**СШ № 67 г. Мінска**

# З дзённіка мовы беларускай

Ня пішу я для забавы,
Ні для бліхтру, ані славы,
Ні на смех табе, бязверца, —
Пішу я, бо плача сэрца.

К.Сваяк.

***Забыліся людзі на сваю родную Мову і Слова яе. А яна ж таксама жывая, са сваімі думкамі — марамі, спадзяваннямі, надзеямі. Паслухайце ж яе, Мову нашу Беларускую, паслухайце ўважліва, людзі добрыя, і не зачыняйце для яе свае сэрцы. Прашу вас...***

*28 студзеня, панядзелак.*

Сёння я адчула, што я — невідзімка. На мяне ніхто не зважае, ніводзін чалавек. Мне няма каму паскардзіцца на свой боль. Я нібыта нямая, а людзі быццам глухія. Толькі чысты аркуш паперы згадзіўся паслухаць мае скаргі. І толькі цяпер я зразумела, як ён умее ўважліва слухаць...

Між іншым, завуць мяне (ці, дакладней кажучы, звалі, пакуль я не стала невідзімкай) Моваю, а прозвішча маё — Беларуская.

Даўно ўжо жыву я на гэтай зямлі, кожную яе травінку-зёлачку, былінку, кожнае дрэўца ведаю я на ёй, чую шэпт нашае прыроды, песні і чароўныя казкі яе. І людзей нашых, рахманых ці зухаватых, самавітых ці сціплых, лагодных ці жвавых, усіх у твар ведаю. Раней іх душы і сэрцы былі для мяне расчыненыя, чаканым госцем была я ў іх, але цяпер не тое... Забыліся на мяне, Мову Беларускую, людзі, не пускаюць у свае сэрцы, няма там месца для мілагучнага слоўца майго. А я стаю і стукаю. Няўжо ніхто не ўчуе?

*1 лютага, чацвер.*

...Я зірнула на сябе ў люстэрка. Нейкае нямытае, калматае і знясіленае стварэнне пазірала на мяне. Што сталася са мною?.. Слёзы градам каціліся па маіх шчаках. Я закрыла твар рукамі, выбегла з хаты (якую й хатай не назавеш — сховішча звярынае) і бегла, бегла, сама не ведаю куды, спатыкалася, узнімалася і зноўку бегла...

...Стамілася. Адкрыўшы вочы, я ўбачыла, што стаю каля Храма. Я адчувала сябе кузуркай нейкай побач з ім... Магутныя залатыя крыжы яго падпіралі блакіт нябёс, купалы нібыта цягнулі свае рукі да Бога, малілі і прасілі, плакалі аб нечым званы.

...Сцякаўся натоўп. А я ўсё стаяла не ў сілах крануцца з месца, бо нават і ў Храме мне месца няма... Божа, навошта я жыву?

*5 сакавіка, нядзеля.*

Божа!.. Божанька!!! Я ведаю, Ты чуеш мяне, Ты адзіны ведаеш аб маім існаванні... Гэта я, Беларуская Мова, Табою пасланая! Я не магу так больш, не магу, НЕ МАГУ! Дапамажы мне, Усемагутны, дай моц мне і цярпенне падняцца з цемры, з гэтае дрыгвы, у якой я апынулася. Працягні мне Сваю руку! Няўжо я чымсьці саграшыла перад Табой? А можа, Ты забыўся на мяне? Не, не... Я веру, Ты зараз чуеш мяне. Ты не пакінеш мяне сам-насам, бо, акром Цябе, нікога ў мяне не засталося...

Бачыш, я стаю перад Табой на коленцах зусім безабаронная, мо не вартая Тваёй міласэрнасці. Я прашу Цябе, бо ведаю — усё ў тваіх руках, Цэлы Свет, дапамажы мне, Божа... Дапамажы, калі ласка, мне і дзецям Тваім, пераблытаўшым ДОБРАЕ І БЛАГОЕ!..

ЗАМЕСТ ПАСЛЯСЛОЎЯ

І ляцела Беларуская Мова над зямлёй, а побач — анёлы Божыя. І чыстай музыкай струменіла іх песня, залівочы, нібы рака, што высвабдзілася з путаў ільду па вясне, усё навакола, пранікала ў душы і розум людскі. І глухі пачаў тады чуць, а сляпы бачыць. Шчасце і Любоў несла яна, Беларуская Мова, людзям. І ў кожнага на вуснах гучала трапнае, зіхацела яркае слова яе, кожнага саграваьа цёплае і шчырае беларускае слова! Узрадаваліся тады людзі і палі ніцма перад пасланкай Божай, роднай Мовай, маці і ахоўніцай сваёй...

ДЗЯКУЙ ВЯЛІКІ І ЗЯМНЫ ПАКЛОН ТАБЕ, БЕЛАРУСКАЯ МОВА!

*28.04.98 (на Радаўніцу).*

**Ніна МЯЦЕЛЬСКАЯ,**
**9 "А" клас СШ N 126 г. Мінска**
**(цяпер: навучэнка 10 класа ліцэя пры БДУ).**

ШЛЯХІ

# Вехі і прарэхі,

## або Чатыры пытанні да беларуса

Чым адрозніваецца жывое ад нежывога? Правільна — тым, што ў жывога заўсёды ёсць свая сістэма каштоўнасцяў, свае арыенціры і прыярытэты. Нават амёба мусіць адрозніваць святло ад цемры і цяпло ад холаду, каб выжыць і прадоўжыць існаванне роду. Чым адрозніваецца беларус ад небеларуса? Правільна — тым, што ў беларуса няма ўласных арыенціраў, сваёй сістэмы каштоўнасцяў і прыярытэтаў. Гэтая дэзарыентацыя мае татальны характар, бо тычыцца ўсіх бакоў жыцця — эканомікі, палітыкі, культуры, духоўнага існавання. Сённяшняя сітуацыя нават горшая, чым была 7 гадоў назад, бо зганьбаваны ідэалы 91-га года, а спробы ажывіць савецкія фантомы ў межах адной, асобна ўзятай Беларусі становяцца ўсё больш абсурднымі. Гэта часам заўважаюць нават арганізатары таго руху: "заднім ходам — наперад". Тым больш цяжка разабрацца простаму чалавеку: дзе тут перад, а дзе — зад, дзе праўда, а дзе — хлусня, дзе мінулае, а дзе — будучыня. Усё пераблыталася ў галовах людзей: дабро — са злом, надзея — з роспаччу, справядлівасць — з крыўдаю. Толькі жыццё, горшае з кожным годам (а галоўнае — бязмэтнае ды бессэнсоўнае, як жабрацкая доля), сведчыць, што нешта тут не так, што сённяшні шлях вядзе зусім не туды.

Але гадзіна рашучых дзеянняў і вялікіх перамен яшчэ не надышла, бо не пройдзены пакуль "час здумлення" — этап асэнсавання пройдзенага і выбару сапраўды новых, а не спарахнелых мэт і арыенціраў.

На маю думку, жыццё паставіла некалькі стратэгічных пытанняў, ад вырашэння якіх будзе залежаць наш далейшы лёс. І вось сёння падыходзячы момант для іх абмеркавання, калі заўгодна — час нацыянальнай дыскусіі (але не рэферэндуму) з прыцягненнем сродкаў масавай інфармацыі, грамадскіх і палітычных рухаў, прыватных кантактаў.

Першае з іх — пытанне аб незалежнасці. Што такое беларуская незалежнасць — дабро ці зло? Гістарычная заканамернасць ці выбрыкі фартуны? Незаслужанае шчасце або катастрофа? У сувязі з гэтым узнікнуць пабочныя пытанні — пра адносіны да суседзяў, лёсе імперый, шляхах еўрапейскага развіцця і г.д. Але на асноўнае пытанне — ці быць Беларусі незалежнай, ці заслужыла яна свой суверэнітэт? — мусіць быць ясны, недвухсэнсоўны адказ.

Другое пытанне — аб зямлі. Нягледзячы на 70 гадоў індустрыялізацыі, беларусы ў вялікай ступені засталіся сялянамі, народам, блізкім "да глебы". Таму нават у канцы XX стагоддзя зямельная праблема для нас даволі актуальная. Ці можа зямля быць прыватнай уласнасцю як дом або пуня, ці толькі нічыйнай, "агульна-народнай" маёмасцю? Ці можа зямля быць таварам, сродкам вытворчасці і ўзбагачэння, або толькі неразменным мёртвым капіталам пад нагамі збяднелага народа? Пытанне амаль сакральнае, бо звязана не толькі з сельскай гаспадаркай, але са светапоглядам, з правам чалавека быць багатым ці бедным, працаваць на сябе і ўнукаў або сядзець увогуле склаўшы рукі. Права ўласнасці на зямлю, акрамя іншага, ёсць цывілізаваным спосабам "прывязкі" чалавека да розных вытокаў, да сваіх каранёў у духоўным і матэрыяльным сэнсе. Таму гэтую праблему можна было б паставіць і першай...

Трэцяе пытанне ўвогуле простае, але не для сучаснай Беларусі, тут яно, бадай, самае складанае: адносіны да беларускай культуры і ў прыватнасці — да яе мовы. Што такое беларуская мова — анахранізм ці жыццёвая перспектыва? Камень пад нагамі прагрэсу ці галоўны каталізатар нацыянальнага развіцця? Ці можа развівацца культура без сваёй мовы, а народ — без сваёй культуры? Ці патрэбна наогул беларуская культура, мо хопіць з нас амерыканскай і расійскай? Пытанні не рытарычныя, бо вельмі пашырана меркаванне, што не якасць культуры і яе мовы, а валавы збор бульбы і ўмоўна разлітага чыгуну сведчыць пра жыццёвы ўзровень краіны. Але ж калі культура — духоўная, палітычная, эканамічная — ёсць з'ява другасная, то што ж тады вылучае народ сярод іншых і вызначае ягоны лёс у гісторыі? Аб'ём гарэлачнай вытворчасці? Колькасць з'едзенага сала або цэментовых "Ільічоў" на душу насельніцтва? Пытанне пра беларускую мову і культуру пакуль не вырашана, проста пасля вядомага рэферэндуму яно набыло больш глыбокі, бадай — экзістэнцыяльны характар.

Апошняя з праблем таксама экзістэнцыяльная, калі не сказаць — філасофская: ці трэба беларусу свабода? Ці будзе ён і далей разменнай манетай і аб'ектам гандлю сваіх суседзяў або захоча стаць паўнапраўным суб'ектам, актыўным творцам уласнага лёсу? На побытавым узроўні гэта можна вызначыць так — ці хочам мы стаць асобамі-гаспадарамі з уласным бачаннем жыцця і адказнасцю за яго або застацца "шэрымі баранамі", якія паслухмяна цягнуцца насустрач пагібелі, перакладаючы віну за сваю слепату і нямогласць на чарговага "пастуха". Менавіта ў выхаванні самастойнай, думаючай, дзейснай асобы палягае перспектыва беларускага ўсталявання і галоўны рэзерв нашага прагрэсу. Прымус, гвалт, дыктат — ёсць прыкметы антынацыянальнай палітыкі і ворагі беларускай справы. Але ж свабода — ноша цяжкая, не кожнаму па сілах. Ці "пацгне" яе наш просты і не зусім "просты" чалавек? Хай на гэта ён адкажа сам ці, прынамсі, ягоныя дзеці.

Урэшце, вышэйзгаданыя пытанні ёсць своеасаблівы тэст на беларускасць і нацыянальную сталасць. І было б больш цікава даведацца, ці існуюць "жывыя" беларусы сярод чытачоў "Рэспублікі" або "Советской Белоруссии" (сярод спажыўцоў "ЛіМа", думаю, такія ёсць). У ідэале трэба было б мець меркаванні самага шырокага спектра — камуністаў і лібералаў, "лукашыстаў" і нацыяналаў, прафсаюзаў і прадпрымальнікаў, студэнтаў і пенсіянераў. Бо за апошнія 4 гады набралася шмат прыхаваных, нявыказаных праблем. Кожная партыя, рух і нават асобныя грамадзяне "закансерваваліся" ў сабе, "варацца ва ўласным сочыве". Існуе пэўная патрэба ў разбурэнні гэтых межаў, у рэалізацыі "дыскутабельнай энергіі" людзей і ўзнаўленні кантактаў між рознымі сацыяльнымі групамі. Толькі ў вольным абмене ідэямі і думкамі можа нарадзіцца ісціна і з'явіцца святло ў канцы беларускага тунеля.

**Васіль АЎРАМЕНКА**

*г. Магілёў*

І ПРА НАС

# Вечны Амосаў

***Ці трэба прадстаўляць Мікалая Амосава? Старэйшым чытачам ён добра вядомы. Для маладых скажу: гэта акадэмік медыцыны, вучоны, які даследуе праблемы кіравання складнымі сістэмамі, пісьменнік, адзін з найразумных і найсумленных людзей, якія жылі ў апошнія дзесяцігоддзі на прасторы цяперашняй СНД.***

**— Мікалай Міхайлавіч, мы з вамі апошні раз бачыліся зусім нядаўна — 15 гадоў назад. Бачыліся ў вас у Кіеве. У тым, 1983-ім вам споўнілася 70. Значыць, цяпер на вашым асабістым лічыльніку... Як вы маецеся?**

— Жыву. Не надта каб добра. Як усе жывуць. Нядаўна вось перанёс аперацыю на сэрцы. Уставілі клапан... Два шунты... Ну, ачуняў ужо...

**— Дзе вас апераравалі? У вашым інстытуце?**

— Ды вы што! Наш інстытут гэткіх старых, як я, апераваць не можа. Аперацыю рабілі ў Германіі.

**— Значыць, сваім усё-такі не давяраеце?**

— Я іх ведаю як аблупленых. Ні ў Кіеве, ні ў Маскве 85-гадоваму чалавеку клапаны і шунты адначасова не ўшываюць.

**— А ў Германіі, напэўна, гэта руцінная аперацыя?**

— Але, там робяць 4—5 тысяч аперацый са штучным кровазваротам за год.

**— За грошы вам рабілі? Ці бясплатна — у знак вашых заслуг?**

— Вядома, за грошы. Ну, начальства, дзякуй Богу, патрэбную суму знайшло...

**— Памятаецца, вы рашылі паставіць на сабе эксперымент па дасягненні актыўнага даўгалецця. Зараз з гэтым скончана?**

— Не, чаму ж? Я штодня хаджу, прыкладна з гадзіну раблю гімнастыку, у тым ліку трохі з гантэлямі. Адно не бегаю.

**— Гэта значыць, вы па-ранейшаму перакананы, што ў прынцыпе ваша методыка правільная?**

— Цалкам перакананы.

**— А вы не дапускаеце, што акурат інтэнсіўныя нагрузкі і нашкодзілі вашаму сэрцу?**

— Не павінна быць. Сэрца ў мяне было адпачатку неважнецкае: у мяне кардыястымулятар стаіць ужо 13 гадоў.

**— Яшчэ ў савецкі час вы здабылі славу аднаго з самых мудрых людзей у Краіне дурняў. Ці ўзбагацілася ваша мудрасць за апошнія паўтара дзесятка гадоў?**

— У гэтыя гады я думаў над досыць спецыяльнымі рэчамі. У прыватнасці, я зразумеў, што ў складаных сістэмах велізарную ролю адыгрывае такая з'ява, як самаарганізацыя і таму сацыяльную эвалюцыю ў прынцыпе нельга строга запраграмаваць. Выдаў дзве кніжкі на гэтую тэму. Трэцяя неўзабаве выйдзе...

**— Ну, а ці не зразумелі вы што-небудзь такое, што можна сфармуляваць на простай, абывацельскай мове? Як павінен жыць чалавек? Дзеля чаго ён жыве? Навошта?**

— Дарагі мой, што ж тут незразумелага? Жыве, таму што жывы. Таму што ў яго інстынкт жыцця. Так што гэтыя філасофскія пытанні бескарысна падымаць — навошта ды чаму.

**— Карацей кажучы, вы, як большасць хірургаў, былі і застаецеся чыстым матэрыялістам?**

— Але, чыстым матэрыялістам.

**— І ваш матэрыялізм не пахіснуўся з гадамі? Не ўзнікла ў вас жадання паверыць у Бога?**

— Не, не ўзнікла. Я з асалодаю паверыў бы ў Бога, таму што гэта вельмі хораша. У мяне ёсць знаёмыя, якія вераць. І асабліва калі мне было вельмі пагана перад аперацыяй, гэтак слаўна было б паверыць у Бога. Але я не знайшоў для яго месца.

**— Вы, як Лаплас, не знайшлі месца для "гіпотэзы Бога"... Што вы думаеце аб тым, што адбылося і адбываецца на тэрыторыі былога Савецкага Саюза наогул і Украіны ў прыватнасці? І чаго чакаеце надалей?**

— Нічога добрага я не чакаю. Будзе працяглая стагнацыя. Вельмі працяглая. Славянскі народ і пры цары быў не вышэйшы гатунак, а камуністы яго канчаткова сапсавалі. І прывесці яго цяпер да неабходных стандартаў вельмі цяжка.

**— А ці не была ў працэсе пераўтварэнняў апошніх гадоў дапушчана нейкая ракавая памылка?**

— Ракавых памылак я не бачу. Камунізм быў памылкай... Развучыліся працаваць... Вось нядаўна Святлана Сарокіна гутарыла з вашым віцэ-прэм'ерам па сельскай гаспадарцы Кулікам. У яго адна праграма, дайце тое, дайце гэта! Яшчэ ў 1989 годзе, калі я быў у Вярхоўным Савеце СССР, я палазіў па закрытых бібліятэках і вычытаў страшэнныя факты: на вытворчасць мільёна тон збожжа Савецкаму Саюзу трэба было ў 10 разоў больш трактароў і камбайнаў, чым іншым краінам. Па прычыне нікчэмнейшай якасці і анікуды нявартай эксплуатацыі гэтай тэхнікі. Дык вось я тады яшчэ падлічыў, што практычна пры савецкай сістэме, калгаснай і дзяржаўнай, ніколі краіну не накарміць, не забяспечыць. І вось цяпер яны — Кулік і іншыя — зноў заклікаюць да таго ж самага. Вядома, я разумею, што па ўзмаху чарадзейнай палачкі фермераў не стварыць, але вяртанне да старой сістэмы — гэта проста вар'яцтва.

**— І ўсё-такі ці верыце вы ў тое, што мы — і Расія, і Украіна — здолеем выкараскацца з гэтай ямы, у якую трапілі?**

— Рана ці позна мы, вядома, з яе выкараскаемся. Хоць да высокіх стандартаў не дойдзем. Прычым Украіна магла б выйсці з цяжкай сітуацыі хутчэй, чым Расія, але ў нас начальнікі яшчэ больш тупыя, чым у Маскве... А зрэшты, яны тупыя ў аднолькавай ступені.

**— У якім кірунку трэба рухацца? У вас жа заўсёды былі свае, арыгінальныя рэцэпты адносна вырашэння невырашальных праблем.**

— Усё, што трэба рабіць, даўно вядома. Пытанне ўпіраецца ў тое, што я сказаў пра самаарганізацыю. Соцыум — гэта складаная сістэма, дзе велізарная колькасць узаемазвязаных фактараў. Перашкод узнікае гэтак многа, што ўвесь час даводзіцца адступаць. А ідзі ўсім вядомых. У Расіі вельмі шмат мудрых эканамістаў. Я паважаю ўсіх асноўных — Гайдара і іншых дзеячаў гэтага накірунку. Яны адукаваныя людзі. Але я не ўпэўнены, што яны цвяроза ацэньваюць цяжкасці, якія стаяць перад імі. Ім здаецца: дастаткова стварыць добрую праграму. Я ж лічу: добрая праграма, якую можна было б рэалізаваць на практыцы, — мэта недасягальная. Трэба змірыцца з тым, што працэсы ўдасканалення будуць адбывацца вельмі марудна. Пакаленне павінна змяніцца... Акрамя таго, чалавек па сваёй біялагічнай прыродзе досыць свалачное стварэнне. А тут яшчэ гэтыя 70 гадоў... Сумленне ў людзей цалкам прапала... Памагчы справе магла б рэлігія, але яна ў нас, па ўсім відаць, яшчэ доўга не прыжывецца. Да таго ж праваслаўная рэлігія вельмі неважнецкая. Ідэя саборнасці — гэта амаль ідэя калгаса.

**— Якія сёння вашы навуковыя інтарэсы? Над чым працуеце?**

— Інтарэсы якраз зводзяцца да пабудовы мадэляў грамадства, мадэляў псіхікі. Гэта значыць інтарэсы ў мяне не мяняліся ўжо досыць даўно. Ну і, вядома, медыцына цікавіць у нейкай ступені...

**— А што з літаратурнай дзейнасцю? Мусіць, з таго часу, як вы перасталі апераваць, знікла і памкненне да белетрыстыкі — няма тых вострых філасофскіх перажыванняў, таго бязмежнага драматызму, з якіх вылепіліся "Думкі і сэрца"?**

— Неўзабаве павінны выйсці мае "Успаміны". Гэта вялікая кніга, аркушаў 25. Яшчэ выйдзе кніжка філасофская — "Мой светапогляд". А наогул вялікага стымулу пісаць у мяне сапраўды няма. Мяне не цікавіць творчасць дзеля творчасці. Ганарлівасць, славалюбства зніклі. Засталася адна толькі дапытлівасць, асалода ад спазнання.

**— Што ж, дзякуй за гутарку.**

— Дзякуй і вам. Вашу газету па-ранейшаму люблю. Я, напэўна, адзіны прафесар у Кіеве, хто яе абавязкова выпісвае. Добрая газета, люблю яе. І вашы артыкулы люблю чытаць, хоць не ва ўсім з вамі бываю згодны.

**Алег МАРОЗ**

*("Литературная газета", 18. XI. 98, N 46 / 5722)*

## Суладдзе сэрцаў

**Міжнародная літаратурная вечарына адбылася ў 1-й гімназіі горада Даўгаўпілса. Прысутныя — удзельнікі канферэнцыі "Інтэграцыя беларускіх недзяржаўных арганізацый у сетку супрацоўніцтва недзяржаўных арганізацый краін рэгіёна Балтыйскага мора", прадстаўнікі беларускіх і латвійскіх культурніцкіх арганізацый Рыгі і Даўгаўпілса. Праводзіў канферэнцыю Міжнародны цэнтр Олафа Пальмэ (Швецыя), Фонд Райніса і Аспазіі (Латвія), таму вядучым літаратурнай вечарыны стаўся кіраўнік Фонду Райніса і Аспазіі Арніс Мугурэвічс.**

**Першай было дадзена слова паэтцы Анне Ранцана (яна ж і рэдактар даўгаўпілскай газеты "Латгалес Лайкс"). Прачытаўшы па-латышску свае творы, Анна Ранцанэ папрасіла Сяргея Панізніка пазнаёміць прысутных з перакладамі яе вершаў на беларускую мову. А потым наш даўні сябар паэт Улдыс Бэрзыньш агучыў па-латышску вершы Алеся Разанава. Паэт і перакладчык Юрыс Кронбергс працуе дыпламатам у Швецыі і піша па-шведску. У яго і ў Бэрзыньша даўняя творчая дружба з беларускім паэтам і перакладчыкам Андрэем Гуцавым, былым выпускніком Латвійскага універсітэта. Таму ў госця з Гомеля была двайная нагрузка, каб па-беларуску прагучалі творы і Бэрзыньша, і Кронбергса.**

**А каб агульная атмасфера літаратурнай вечарыны была зразумелай гасцям з Нямеччыны, Швецыі, Літвы, у зале гімназіі працавалі сінхронныя перакладчыкі.**

**Што ж да культурніцкіх планаў канферэнцыі, то ўхвалены праекты ад Міжнароднага фонду Янкі Купалы: выдаць зборнік Янкі Купалы на шведскай мове і анталогію паэзіі і прозы латвійскіх беларусаў "Крывіцкія руны" — як паказальны вопыт гарманічнага ўзаемадзеяння нацыянальнай меншасці і Латвійскай дзяржавы 20—30-х гадоў.**

**З навін жа сучаснага стану інтэграцыйных працэсаў між беларусамі Даўгаўпілса і тытульнай нацыяй можна назваць наступныя: ёсць рашэнне думы аб стварэнні Беларускага культурнага цэнтра ў горадзе, ідзе падрыхтоўка да 100-годдзя з дня нараджэння аднаго з "вучыцеляў"-асветнікаў аўтахтоннага беларускага насельніцтва Латгальскага краю паэта Міколы Талеркі; дзякуючы спонсарам-дабрадзеям горада старшыня беларускага культурнага таварыства "Уздым" Станіслаў Валодзька выдаў зборнік перакладаў сваіх твораў на рускую мову пад назвай "Обращение к сердцу".**




**А за некалькі гадзін да ад'езду прадстаўнікоў беларускіх недзяржаўных арганізацый — удзельнікаў згаданай канферэнцыі — адбылася яшчэ адна імпрэза. Прадстаўніца фонду Райніса і Аспазіі ў Даўгаўпілсе, каардынатар Народнай вышэйшай школы ў Беркэнэлі спадарыня Інэса Андыня запрасіла беларусаў наведаць сядзібу бацькоў Яніса Райніса. З Беркэнэляў сямігадовы Яніс пайшоў у школу. Пазней ён пісаў: "З пяці гадоў свайго жыцця і ажно да пятнаццаці чуў я літоўскія народныя песні і сумныя беларускія народныя мелодыі.., якіх мая маці ведала вельмі многа і ахвотна спявала". Мама Яніса — Дарта — паходзіла з роду Грыкоўскіх. Сам паэт радавод сямейны тлумачыў так: "Па паданні продкі маці з вольнае Літвы баяры".**

**Вось чаму ў Беркэнэлях каля прытульнага каміна мы і гаварылі пра маці паэта, згадваючы яе 170-годдзе з дня нараджэння. Налета споўніцца 100 гадоў, як закончыўся ў Віцебску зямны шлях Дарты Пліекшанэ з роду Грыкоўскіх, баяраў Вялікага княства Літоўскага, Рускага, Жамойцкага. Так што пра духоўнае спадчыненне крывічоў і балтаў мы яшчэ будзем гаварыць.**

**С.ПАПАР**

З НАГОДЫ

# І яшчэ адно сведчанне

Малады паэт Алесь Бакач склаў анталогію найноўшай (1980—1995) беларускай паэзіі "Агледзіны". Выпусціў яе ў свет — у дасканалым мастацкім афармленні Юрыя Хілько — МФ "Беларускі кнігазбор", паздароў яго, Божа! Выданне паэтычнай анталогіі — гэта заўсёды пэўная падзея ў культурным жыцці грамадства, міма якой аматары паэзіі раўнадушна прайсці не могуць, бо гэта заўсёды цікава: хто, як і якімі творамі прадстаўлены ў ёй, чаму менавіта гэтымі, чаму выдатны паэт займае больш сціплае месца, чым іншыя сераднячкі-шарачкі і г. д., і г. д. Адметнасць анталогіі "Агледзіны" ў тым, што кожны аўтар прадстаўлены ў ёй адным вершам. Такая практыка ў літаратурным жыцці свету даўно вядомая. Мела месца яна і ў нашым беларускім кнігавыданні (напрыклад, анталогія балгарскай паэзіі "Сто гадоў, сто паэтаў, сто песень", Мінск, 1978). Дарэчы, у свеце пашырана — што датычыць анталогій — і практыка іншага роду: адзін вядомы ці нават выдатны паэт, на свой густ і па сваіх крытэрыях, складае анталагічны зборнік вершаў другога выдатнага паэта — жывога, а не са спадчыны. З такім "выбраным", зробленым паэтам-сябрам, вельмі цікава знаёміцца. Ужо сам адбор твораў для зборніка ёсць своеасаблівая форма літаратурнай крытыкі, па ім чытачы мяркуюць не толькі аб паэзіі ўшанаванага аўтара, але і аб мастацкіх густах і грамадзянскай пазіцыі ўкладальніка.

У нас звычайна выдаваліся анталогіі тэматычныя: пра каханне, пра маці, пра стваральную працу людзей, дзве (абедзве выдатныя) пра родную мову. Ну, а найбольш часта выходзілі анталагічныя зборнікі пра партыю, Леніна і кастрычніцкую рэвалюцыю, пра Саюз непарушны. Выдаваліся і неаўтарскія (складзеныя не аўтарам) анталагічныя зборнікі аднаго паэта, але гэта рабілася толькі ў дачыненні да нябожчыкаў. Да таго ж, былі гэта тыя часы, калі, па-першае, сам паэт-укладальнік быў у пэўнай меры залежны ад уласнага "ўнутранага" рэдактара і цэнзара (трэба лічыцца з дзяржаўна-палітычным рэжымам, нічога не зробіш!), па-другое, груба ўмешвалася ў склад падрыхтаванага ўкладальнікам зборніка выдавецкае начальства. Помню, папрасілі мяне быць укладальнікам зборніка выбранай лірыкі Янкі Купалы. Я даў згоду і вельмі ўважліва, з вялікім пачуццём адказнасці за творчы аўтарытэт Купалы паставіўся да адбору вершаў: толькі самае лепшае ў мастацкіх адносінах, толькі тое, што пацвярджае ранг вялікага паэта! І што ж з гэтага? Шаснаццаць найлепшых, малавядомых вершаў перыяду 1910—1926 гадоў рэдактар кнігі выкінуў, а замест іх уставіў каля дваццаці вершаў перыяду росквіту сацыялістычнага рэалізму (1935—1940). А прозвішча ўкладальніка засталося маё (гл. Янка Купала, "Выбраная лірыка", Мінск, 1967). І думай, чытач, пра мастацкі густ і ідэйна-эстэтычныя пазіцыі таго, хто зборнік склаў. І дагэтуль шкадую, што не забараніў ставіць на тытуле і ў выхадных дадзеных кнігі маё імя. (Дарэчы, у тыя гады агульнапрынята было спасылацца на цэнзуру, у сапраўднасці ж да дзяржаўнай цэнзуры — да Галоўліта — справа даходзіла рэдка, усё вырашалася на ўзроўні цэнзараў выдавецкіх — рэдактараў, часам вельмі мілых, ветла ўсмешлівых дзядзькоў і цётак).

Складальнік анталогіі аднаго верша "Агледзіны" быў у гэтым сэнсе ў непараўнана шчаслівейшым становішчы. Яму не трэба было засцерагацца ад самапраўства выдавецкіх начальнікаў і ад дзяржаўнай цэнзуры, не трэба было баяцца, што складзены ім зборнік будзе панявечаны. Гэта значыць, што ўсю адказнасць за адбор вершаў і за іх мастацкія вартасці ён узяў на сябе. Я не збіраюся рабіць падрабязны крытычны агляд анталогіі. Я хачу ўсяго толькі з прыдатнай нагоды трохі паразважаць аб некаторых прынцыповых, канцэптуальных момантах, якія непазбежна паўстаюць перад кожным, хто бярэцца за такую працу. І аб тым, як гэта адлюстроўвае сучасны ўзровень сусветнага і нацыянальнага кнігавыдання, як увязваецца з агульнай культурай нашага літаратурнага побыту, з мараллю і этыкай, нарэшце.

А. Бакач у кароценькім уступным слове папярэджвае чытачоў, што анталогія складзена з яго любімых вершаў. Значыць, падыход да адбору цалкам суб'ектыўны. З кожнага паэта ім выбраны не проста лепшы верш, а — любімы. Ну, што ж, таксама цікава. Давай, скажа чытач, паглядзім, што яму найбольш дапала да душы, ці тое, што і мне? Але, гаворыць далей укладальнік, анталогія — гэта "агледзіны набыткаў беларускай паэзіі перыяду 1980—1995 гадоў". Прабачце, але агледзіны набыткаў нацыянальнай паэзіі — гэта ўжо нешта іншае, чым проста "мае ўлюбёныя вершы". "Улюбёныя вершы" звычайна перапісваюцца ў альбом для сямейнага карыстання ў адным экзэмпляры, а калі кніга выходзіць ніштаватым накладам, адрасавана шырокаму колу чытачоў, то гэта ўжо менавіта агледзіны, выбар таго, што варта ўвагі грамадскасці, што адлюстроўвае рэальны стан сучаснай нацыянальнай паэзіі. І калі ў гэтым выбары адсутнічаюць многія значныя, відныя імёны — значыць, яны не спрычыніліся да агульных набыткаў, іхняга ўкладу няма? Так, выходзіць? Узнікаюць пытанні, як бачыце. Як жа быць з падыходамі і прынцыпамі ўкладання?

Паўтараю: я пішу не рэцэнзію і не даю ацэнак уключаным у анталогію вершам. Думаю, сёння ўжо і сам укладальнік бачыць, што сям-там ён памыліўся ў выбары твора, што ў некаторых выпадках яму элементарна здрадзіў густ. А можа, сказаўся недастатковы літаратурны досвед. А можа, зашкодзіла паспешлівасць. Але — выбраў дык выбраў. Спадзяюся, таварыш разумеў, што ягоны выбар — рэч падступная: гэта люстэрка, якое паказвае не толькі фасад, але і тылак. Горш тое, што ў кнізе натыкаешся на незразумелыя ўпушчэнні. Напрыклад, няма ў "Агледзінах" аднаго з самых выдатных беларускіх паэтаў другой паловы 20-га стагоддзя Сцяпана Гаўрусёва, хаця ён у апошнія гады жыцця (памёр у 1988) апублікаваў некалькі дзесяткаў моцных, дасканалых вершаў (слабых ён не пісаў ніколі). Не знайшоў я ў анталогіі і такога слыннага імя, як Янка Сіпакоў. Не ўключаны чамусьці і такія вядомыя паэты, як Алесь Барскі, Валянціна Коўтун, Пятро Прыходзька, Любоў Тарасюк... З паэтаў беларускай дыяспары (а іх там добры дзесятак, калі не больш) прадстаўлены толькі Масей Сяднёў і Ян Чыквін. А ў астатніх "улюбёных вершаў" укладальнік не знайшоў? Не знайшоў ці не шукаў? Шкада, што столькі паэтычных імён засталіся па-за агледзінамі. А калі гэта па няўважлівасці ці па бестурботнасці — дык тым больш шкада. Крыўдзіць паэтаў няўвагай і абыякавасцю — няможна, грэшна. Ды і гонару гэта не робіць. Асабліва, калі сваё імя, свой верш уключаеш, а іншых паэтаў — ды яшчэ якіх паэтаў! — ігнаруеш. Вымушаны сказаць пра гэта, бо ў апошні час бесцырымоннасць і хамства ў абыходжанні з паэтамі і пісьменнікамі для многіх грамадзян становіцца амаль нормай. Кажу яшчэ і таму "шкада", што лірычная палітра анталогіі магла б быць

АДГАЛОСКІ

# На прынцыпах высокай любові

Памятаю сваю першую сустрэчу з "жывымі пісьменнікамі". Маці ў саўгасе, дзе яна працавала, далі запрашальны білет на вечарыну, якая праходзіла ў полацкім Доме афіцэраў. Яна адправіла мяне, і я, чатырнаццацігадовы хлапчук з полацкай ускраіны, затаіўшы дыханне слухаў вершы, якія чыталі Пятрусь Броўка, Пімен Панчанка, маладыя тады Рыгор Барадулін, Генадзь Бураўкін... Ва ўсе вочы глядзеў на людзей, чые імёны былі знаёмыя мне са школьных падручнікаў, з кніг і публікацый.

Гэтае сваё ўзрушэнне, салодкі халадок захаплення ля сэрца пранёс да сённяшняга дня. Я не надта памятаю тыя выступленні, але агульны настрой, адчуванне судакранання з нечым святым і прыгожым не забыліся. Магчыма, хто-небудзь з маіх сённяшніх равеснікаў і маладзейшых за мяне іранічна ўсміхнецца, чытаючы гэтыя радкі, але так было, і я ўдзячны таму моманту высокага палёту душы. Я і цяпер часам лаўлю сябе на нейкім радасным здзіўленні, калі бываю разам з Янкам Брылём ці Сяргеем Грахоўскім, Анатолем Вярцінскім ці Міколам Аўрамчыкам, бо тое дзіцячае ўзрушэнне стаіць у душы, бо творца, літаратар — для мяне з таго часу — не пусты гук. І з удзячнасцю ў душы лёсу, які звёў мяне ў свой час з Уладзімірам Караткевічам, Міхасём Стральцовым, Еўдакіяй Лось, жыву і па сённяшні дзень.

Кажу пра гэта не ў парыве нейкіх сентыментальных настальгічных успамінаў. Кажу дзеля таго, каб выказаць свае адносіны да ўсяго, што называецца беларускай літаратурай, бо высокае шчасце і адказнасць — быць у ёй, служыць ёй.

Пра гэта думаецца ўсё часцей у нашыя няпростыя дні, у час пэўнай, а то і поўнай пераацэнкі каштоўнасцяў, у час спрэчак і прыходу новых пакаленняў, у час, калі ў нас нібыта ідзе раздзяленне на дзве літаратуры — старую, канфармісцкую і прыкарытную, і новую — радыкальную і бескампрамісную, не абцяжараную догмамі і не запэцканую ценем сацрэалізму.

Мушу выказаць свае меркаванні і, пэўна, у нечым расчараваць некаторых, бо дзяленне такое здаецца мне, мякка кажучы, не надта сур'ёзным. Ведаючы асабіста таго-сяго з "абвяргальнікаў" і "выкрывальнікаў", думаю, што і яны ў душы мусяць прызнацца сабе ў гэтым.

На пустым і голым месцы, як вядома, нічога не прарастае. І парасткаў, як і сейбітаў, было нямала, і няхай насенне было неаднолькавым і ўсходы былі рознымі, але ж поле было ўзарана і пасеяна. А затым і дагледжана, як гэта дазвалялі ўмовы надвор'я і ўменне тых, хто даглядаў. Так было ва ўсіх, так было і ў нас, хоць мелі мы досыць складаную кліматычную сітуацыю. Так, пісалі пад заказ, так — грашылі агіткамі, прыслугоўвалі часам не лепшым ідэям, так — даносілі і звяргалі, рабілі прыкрасці і здраджвалі нямала. Чалавек — істота слабая, парой не вельмі прыемная. Але дрэва расло, яно было адзіным: і з крывымі галінкамі, і з роўнымі, і з сухімі, і з зялёнымі. Талент увогуле з'ява аўтаномная, і хоча ён гэтага ці не хоча, — стваральная.

Літаратура жыла, стваралася ў многім не дзякуючы клопату ці апецы, супраціву ці кантролю, а насуперак ім. За аксакаламі падрасталі маладыя, на месцы высечаных лясоў прабіваўся падлесак.

Сёння нярэдка ад сваіх старэйшых сяброў-пісьменнікаў чую пра гэту непараўнаную сувязь пакаленняў, якая існавала, як аксакалы рыхтавалі сабе замену, як маладыя ўрасталі ў літаратурную сям'ю.

— Нас класікі гладзілі па галовах, — сказаў мне нядаўна адзін вельмі вядомы і слынны калега.

Не, я не ідэалізую, я памятаю, між тым, як пры дапамозе, вольнай ці нявольнай, тых жа класікаў калечыліся творчыя біяграфіі, кампрамісы перарасталі ў прыстасаванства і фарысейства. Усяго гэтага, на жаль, хапала. Але быў прынцып — прынцып непарушнасці літаратурнага працэсу, прынцып адчування прыналежнасці да адной вялікай справы. І будаваўся той падмурак, без якога ніводзін сённяшні аматар кінуць важкі глыж у "белсавецкую літаратуру" проста не мог з'явіцца. Як ні кажы, а глыбіні думкі, адчуванню слова вучыліся ў таго ж Броўкі ці Танка, Мележа ці Куляшова. І ў тым ліку тыя, хто іх сёння не прызнае.

Малады летуценны юнак з Оршы пісаў захопленыя лісты класікам, а потым стаў Уладзімірам Караткевічам, тым Караткевічам, якога сёння часам супрацьпастаўляюць тым яго першым настаўнікам. Так, вучань, бывае, перарастае настаўніка, нават сыходзіць ад яго, але ж напачатку быў усё ж настаўнік. Адчуванне, што да іх нічога людскага не было, такое ўласцівае сёння некаторым творцам, крыху наіўнае і смешнае, бо так **проста не бывае ў прыродзе.**

І нікуды не выкінеш з агульнага кантэксту ні Глебку, ні Лужаніна, ні Чыгрынава, ні Сачанку, ні Шамякіна, ні Пташнікава, падзяляеш ты іх палітычныя ці эстэтычныя погляды або не. І ні ў якім разе літсуполкі і аб'яднанні, розныя канцэптуальныя праекты не закрываюць сабой увесь размаіты шматколерны свет літаратуры, бо ёсць там кветкі, якія, апроч усіх іншых, вырастаюць і самі па сабе. Абы, паўтаруся, тое б поле існавала.

"Сумна чытаць правінцыйны "ЛіМ", — ускліквае неблагі паэт і няўрымслівы рэвалюцыянер. Што ж, нейкая доля праўды ў гэтым, на жаль, ёсць, але "ЛіМ", хай сабе і правінцыйны па меркаванні барацьбіта і змагара, на сёння — адзінае найбольш поўнае разнастайнае выданне такога кшталту, веснік і трыбуна, бо новыя праекты — вузка карпаратыўныя і канцэптуальныя, дзе ёсць месца толькі аднадумцам, дзе часта з-за гэтага зніжаецца планка патрабавальнасці да аўтара. А ў тым "правінцыйным" "ЛіМе" можна выказаць свой самы смелы маніфест, можна знайсці трыбуну для выражэння думкі, для палемікі.

Ёсць аб'ектыўныя працэсы, якія закранулі культуру і літаратуру на ўсёй постсавецкай прасторы. Пра іх усе ведаюць і іх усе адчуваюць. Між тым, беларускі шлях крыху адрозны, бо сённяшнія маладыя, хто прыходзіць у літпрацэс, — асобы адукаваныя і дасведчаныя часам значна больш, чым іх папярэднікі, яны больш інтэграваныя ў сучасныя еўрапейскія плыні. Ім цяжка, бо пабяднела парой глеба народнай сялянскай культуры, якая сілкавала таленты. Бо як бы інтэлектуальна ні заглыбляліся, якія б фармальныя і эстэтычныя пошукі ні рабілі творцы, без трывалых каранёў галіны сохнуць. Тым не менш, у беларускіх літаратараў перспектывы досыць аптымістычныя, бо, па законах прыроды, выжыванне ў неспрыяльных умовах надае новыя якасці, мацуе арганізмы, робіць іх трывалымі і жывучымі.

Таму, клапоцячыся пра здароўе адзінага дрэва, падтрымліваючы новыя маладыя парасткі, важна не нашкодзіць, не дадаць да цяжкасцяў аб'ектыўных суб'ектыўныя, як гэта

багацейшай — і на радасць чытачам, і дзеля прэстыжу нацыянальнай паэзіі ў вачах грамаства.

Пераважная большасць вершаў, уключаных у анталогію "Агледзіны", належыць пяру маладых і зусім маладых паэтаў — аўтараў першай кнігі і нават проста першых публікацый у перыядычным друку. Для мяне асабіста — гэта найбольшая радасць, бо за гэтымі пачатковымі выявамі мастацкага дару хочацца бачыць вялікую паэтычную будучыню Беларусі. Прыемна было пераканацца, што і сталыя майстры слова знаходзяцца ў добрай творчай форме. Чым уражваюць у большыні сваёй вершы "Агледзінаў"? А тым, чым і павінна ўражваць сапраўдная паэзія: адметнасцю мастацкага бачання, яркасцю вобразаў, змястоўнай ёмістасцю радка, небанальнасцю думкі, свежасцю і сілай пачуцця, выразнасцю і дакладнасцю мовы, пошукамі цікавай лірычнай камапзіцыі, строфікі, рытмікі і іншых форм выяўлення. Не, што ні кажыце, а столькі паэтычных галасоў (173, калі не збіўся з ліку) з аднаго невялікага адрэзку часу, — пры ўсіх агаворках і заўвагах, — гэта нешта ды значыць. Гэта сведчыць пра многае. Такога магутнага масавага выбуху паэтычнай энергіі, такога маштабнага самасцвярджэння нацыянальнага духу ў паэтычным слове Беларусь не ведала бадай што ніколі — нават у першае паслякастрычніцкае дзесяцігоддзе, на якое мы звычайна азіраемся як на перыяд бурнага нацыянальнага рэнесансу. Тады імён было, можа, і не менш, але між тагачасным і сённяшнім масавым выяўленнем паэтычных талентаў ёсць істотная розніца. Па-першае, сёння мы маем зусім іншы, непараўнана вышэйшы якасны, прафесійны ўзровень. Па-другое, тады пераважалі пачуццё, эмоцыя, экспрэсія, сёння — роздум, асэнсаванне, выснова, спалучаныя з пачуццём, вядома. Па-трэцяе, і гэта галоўнае, тады вядучым матывам быў матыў сацыяльны, дакладней — сацыяльна-класавы, сёння — нацыянальны, сёння ўсё — і розум, і душа, і сэрца паэта — падпарадкавана адной усёахопнай ідэі — ідэі духоўнага і культурнага адраджэння беларусаў як нацыі, беларуса як чалавека, ідэі нацыянальна-дзяржаўнага самасцвярджэння. Гэта перш за ўсё і дорага. Бо толькі гэтая ідэя здольная вывесці наш народ на шлях актыўнага гістарычнага жыцця. І яна выведзе — насуперак усім нягодам-перашкодам, на злосць ўсім незычліўцам і зламыснікам, буйнарослым і дробным маральным пачварам. Сведчанне гэтага і ёсць небывала шчодрае прарастанне па ўсёй беларускай зямлі жывога і жыццядайнага паэтычнага слова.

**Ніл ГІЛЕВІЧ**

---

часта здараецца. Лічу малаплённым высвятленне, хто на сёння лепш ці больш прагрэсіўны, хай гэта дакажуць творы!

Хто сёння перашкаджае нашым крытыкам, сярод якіх нямала і маладых, па-гаспадарску і зацікаўлена зірнуць на літаратурны працэс, адышоўшы ад дробнай канцэптуальнасці, групавых ці сяброўскіх прывязанасцяў? На нядаўняй вечарыне ў памяць Рыгора Бярозкіна ўсе выступоўцы казалі, як той умеў радавацца новаму імю, адкрыць новы талент, як глыбока і грунтоўна ён прасочваў увесь літаратурны працэс. І ў воклічы-скарзе Сяргея Патаранскага ёсць глыбокі сэнс — маладым трэба ўвага, маладым патрэбны спрэчкі вакол іх імёнаў, іх не заменіш эрзацам з боку бліжэйшых паплечнікаў і сяброў, выхаваннем пачуцця сваёй выключнасці.

Памятаеце анекдот: у кожнага свая кампанія? Дык вось, пры ўсёй свабодзе выяўленняў і ацэнак, пры вузкай карпаратыўнасці выданняў, часопісаў і суполак ва ўсім свеце існуюць агульнанацыянальныя арыенціры. Інакш можна, проста сабраўшыся сярод сваіх, вылучыць "рэгіянальнага генія", маліцца на яго, не заўважаючы і не хочучы заўважаць тое, што існуе побач.

Скрушна і з болем пісаў свой артыкул "Залаты век графаманіі" Леанід Галубовіч. О, як я яго разумею! Ды ўслед за ім паўтараю, што адзінае выйсце — "тварыць і ў гэтым свеце свой уласны свет".

І тыя, хто яго твораць, — невынішчальныя, бо гэта не арганізуеш і не забароніш, не спыніш і не надасі рысы ўсеагульнага руху. Гэта глыбока ў душы і сэрцы, гэта настолькі патаемна, што не дакапаешся ніколі.

І разам з тым — шукаць аднадумцаў, каму можна на момант прыадкрыцца, хто зразумее і ў маўчанні, хто будзе суперажываць радок, а то і проста заўважыць тое патаемнае і высокае.

Не спадзяюся на шырокі водгук і розгалас, ды і мэт такіх не стаўлю. Проста аберагаю тую высокую любоў, якая нарадзілася ў дзяцінстве, і шукаю для сябе самога тыя высновы і ісціны, якія не даюць волі глухой паняверцы і зацятай роспачы. А там, як кажуць, Бог — бацька...

І ўсё ж літаратура будзе жыць, бо мы ў ёй толькі кароткія знічкі, якія чыркнуць у бясконцым космасе, пакінуўшы або не пакінуўшы след ці ўспамін. Будзьма ж бачыць і графаманаў, і творцаў, аддаючы шчыра і бясстрасна належнае кожнаму. Бо інакш усё, што мы робім, па вялікім рахунку не мае ніякага сэнсу.

**Навум ГАЛЬПЯРОВІЧ**

КНІГАРНЯ

# "...Ва імя святога ўсім нам Адраджэння"

Нямала ў нацыянальнай гісторыі постацяў, якія з гадамі не толькі не блякнуць, а больш таго — іх прыцягальная сіла яшчэ павялічваецца і значнасць здзейсненага ў імя Бацькаўшчыны, свайго народа паўстае ў куды прывабнейшым выглядзе, чым дагэтуль. Такіх носьбітаў нацыянальнай ідэі, духу беларускасці дало і наша стагоддзе. І не толькі пачатак яго, калі тварылі Янка Купала, Якуб Колас, Максім Багдановіч, Цётка і іншыя. "Ураджайнымі" былі і першыя паслярэвалюцыйныя, а таксама дваццатыя і трыццатыя гады. Апошнія, канечне, і трагічныя. І для ўсяго народа, але ў не меншай, а часам і большай ступені — для нацыянальнай інтэлігенцыі. І ўсё ж зерне кідалася ва ўрадлівую глебу, а таму з'яўляліся яго дружныя ўсходы...

Шмат у нацыянальнай гісторыі постацяў, вартых увагі. Ды ў гэтым вялікім шэрагу асабліваe месца належыць братам Гарэцкім — знакамітаму класіку беларускай літаратуры Максіму Гарэцкаму і акадэміку Гаўрылу Гарэцкаму. Выпадак у многім унікальны. Рэдка надараецца, каб са звычайнай сялянскай сям'і выйшлі два сапраўдныя волаты духу. Але феномен братоў Гарэцкіх — гэта і пацвярджэнне, наколькі багатая і шчодрая наша зямля на таленты, і адначасова сведчанне, што яркае дараванне — у многім і дар Боскі. І далучацца да жыцця такіх людзей, значыць і самому станавіцца духоўна багатым.

Балазе, у гэтым кірунку апошнім часам робіцца шмат. І паступова М. Гарэцкі займае належнае месца ў нацыянальнай гісторыі, тое месца, якое заваяваў сваёй дзейнасцю. Робяцца ўдалыя падступы і да асэнсавання жыцця і навуковага подзвігу Г. Гарэцкага. На жаль, у нас недаацэньваецца роля мемуарных жанраў. І гаворка ў дадзеным выпадку не пра звычайныя ўспаміны, якія часцей за ўсё абмежаваныя ў памерах і таму ў многім носяць эскізны характар. Маецца на ўвазе мемуарная літаратура, напісаная людзьмі, якія добра ведалі тых, пра каго яны пішуць. У сувязі з гэтым само з'яўленне кнігі Радзіма Гарэцкага "Ахвярую сваім "я"..." цяжка пераацаніць. Пра братоў Гарэцкіх піша нашчадак іх слаўнага роду — пляменнік першага і сын другога, таксама выдатны вучоны, віцэ-прэзідэнт Нацыянальнай Акадэміі Беларусі, а да ўсяго — знакаміты адраджэнец сённяшніх дзён.

Перад намі жыццяпіс двух лёсаў, што складаецца з асобных нарысаў, артыкулаў, многія з якіх перад гэтым публікаваліся ў часопісах, у тым ліку ў "Полымі". Але перад намі і цэласная кніга, якую аўтар прадмовы "...Ва імя святога ўсім нам Адраджэння" М. Мушынскі называе "трагічнай аповесцю ў нарысах". Калі прытрымлівацца такога вызначэння, дык гэта аповесць, у сюжэтную канву якой прыцягнута шмат дакументальных, найперш архіўных матэрыялаў, у тым ліку і такіх, што да нядаўняга часу знаходзіліся, як кажуць, за сямю замкамі, бо належалі ведамству, якое некалі ламала лёсы братоў Гарэцкіх. Але менавіта матэрыялы з архіваў КДБ Рэспублікі Беларусь, а таксама Федэральнай службы бяспекі Расіі па Смаленскай вобласці шмат даюць новага, раней невядомага. З карысцю выкарыстоўвае Р. Гарэцкі і ўспаміны дачкі М. Гарэцкага Галіны Максімаўны, згадкі аб перажытым свайго бацькі Гаўрылы Іванавіча, звяртаецца ён і да асобных публікацый, што трапілі на старонкі зборніка "Максім Гарэцкі: Успаміны, артыкулы, дакументы", часам спасылаецца на працы вядомых літаратуразнаўцаў, якія пісалі і пішуць пра М. Гарэцкага, на яго творы.

Канечне, падаць усё гэта так, каб чытачу было цікава, няпроста. Тым больш, што спачатку пісалася не сама кніга, а асобныя нарысы, артыкулы, з якіх яна потым і нарадзілася. У такіх выпадках магчымы асобныя паўторы (на жаль, дзе-нідзе яны сустракаюцца). Бадай, калі прыводзяцца вялікія вытрымкі з дакументаў, а то і самі дакументы цалкам, іх трэба было б больш каменціраваць (часта Р. Гарэцкі давярае толькі факту і не асэнсоўвае яго). Ды на ўсё гэта не звяртаеш увагі і не ўспрымаеш як выдаткі. Чаму? Адказ просты. Для гэтага варта звярнуць належную ўвагу на саму назву кнігі. Гэта пачатак вядомага прызнання М. Гарэцкага, якое цалкам гучыць так: "Ахвярую сваім "я" ва імя святога ўсім нам Адраджэння". М. Гарэцкі быў здатны забыць дробязнае, выпадковае, на першы план ставячы асноўнае і лёсавызначальнае. А ці не гэтым павінны кіравацца і мы, ацэньваючы кнігу Р. Гарэцкага?

Вартасці яе найперш у тым, што падобную кнігу, акрамя Радзіма Гаўрылавіча, ніхто іншы напісаць і не змог бы. Перад намі найперш сведчанні чалавека з роду Гарэцкіх, і многае з таго, пра што расказвае ён, ніхто іншы згадаць не можа. Па-другое, нават звесткі, якія на першы погляд лёгка "прачытваюцца" (для прыкладу, гаворка пра радавод Гарэцкіх, калі аўтар шмат у чым адштурхоўваецца і ад "Камароўскай хронікі" М. Гарэцкага), у нечым істотным "расшыфраваны" не могуць быць, бо трэба ведаць і тое, што ў мастацкі твор не ўвайшло.

А галоўнае — сама скіраванасць размовы. Пра двух выдатнейшых адраджэнцаў піша, так бы мовіць, іх духоўны брат, гэткі ж самы выдатны адраджэнец. Іншая справа, што Р. Гарэцкі належыць да чарговай хвалі нацыянальнага Адраджэння. Але яно, гэтае новае Адраджэнне, Адраджэнне, сведкамі якога (а многія і актыўнымі ўдзельнікамі) мы з'яўляемся, куды большую карысць можа прынесці, калі прыняць пад увагу ўрокі папярэднікаў. І разам з тым зрабіць пэўныя сумныя высновы.

Што да ўрокаў таго Адраджэння, якое адбывалася ў 20—30-ыя гады, дык пра іх — уся кніга. А да сумных высноў кожнаму прыходзіць самому. Гэта ўжо — зыходзячы з таго, наколькі здатны ён у імя самага святога ахвяраваць... сваім "я". А такія высновы трэба рабіць, калі знаёмішся з трагічным лёсам М. Гарэцкага, які напаткаў яго ў 30-ыя гады. І ў большай ступені, калі даведваешся, як праламляўся страшны час сацыяльных зрухаў, калі "косці мелюць" (выраз Лукаша Калюгі), у лёсе Г. Гарэцкага. На шчасце, ён усё ж выжыў. Але чаго каштавала гэтае супрацьстаянне сістэме, калі на Беларусь змог вярнуцца толькі ў 1968 годзе, амаль праз сорак гадоў пасля аб'яўлення "ворагам народа".

Дык вось, калі знаёмішся з матэрыяламі следства, бачыш, што асобныя людзі з самага блізкага акружэння Г. Гарэцкага давалі супраць яго паказанні. Не, я не пра тое, каб станавіцца гэткім маральным суддзёй. Не дай Божа нешта падобнае перажыць! Толькі самыя-самыя маглі вытрымаць жорсткія катаванні, якім падвяргаліся яны ў засценках НКУС. Да гэтых "самых-самых", дарэчы, належаў і М. Гарэцкі: "Усе дакументы, якія ёсць у справе, сведчаць пра тое, што... абвінавачванняў у адносінах да сябе не прызнаў і не даў адмоўных паказанняў ні на каго другога".

А наконт сумных высноў... Прыгадайма, як таго ж Г. Гарэцкага, а таксама М. Гарэцкага не пакідалі ў спакоі розныя "добразычліўцы", выступаючы ў друку, калі ім нешта не падабалася. І рабілася гэта, як быццам, з самых лепшых намераў. Не разумелі (а многія і не хацелі разумець), што тым самым і пад сябе падкладваюць своеасаблівую міну замаруджанага дзеяння, якая рана ці позна абавязкова спрацоўвала. Але ці стала гэта сапраўдным урокам нам, сённяшнім? Як быццам, пастаноўка падобнага пытання больш чым рытарычная. Колькі гаворкі вядзецца пра правы і свабоды, як адстойваецца неабходнасць кожнаму мець свае погляды. Яно так, але... Часам чытаеш выказванні такога барацьбіта і з прыкрасцю заўважаеш, што ён гэтаксама непрымірымы да тых, хто думае інакш, чым ён сам. Памятаеце, як яшчэ нядаўна ці не другасортнымі з'яўляліся тыя, хто не ўступіў у КПСС? А цяпер... Сям-там на поўным сур'ёзе пішуць, што якія гэта настаўнікі, калі яны не ходзяць у царкву? Маўляў, чаму могуць навучыць сваіх выхаванцаў, калі забываюць пра агульначалавечыя каштоўнасці? Але ж можна не ў царкву хадзіць, а ў касцёл... Ды і ў царкву можна не хадзіць, і ў касцёл, а быць годным настаўнікам, годным педагогам...

Як быццам гэтымі сваімі развагамі я адышоў ад зместу кнігі. Адышоў, калі мець на ўвазе толькі тое, што ў ёй напісана. А калі мець на ўвазе тое, што гучыць падтэкстава (а чым кніга больш таленавітая, тым важкасць падтэксту асабліва значная), дык, як на маю думку, гэта ці не адна з важнейшых высноў, да якой нельга не прыйсці. Браты Гарэцкія не толькі былі выдатнейшымі людзьмі, блізкімі сваімі адраджэнскімі поглядамі (адзін з раздзелаў кнігі так і называецца "Максім і Гаўрыла Гарэцкія — духоўнае адзінства"), яны з'яўляліся і тымі **народнымі** інтэлігентамі, інтэлігентнасць якіх праяўляецца літаральна ва ўсім, у тым ліку і ва ўменні зразумець тых, з кім не пагаджаешся. А гатоўнасць пайсці на такі ўчынак зноў жа вынікала з усведамлення многім ахвяраваць "...ва імя святога ўсім нам Адраджэння". Святога для тых, хто прагне яго, хто жыве ім. А такіх людзей сёння ўсё ж пераважная большасць. Адраджэнцаў, гатовых рабіць штодзённую, карпатлівую і нярэдка непрыкметную працу ў імя беларускасці, а не толькі выкрыкваць гучныя лозунгі, біць сябе кулакамі ў грудзі, забываючы, што наўрад ці гэтым можна дасягнуць жаданага поспеху. Бо той, хто шмат крычыць, хутчэй паказвае, наколькі ён слабы, калі не можа іншымі метадамі пераканаць.

І яшчэ ўражанне, якое застаецца ад кнігі. Браты Гарэцкія, канечне ж, вабяць сваімі справамі, здзіўляючай жаццядайнасцю таленту, важкімі набыткамі, якія пакінулі пасля сябе. Але ж яны прыгожыя і знешне, у чым лёгка ўпэўніцца, калі знаёмішся са шматлікімі здымкамі, якімі аздоблены тэкст. А гэтая гарманічнасць хараства душэўнага і знешняга таксама сведчанне неардынарнасці іх як асоб.

Ды будзем жа ганарыцца, што былі ў нас такія выдатныя людзі. І не будзем забываць, што род Гарэцкіх мае адну вельмі важную сямейную традыцыю — адданасць справе беларускасці. Каб жа і іншым сем'ям такія арыенціры, што перадаваліся б з пакалення ў пакаленне!

**Кастусь ЛЯВОНЧЫК**

СУСТРЭЧЫ

# Коласаўскія дні на Пухаўшчыне

З нагоды Коласаўскіх дзён на гасціннай Пухавіцкай зямлі адбылася сустрэча супрацоўнікаў музея Я.Коласа з вучнямі і настаўнікамі другой мар'інагорскай школы. Невыпадкова гэтая мясціна была абрана для сустрэчы. Пачынаючы з 1933 года, Я.Колас выбраў гэты край для летняга адпачынку. Не любіў ён курортаў, лічыў, што няма нічога мілей роднай Беларусі.

Загібелька, Балачанка, Беразянка, Вусце, Падбярэжжа, Талька — назвы мясцін на Пухавіцкай зямлі, у якіх Я.Колас адпачываў разам з сям'ёю і пра якія пісаў у сваіх творах.

***Калі агледзіш хвайнякі***
***І гэты кут пазнаеш бліжай,***
***Збіраючы баравікі, —***
***То вывад я раблю такі:***
***Мне Загібелька лепш Парыжа.***

Пра цёплыя адносіны да роднага краю, у тым ліку да Пухаўшчыны, гаварылі ўдзельнікі сустрэчы.

Уступнае слова трымаў Алесь Лрановіч, дырэктар Пухавіцкага краязнаўчага музея, які расказаў пра памятныя мясціны, звязаныя з Коласам, і пазнаёміў прысутных з гасцямі з Мінска.

Вядомы краязнавец Браніслаў Зубкоўскі пазнаёміў дзяцей са сваёй кніжкай "Чаму Загібелька лепш Парыжа".

Мікола Жыгоцкі, супрацоўнік музея, гаварыў дзецям пра сваю даследчыцкую работу, пра кніжкі, у якіх адлюстраваў знаходжанне песняра на Пухаўшчыне.

Пазнаёміліся дзеці і з пісьменнікам Алесем Рыбаком. Ён прачытаў ім сваё апавяданне.

Цікава было прысутным пабачыць і пачуць малодшага сына Я.Коласа — Міхася Канстанцінавіча, героя дзіцячай паэмы "Міхасёвы прыгоды", дзе апісана пухавіцкая мясціна — Талька. Ён расказаў дзецям пра быт і адносіны ў сям'і Коласа, пра сваю працу ў Акадэміі навук, паказаў здымкі, якія ён рабіў сам, параіў чым больш чытаць, каб развіваць свой інтэлект.

Эмацыянальным і вясёлым было выступленне Язэпа Гарэцкага, вядучага інжынера-канструктара Мінскага завода колавых цягачоў. Дзеці праслухалі ў яго майстэрскім выкананні ўрывак з паэмы Я.Коласа "Новая зямля".

Іван Курбека, супрацоўнік музея і вядучы гэтага вечара, прачытаў свае гумарыстычныя мініяцюры.

Школьны тэатр паказаў спектакль паводле адной з "Казак жыцця" Я.Коласа.

**Святлана СУБАТ**

ПРОЗА

У ХРЫСЦІНЫ няма чалавека. Ён быў міліцыянерам і загінуў, як прынята казаць, пры выкананні службовых абавязкаў. У Хрысціны ёсць сын Алег. Ён хваравіты, у акулярах, любіць глядзець па тэлевізары праграму "У свеце жывёл", асабліва не адарвеш яго ад экрана, калі паказваюць жыццё ненажэрных акул, кракадзілаў ды шакалаў. Хрысціне брыдка ад аднаго ўяўлення пра гэтых істот. Таму яна ідзе на кухню, гатуе з манкі запяканку. Яшчэ сын любіць адзіноту, кнігі, гітару. Нешта спрабуе нават сам на ёй сачыняць. І гэтае яго хобі надакучвае часам маці, і яна ідзе на кухню смажыць грэнкі. Алег яшчэ не закаханы, хоць вучыцца ў апошнім — адзінаццатым класе. Хрысціна мае двухпакаёвую кватэру, якую не рызыкую прыватызаваць, бо, кажуць,

# АКУЛЫ, КРАКАДЗІЛЫ, ШАКАЛЫ

АПАВЯДАННЕ

Георгій МАРЧУК



давядзецца тады за ўсё плаціць яшчэ болей, чым плаціць зараз. У яе яшчэ ёсць старыя бацькі-пенсіянеры: тата-інвалід (далі групу пасля інсульту) і сухенькая, слабая маці. Яны, былыя настаўнікі, жывуць у вёсцы і, як усе вясковыя людзі, не кідаюць гаспадарку. Сціплая гаспадарка: куры, сад, невялічкі загон бульбы, маленькая, на стары манер, са шкляных рам цяплічка. Больш у Хрысціны нікога і нічога няма. Два гады, як перабралася яна ў сталіцу, уладкавалася медсястрою ў дыягнастычны дыспансер. Праца ў дзве змены, на плячах сын, магазін, хатнія турботы, клопаты пра бацькоў — яшчэ, так бы мовіць, не было часу, каб як след агледзецца. Росту яна невысокага, нават ніжэй сярэдняга, носіць кароткую стрыжку, апранаецца сціпла, больш у спартыўным стылі. У яе крутыя бровы, шэрыя невялікія вочы, у якіх жыве багата цікавасці і ўвагі да хворых людзей, да субяседнікаў. Разважлівы, трошкі гугнявы шафёр, які вазіў галоўнага ўрача, спрабаваў пашырыць межы іх звычайных, службовых адносін. Падводзіў яе некалькі разоў дадому, а, здаралася, браў і на яе долю ў магазіне хлеб, масла, смятану. Ды нешта ўсё ж яна як бы цуралася яго. Мо хіба што быў ён жанаты. Хрысціна яшчэ трымалася, як бы ўхіляючыся ад грэху, не звяртаючы ўвагі на тое, што шмат хто з яе калежанак (у тым ліку і заезджых) не грэбавалі нікім, мянялі, не саромеючыся, любоўнікаў штомесячна. Хрысціна і на працы была акуратнай, працавітай, дысцыплінаванай; багата ведала, ды мала што і каму гаварыла. Не выносіла плётак. Бачачы яе такую надзейнасць, дабрыню і незласлівасць, калегі і выбралі яе ў прафкам. Некаторыя іранічна ўсміхаліся, калі Хрысціна збірала свой актыў на пасяджэнне: ат, казалі, які ў наш шакалаўскі час прафкам, якая ў яго сіла, адна прафанацыя! Але ўчэпістая Хрысціна да ўсяго ставілася сур'ёзна, нягледзячы на папярэджанні расчараваных песімістаў: што скажуць галоўны урач і старшая медсястра дыспансера Ніна Францаўна — таму і быць. Ніхто слова супраць не скажа, не рызыкне падказаць, аспрэчыць, а пра пошукі справядлівасці вышэй — і гаворкі не можа быць. Галоўны ж урач — і член калегіі міністэрства аховы, і член прэзідыума розных чарнобыльскіх і калячарнобыльскіх фондаў, і на палову стаўкі працуе ў лечкамісіі, дзе шукаюць ратаванне ад хвароб вышэйшыя ўлады краіны. У басейн дыспансера надвячоркам хто толькі на "Мерседэсах", "Аўдзі", "Вольво" ні прыязджае. Хрысціна нікому не зайздросціла, мо ад таго і была смелая. На першым жа пасяджэнні выступіла супраць несправядлівага размеркавання прэмій, бараніла слабых, хто меней атрымліваў і працаваў на адну стаўку без усялякіх надбавак за інтэнсіўнасць працы, за "вернасць", за стаж, па сумяшчальніцтве. Не ўсё ўдалося адразу, але ж трох супрацоўнікаў пакінулі ў спісе на прэміі. І адразу ж патрапіла ў няміласць да старшай медсястры. Гэтая непрыязнь ні ў чым не праяўлялася, але ж адчувалася штодня. Хрысціна, наіўная душа, хацела першай пайсці ў раскошны кабінет старшай ды памірыцца, бо аніякага зла на яе не трымала, а жыць так, адчуваючы за сабой віну, калі глядзяць скосу, з лютай непрыяззю, не вітаюцца пры сустрэчы, Хрысціна не ўмела. Яна яшчэ хінулася да людзей. Ды і знешне не хацелася хіпаваць ці бамжаваць — яна і за модай сачыла, і назвы розных крэмаў, шампуняў, духоў ведала.

Ранняя восень дажджом і халодным ветрам даказвала свой нораў і ўпартасць. Хрысціна звычайна загадзя рыхтавалася да гэтых трох дзён, збірала адгулы; а тут усё здарылася надта ж нечакана. Пазваніў бацька і прасіў прыехаць, бо ўсе людзі сваю бульбу выбралі, а іхняя яшчэ ляжыць у зямлі ды мокне. Занепакоілася Хрысціна: што рабіць? Пайшла да старшай медсястры прасіцца, каб далі тры дні за свой кошт. Значнай нагрузкі ў дыспансеры не было. Па восені нават з чарнобыльскіх раёнаў везлі людзей да сталічных дактароў радзей. Хрысціна сядзела на прыёме з тэрапеўтам і думала, што лёгка дамовіцца, спадзеючыся, што яе даўняе выступленне ў камітэце прафсаюза забылася. Усе астатнія і забыліся, аднак старшая медсястра была іншай закваскі. Яна дагэтуль насіла ў сэрцы крыўду на аднакласніцу, якая неяк абазвала яе "дурной аглобляй". Здаецца, напаткай яе зараз, праз дваццаць гадоў, павырывала б ёй усе валасы на галаве. У яе быў дэманічны талент перадаваць сваю незадаволенасць жыццём, сваю зайздрасць, крыўду на астатніх, каго яна асабліва недалюблівала, а недалюблівала яна многіх, па розных прычынах.

— Ну, мілачка, калі ў мяне кожная будзе адпрошвацца на тры дні на бульбу, хто ж на прыёме будзе? Не можа быць і гаворкі. Я за цябе не пайду!

— Зразумейце мяне, прашу. Бацька інвалід, пасля інсульту, маці хворая. Хто ж ім, акрамя мяне, выбера? У вёсцы нашай адны старыя, — тлумачыла-прасіла Хрысціна.

— Мяне гэта не датычыць. Замены ў мяне няма. Забірай заяву, я не падпішу, — расчырванелася начальніца. Чырвань праступіла аж на шыі Ніны Францаўны.

— Што ж мне рабіць? — панікла Хрысціна, і расхвалявалася адразу, і разгубілася.

— Гэта твае праблемы. Найміце людзей. За грошы ўсё зробяць. Самі памалу выкапаюць. Мае капаюць. І спіну ломіць, і ногі баляць, але ж капаюць самі, — павучала старшая. — У мяне адна прасілася хворых бацькоў праведаць, а сама ў Турцыю ездзіла — прастытуцыяй займацца. Усё. Ёсць графік і асноўныя правілы. Усіх паблажкамі распусцілі.

— Дык я ж упершыню прашу. Не змогуць яны выбраць бульбу, інваліды! — ледзь не на крыку адказала Хрысціна.

— Што ты мне рукі выкручваеш, мілачка! Зімой будзе наплыў меншы, можам даць за свой кошт, — і старшая наўмысна зняла тэлефонную трубку, нібыта некаму тэрмінова прыспічыла патэлефанаваць. Хрысціна за парогам ледзь не заплакала, не ведаючы, што й рабіць. Трапілася ёй у гэтую хвіліну старшая медсястра яе тэрапеўтычнага аддзялення. Хрысціна ў адчаі і пажалілася ёй.

— Ты, Хрысця, не хадзі да галоўнага, не прасі. І ён не дазволіць. Усё спіхне на старшую дыспансера. Адна шайка-лейка. Давай так. Я вазьму на свой страх і рызыку. Едзь да бацькоў, а я цябе падстрахую. Заўтра ж едзь, — параіла добрая жанчына, якая таксама жыла адна: і дзеці былі, паставіла на ногі дзвюх дачок, выдала замуж.

І Хрысціна паехала. Ледзь даехала. У сувязі з недахопам бензіну ў раённай аўтабазе, адмянілі некаторыя маршруты, у тым ліку і да яе вёскі. Дабралася дахаты апоўначы. Не магла доўга заснуць: перажывала, што дзень страціла на дарогу. Адсутнічала ў дыспансеры тры дні. Рвала жылы, але выбрала бульбу, якая, дзякуй богу, добра ўрадзіла. Рады былі бацькі, удзячны сваёй дабрадзейцы, ратавальніцы. Хрысціна прывезла ў падзяку пачастункі: слоік марынаваных грыбоў, слоік бруснічнага варэння. Старшая медсястра аб самаволцы Хрысціны ўведала на другі дзень. Ад яе пільнага вока наогул цяжка было што ўтаіць. Былі ж яшчэ і тыя, што маглі і данесці. Адразу ж паклікала Хрысціну на дыван і, чырванеючы і пырскаючы слінаю, прыгразіла звальненнем. Хрысціна не апраўдвалася. Праз тыдзень на вечары адпачынку ў гонар медыцынскіх работнікаў, які наладзілі нейкія спонсары ў кавярні, Хрысціна, забыўшыся пра гнеў старшай медсястры, нават песні за сталом спявала. П'яненькая начальніца таксама з задавальненнем і весялосцю трэслася сярод залы са старшынёй дзіцячага чарнобыльскага фонду. Хрысціна падумала, што ўсё забылася, і сціхла. Але яна памылялася. Літаральна праз дзень начальніца зноў паклікала Хрысціну да сябе ў кабінет і паведаміла:

— Кіраўніцтва дыспансера пераводзіць цябе ў выязную брыгаду на паўгода. Аклад на шэсцьдзесят працэнтаў вышэй, чым у стацыянары. Мы ведаем, што табе не хапае грошай. Цяпер час акул, кракадзілаў і шакалаў капіталізму — цяжкі час. Загад галоўны падпісаў. Не скажу, каб тым было цяжка. Урачы і медсёстры некаторыя па году тырчаць, долары купляюць. На два тыдні — у самы забруджаны раён, а пасля тыдзень дома, і зноў па графіку. Так што — збірайся.

Пачуўшы такое, Хрысціна анямела, села на стул.

— Я ж не магу. Я ж не прасілася. Я ж... уладкоўвалася на працу з умовай, што не буду ездзіць у камандзіроўкі. У мяне ж адзін сын застаецца. Вы ж цвёрда запэўнілі, абяцалі, што я буду ў стацыянары, што выязныя брыгады ўкамплектаваны і што туды багата ахвотнікаў, нават чарга ёсць...

— Абставіны мяняюцца. Ва ўсіх дзеці... твой — у адзінаццатым класе. Здаровы бугай. На ім ваду вазіць можна. У нас і малых кідалі на бацькоў і ехалі. Калі трэба, дык трэба, — адпрэчвала суровым тонам старшая медсястра.

— Я не магу згадзіцца, — цвёрда адказала Хрысціна.

— Значыць, прыйдзецца пісаць заяву аб звальненні. Я ж, мілачка, замест цябе не паеду.

— Добра, — нечакана знайшлася Хрысціна, — калі ўжо так строга... І нічога нельга змяніць, тады... Тады перавядзіце мяне ў санітаркі.

Старшая медсястра ўсміхнулася, агледаючы Хрысціну з ног да галавы. Нахілілася над сталом, кранаючы сваімі вялікімі грудзямі тэлефонны апарат, і вымавіла:

— На жаль, не магу нічым памагчы. І рада была б, але ж усе стаўкі санітарак распісаны. Так што, мілачка, не панікуй, у штыкі не прымай. Прыйдзецца ехаць.

— Не! Не паеду! — рэзка і ўпарта адказала Хрысціна.

— Лёс чалавека ў яго ўласных руках, — старшая медсястра рэзка паправіла свой чорны бант, які тырчэў у яе на патыліцы. — Да Церлюкевіча не хадзі. Галоўны супраць мяне не пойдзе, — і яна недвухсэнсоўна ўсміхнулася.

І сапраўды. Шасцідзесяцігадовы Церлюкевіч лётаў па дыспансеры, як ашалелы, прыдзіраўся да кожнага, як малады старшына да першагодка салдата. Хадзілі чуткі, што ён, спахапіўшыся, што стары, па ўсёй сталіцы вышукваў сваіх былых палюбоўніц і вызвоньваў іх па тэлефоне, дамагаючыся сустрэч. З таго і нерваваўся штодня, непрадказальна змяняючы настрой — ласку на гнеў і наадварот.

У Хрысціны ў дыспансеры апоры не было. Усе клапаціліся толькі аб сабе. Баяліся ісці на канфлікт з адміністрацыяй. Праз тры дні Хрысціна падала заяву і звольнілася. Вось ужо добрага паўгода яна штодня ходзіць на біржу, шукае працу. Ёй усё абяцаюць. Жывуць на сынаву пенсію — ён атрымлівае яе за бацьку. Хрысціна спадзяецца на Бога, верыць, што знойдзе работу. Яна і не ведае, што не пашэнціла і сяброўцы, медсястры тэрапеўтычнага аддзялення. Адыгралася і на ёй адміністрацыя. Пазбавіла яе квартальнай прэміі на пасяджэнні камітэта прафсаюза, калі разглядалі пытанне аб прэміях, — не знайшлося чалавека, хто б узяў, не баючыся страху і праўды, пад абарону сваю супрацоўніцу. Усе бачылі, што крыўдзяць жанчыну наўмысна, ведалі і маўчалі. Сядзелі са скрыўленымі ратамі, нібыта праглынулі жабу. І прафесар, і доктар навук, і славуты хірург-анколаг. Нябачна, але адчувальна панавала над усімі боязь нават перад нікчэмнай, нахрапістай старшай медсястрою дыспансера. Магчыма, засяроджаныя на сваіх праблемах, яны не разумелі, што бяда не ў прэміяльных, а ў тым, што людзі адмаўляюць адзін аднаму ў любові.

Да двухтысячнага года, да дня нараджэння Сына Божага заставалася чатырыста пяцьдзесят пяць дзён.

ПОШТА

Свае вершы Зміцер ДЗЯТКО прыслаў вось з такой прыпіскай: "У адным з апошніх нумароў "ЛіМа" прачытаў некалькі вершаў пад рубрыкай "Пошта". Спадабаліся. І вельмі захацелася даслаць у штотыднёвік сёе-тое са свайго. Ацэніце — буду ўдзячны. З вялікай пашанай і любоўю да Вашай газеты студэнт 1-га курса ф-та беларускай філалогіі і культуры БДПУ імя М. Танка". Дарэмна, бадай, Зміцер бянтэжыўся: вершы яго, несумненна, вартыя чытацкай увагі. Адным словам, добрай яму дарогі!

Зміцер ДЗЯТКО

## Уяўны ліст

*Размашысты почырк, ласкавыя словы*
*І боль, і сумненне, і лён*
*Тваёй прыгажосці, і пах палыновы,*
*І цені афінскіх калон*
*На жоўтай паперы;*
*імклівыя мары,*
*Рой думак і промні надзей,*
*З міжземных краёў італьянскія хмары*
*І мілай Нясвіжчыны глей;*

*Матывы Агінскага, творы Шапэна*
*І мройнасць пяшчоты тваёй,*
*Касцельныя шпілі расквечанай Вены*
*І твой вераснёвы настрой;*

*Самотная поўня і белыя ночы,*
*І зоры, што ўпалі на дол,*
*І блізкія, сінія, мілыя вочы,*
*І новых пачуццяў бардо;*

*І ўся неадольнасць сардэчных памкненняў*
*Змаглі мне таемна адкрыць*
*Лірычную смагу святога натхнення*
*Каханнем і вершамі жыць.*

●

*Раскажы мне што-небудзь пра Прагу,*
*Пра таемнасць яе камяніц,*
*Бо ў душы — скандынаўская сага*
*Маналогам адчаю звініць.*

*Мяне кліча халодная поўнач*
*За Стакгольм, за дажджы, за імжу —*
*У краі, дзе мароз, быццам пробашч,*
*Па жыцці адпраўляе імшу.*

*Я імкнуся ў разоры сумётаў,*
*Каб, згубіўшыся, знікнуць у іх,*
*Як знікаў у пажоўклых блакнотах*
*Сярод думак сваіх трапяткіх.*

*Я губляюся ў пошуме сонным*
*Зінелых, асмуглых ялін,*
*Засынаючы ў снезе ад стомы,*
*Без падтрымкі і вершаў — адзін.*

*Ад завеяў душа халадзее,*
*А ў віхурным паветры начным*
*Я шукаю цяпла і надзеі —*
*Адагрэй маё сэрца сваім.*

*Раскажы мне пра шэпт вулак*
*пражскіх —*
*Рамантычнасць маю наталі —*
*І вярні мяне з месцаў варажскіх*
*Да сябе і бацькоўскай зямлі.*

●

*Прымі мяне без талентаў, без мрояў,*
*Прымі без летуценняў і журбы,*
*Спавітага сардэчнаю тугою*
*З-за вечнай пачуццёвай барацьбы.*

*Прымі мяне рамантыкам дарогі —*
*Вандроўнікам, манахам, мастаком,*
*Які ідзе і плача ад знямогі,*
*Кіруемы жыццёвым бальшаком.*

*І гэтым*
*у маім музычным сэрцы*
*Дазволь самоце шчасця дагучаць.*



**ЧАСАПІС**

## Зноў "зорка" завітала ў Мінск

**Больш за шэсцьдзесят гадоў не сыходзіць з рэпертуарнай афішы Нацыянальнага акадэмічнага тэатра оперы Беларусі "Тоска" Дж. Пучыні. Апошняя сцэнічная версія ў рэжысуры М. Ізворска-Елізар'евай ідзе на мове арыгінала, з вялікім поспехам была прынята гледачамі Іспаніі, Партугаліі. Мінская публіка слухала нядаўна тую оперу ў выдатным выкананні, з удзелам нашай госці — непаўторнай Людмілы Магамедавай.**

**Гэтую расійскую "зорку" добра ведаюць у Мінску: яна выступала ў зале Белдзяржфілармоніі, на оперный сцэне — у спектаклі "Аіда", дзе стварыла цудоўны вобраз галоўнай гераіні. Разам з калектывам Нацыянальнага акадэмічнага тэатра оперы Беларусі артыстка ўдзельнічала ў фестывалі ў Салатурне (Швейцарыя), дзе таксама выконвала партыю Аіды.**

**Голас Людмілы вялікі прыгожы, моцны, гнуткі. Вось і ў партыі Тоскі — ён гучаў лёгка, мякка і ярка, з непаўторнымі паўтанамі. Можна сказаць, што ёй нават не трэба было пераўвасабляцца сцэнічна: усе тонкасці вобраза Тоскі яна магла перадаць голасам.**

**У антракце, завітаўшы ў грымёрную Людмілы, я ўбачыла, што ў жыцці артыстка яшчэ прыгажэйшая, чым падаецца са сцэны. Але як жа яна ўражвае залу, як непераўзыдзена гучыць яе драматычнае сапрана! Шкада, што не давялося пабачыць яе ў операх "Макбет", "Турандот", "Норма", вядучыя партыі ў якіх яна выконвала на міжнародных фестывалях. І гэты спіс можна прадоўжыць.**

**"Я люблю калектыў Беларускага опернага тэатра, з якім мяне звязвае творчая садружнасць, — прызналася Л. Магамедава і дадала, што сябруе з дзявюма яго салісткамі — Тамарай Глаголевай ды Таццянай Цівуновай (з ёю разам вучыліся ў Маскоўскім Дзяржаўным інстытуце тэатральнага мастацтва). Разам з беларускай опернай трупай Людміла збіраецца на новыя гастролі ў Швейцарыю. Пра сваіх партнёраў па спектаклі "Тоска" ў Мінску яна вырашыла дыпламатычна прамаўчаць. А вось пра дырыжора Андрэя Галанава сказала шмат добрых слоў, адзначыла яго высокі прафесіяналізм.**

**Публіка вельмі горача прымала Людмілу Магамедаву, вылучаючы яе сярод іншых выканаўцаў. Партыю Каварадосі выконваў таксама госць Мінска, вядучы саліст Харкаўскай оперы Віктар Чарванюк. Наш знаны спявак Мікалай Майсеенка стварыў запамінальны вобраз барона Скарпіа. Спектакль атрымаўся цікавы.**

**Вера КРОЗ**

## Творца драматычнага лёсу

**У Музеі Вялікай Айчыннай вайны на мінулым тыдні адкрылася выстава твораў (жывапіс, графіка) Уладзіміра Фёдаравіча Сакалова. Мастак нарадзіўся ў 1908 годзе, памёр ва ўзросце сямідзесяці гадоў. Гэтая выстава прысвечана ягонаму дзевяностагоддзю. Уладзімір Сакалоў — творца драматычнага лёсу. У даведніку "Художники Советской Белоруссии", выдадзеным у 1976 годзе, пра мастака напісана толькі тое, што ў 1932 годзе ён скончыў Віцебскі мастацкі тэхнікум і з таго часу бярэ ўдзел у выставах. Не прыгадана, што Уладзімір Фёдаравіч — удзельнік Вялікай Айчыннай вайны. Чаму? А таму, што трапіў у палон. Усю вайну ў нямецкай няволі. Вызвалены Савецкай Арміяй. Пасля чаго трапіў у савецкі канцлагер — ГУЛАГ.**

**Бо, на думку таварыша Сталіна, чырвонаармеец павінен быў змагацца да апошняга патрона, а апошні патрон пусціць сабе ў лоб. Той жа, хто аказаўся ў палоне, — баязлівец і здраднік. Гэтыя акалічнасці лёсу (нямецкі палон і савецкі канцлагер) вызначылі і творчасць Уладзіміра Сакалова. Усё жыццё ён маляваў патрыятычныя карціны на тэму Вялікай Айчыннай вайны, спрабаваў апяваць будні савецкай арміі і флоту. Ездзіў з творчымі камандзіроўкамі на пагранічныя заставы, да маракоў Чарнаморскага флоту. За гэтую шэфскую работу атрымаў медаль і шэраг грамат. Такім чынам Уладзімір Сакалоў даводзіў, што ён савецкі чалавек, што ён ні ў чым не вінаваты, што ён правільны мастак і патрыёт.**

**Калі бачыш ягоныя работы, дык думаеш пра спляжанае жыццё і змарнаваны талент. А лепшае з таго, што зрабіў Уладзімір Фёдаравіч, — гэта звычайныя краявіды, а яшчэ — ГУЛАГаўскія замалёўкі, тыпы савецкіх зэкаў. Гэтая частка ягонай творчасці сапраўды мае гістарычную і ў пэўнай ступені мастацкую каштоўнасць.**

**Пётра ВАСІЛЕЎСКІ**

МУЗЫКА

# Можна быць арыстакратам у прафесіі...

МУЖ МАЁЙ БЛІЗКАЙ сяброўкі, якая жыве цяпер у Новай Англіі, абаяльны амерыканец ("з цвёрдымі прынцыпамі і глыбокай свядомай любоўю да сваёй краіны і яе законаў") сказаў неяк: "Вы, славяне, — вельмі інтэнсіўныя людзі". Потым высветлілася, што слова "інтэнсіўныя" (дакладнага перакладу ён так і не знайшоў) спалучае для яго паняцці палкасці і надлому, пачуццё трагічнасці і нейкую загадкавасць, самоту і немагчымасць абсалютнага зразумення.

Гэтае вызначэнне грамадзяніна з Новага Свету ўспомнілася мне, калі я паспрабавала ўсвядоміць, што такое музыка Уладзіміра Каральчука. І зразумела, што менавіта да яе пасуе ўвесь комплекс складнікаў вызначэння "інтэнсіўная".

Існуюць розныя крытэрыі мастацкай адзнакі музычнай творчасці. Пра музыку аднаго чым саюзе) "крывёю і нервамі" вырашаць сваю кватэрную праблему, бо дах над галавой ужо быў. У яго чароўная дачка і вельмі прыгожая, інтэлігентная, далікатная і (што асабліва важна для мастака) разумная жонка, а значыць — цеплыня і разуменне ў доме. Усе яго творы выконваюцца з поспехам і досыць прапаноў ад выканаўцаў... Адкуль жа гэтае адчуванне трагізму быцця? Знешне ўсё добра, а ў творчасці — рамантычны лермантаўскі комплекс: "Что же мне так больно и так трудно..."

Ды хіба не здараецца, што гармонія ў доме і прыватным жыцці толькі падкрэслівае дысгарманічнасць, а часам і трагічную абсурднасць навакольнага свету?

Гукавая тканіна амаль усіх твораў Каральчука — дзвюх яго сімфоній, кантрабасовага ды альтовага канцэртаў, "Сумнага канцэрта" для флейты, яго санат і камерных ансамбляў — стварае поле высокага эмацыянальнага напружання, нібыта сцвярджаючы дысгарманічнасць свету. Але, слухаючы гэтую музыку, адчуваеш і імкненне да пераадолення дысгарманічнасці, пошук найвышэйшай гармоніі і ісціны — пошук пакутлівы, але ўпарты. А ў якасці арыенціру, ідэала, нейкага маральнага і эстэтычнага імператыву пазначаны ў партытурах яго, кампазітара XX стагоддзя, сілуэты музыкі мінулага — тыя творы, што ў нашым слыхавым досведзе зрабіліся сімваламі Адвечнай Гармоніі і Прыгажосці. Гэта трагічная і высакародная тэма Фоліі А. Карэлі ў "Сумным канцэрце" для флейты, узнёслыя моцартаўскія тэмы ў "Амадэй-санаце", узвышаныя каноны Д. Палестрыны са зборніка матэтаў "Песня песень" у сюіце "Застылая музыка" (натхнёная скульптурамі Мікеланджэла).

І ў кожным творы праз даволі складаную і адмысловую фактуру высвечваецца праца незадаволенай і гранічна напружанай душы — вандроўніцы ў гэтым цудоўным і бязлітасным свеце.

Ды ўсё ж, з чаго складаецца метад увасаблення абранай кампазітарам адвечнай тэмы? Галоўнае ў ім — віртуознае выкарыстанне самых складаных поліфанічных канструкцый. Поліфанія заўсёды выклікае асацыяцыі з нейкім тэхналагічным аскетызмам. У пэўным сэнсе (у сэнсе інтэлектуальнай дысцыпліны) так яно і ёсць. Але ў спалучэнні з эмацыянальнай свабодай перажывання гэты тэхналагічны аскетызм дае цудоўны плён. Так, для У. Каральчука кантрапунктычная тэхніка зрабілася жывой мовай! Гэта не такая ўжо частая з'ява ў сучаснай айчыннай музыцы. Здаецца, адмысловая тэхніка майстроў Нідэрландскай школы XV—XVI стагоддзяў, што ўспрымаецца намі часам як мудрагелісты анахранізм ды інтэлектуальная гульня, нейкім дзіўным чынам ажыла ў музыцы беларускага кампазітара канца XX стагоддзя. Дык, можа, гэтая поліфанічная канструктыўнасць, мудрагелістасць кампазіцыйных ліній, у ягоных творах — нейкі асаблівы спосаб с а м а з а х а в а н н я ў стракатым, разнародным, а часам і проста непрафесійным свеце сучаснага музычнага мастацтва?..

Безумоўна, музыка Каральчука патрабавальная і да слухача, і да выканаўцаў. Патрабуе яна перш за ўсё гранічнай засяроджанасці. Але не таму, што яна звернута нібыта да нейкага рафінавана-чуйнага слыху, здольнага ацаніць увесь максімум кампазітарскіх вынаходніцтваў. Гэта не так. Эмацыянальна-экспрэсіўная плынь яго музыкі заўсёды прыцягвае ўвагу слухача. Нават у згушчаназмрочных гучаннях Другой сімфоніі з саліруючым трамбонам (дзякуючы шырокаму выкарыстанню нізкіх рэгістраў у саліста і аркестра, адпаведных вызначэнню "гатычнага") ёсць прыцягальнасць. Заваражвае спалучэнне наступальнага руху з эпізодамі здранцвеласці і тым "мастацтвам падрабязнасцяў" (тэмбравых, каларыстычных, акустычных), якое нехта з даследчыкаў мастацтва і вызначыў як асноўны крытэрый таленту.

кажуць, што яна ўражвае разнастайнасцю жанраў, тэм і ідэй, пра творы другога — што яны зачароўваюць абаяльнасцю матэрыялу, а опусы трэцяга — захопліваюць сваім тэмпераментам... Для музыкі У. Каральчука ўсе гэтыя крытэрыі былі б недакладныя. Сапраўды, у большасці яго твораў распрацоўваецца адна і тая ж тэма — але тэма адвечная і бясконцая: трагічнасць свету і адзінота чалавека ў гэтым, паводле А. Камю, "Лагоднай абыякавасці" асяроддзя. Відавочна, тэма не новая і не арыгінальная ў сусветнай музыцы. Таму тут цікавая не столькі сама яна, колькі метады яе раскрыцця. Бо гэта і ёсць тое істотнае, чым цікавая творчасць Уладзіміра Каральчука.

Жыццё і творчасць. Звонку нічога, здаецца, у жыцці кампазітара не дае падставы для трагічнага светапогляду...

Пасля заканчэння Беларускай акадэміі музыкі па класе прафесара Д. Смольскага Уладзімір Каральчук быў запрошаны выкладаць на кафедры кампазіцыі, дзе ён замяніў У. Алоўнікава. І трэба сказаць, прадмет, які ён выкладае — поліфанія, — адзін з самых складаных у курсе кампазітарскіх навук. Мяне ўразіла і выклікала павагу да маладога калегі тое, што ён захаваў курс, пачаты Уладзімірам Уладзіміравічам. Прафесар Алоўнікаў стварыў своеасаблівую "табліцу Мендзялеева" па поліфаніі, у якой некаторыя "клетачкі" засталіся пустымі. І вось яго лепшы вучань Валодзя Каральчук пакрысе "запоўніў" іх, бо лічыў, што толькі ў гэтым выпадку мае права на выкладанне надзвычай важнай для кампазітараў дысцыпліны.

Такім чынам, адразу пасля заканчэння акадэмічнага курса ён трапіў на кафедру, што было безумоўным поспехам. Яму не трэба было (як гэта здараецца ў нашым твор-



УРАЖАННЕ

# Хатні дэспат

Люстры зіхацелі, як ледзяшы пад сонцам альбо як заінелыя яліны. (Здаецца, мадэрн.) Яны то зніжаліся, то паўзлі ўверх, то трэсліся — нібыта са страху — у хвіліны найбольшага ўзрушэння (герояў, а не іх, люстраў). Я чакала, што з імі, як звычайна ў сцэнаграфіі Б. Герлавана, што-небудзь здарыцца пры канцы. Не, як віселі, так і вісяць...

Ды што гэта я — пра люстры ды пра люстры!.. Як яны ні стараліся, а галоўнага героя, "вечнага Фаму" на Купалаўскай сцэне — зацьміць не здолелі. Звычайны на выгляд мужычок немаладога веку (Г. Аўсяннікаў) гаварыць вялікі майстар і любіцель. Біблію цытуе, імёнамі класікаў можа бліснуць — Пушкіна, Карамзіна, Шэкспіра, Шылера... Паблажлівыя, а то і зневажальныя ацэнкі так і сыплюцца з яго вуснаў: той "пасрэдны", гэты "легкадумны"...

Міжволі запаважаеш такую лёгкасць у абыходжанні з вялікімі. Падумаеш: ён і сам не лыкам шыты, гэты праставацелькі Фама! Унікум, можна сказаць. Хто яшчэ здолеў бы, у нахлебніках будучы, паводзіць сябе ў доме як галоўны! А бедны гаспадар (В. Філатаў) праз сваю дабрату трапіў у становішча самае што ні ёсць ідыёцкае: рыхтык як у показцы "дазвольце мне ў маёй хаце пад лаўкаю пераначаваць". Кроку нельга ступіць без Фамы Фаміча, без яго павучанняў, папрокаў, знарачытых крыўдаў і слаба прыхаванай маніі велічы. Без загаду Фамы нават касьба не пачынаецца, хоць трава ўжо перастаяла, і нават асабістае жыццё ўдаўца цалкам залежыць ад волі сябра-прайдзісвета.

А не дурны, зусім не дурны, гэты Фама! Вялікі псіхолаг і знаўца чалавечых слабасцей. На дабрацце, на высакародстве ўмее сыграць, гаротнікам прыкінуцца. Па сутнасці ўвесь сюжэт п'есы У. Бутрамеева (як і аповесці Ф. Дастаеўскага "Сяло Сцяпанчыкава і ягоныя жыхары") цалкам трымаецца на пастаянных пагрозах дармаеда пакінуць дом, дзе яго прытулілі. Аднойчы ён здзяйсняе сваю пагрозу, каб хутка вярнуцца і нават умацаваць сваё становішча. Любую сітуацыю ён паверне выгадным для сябе бокам, з любой нявыкрутку маральным пераможцам выйдзе. Вось, напрыклад, гарадскі госць (А. Гарбуз), пляменнік гаспадара, выкліканы пісьмом, нязлосна пакпіў з Фамы, што той пры генерале (царства яму нябеснае) блазнам быў, жывёл паказваў. Ну, паказваў, ён не адмаўляецца. Ён хвораму чалавеку прыемнасць хацеў перад смерцю зрабіць, цераз сваю гардыню пераступіў, годнасцю ахвяраваў, можа сказаць... Рэдкае велікадушша!

Ён краснабай і дэмагог, рэзанёр і маралiст: усіх вучыць, указвае на хібы, выкрывае парокі, высмейвае — як Фалалея за Камарынскага, сябе выстаўляючы бездакорным маральным узорам. Ледзьве не Месія, збавіцель грэшнага роду чалавечага!

Г. Аўсяннікаў падаецца занадта дабрадушным у гэтай ролі, тым больш, што вобраз прэтэндуе на абагульненне. У адным з эпізодаў ён змушае гаспадара-палкоўніка называць сябе як генерала — яго правасхадзіцельствам. Па сутнасці перад намі маральны гвалт, здзек са здаровага сэнсу, а адбываецца ўсё неяк па-хатняму, як бяскрыўднае чарговае блазнаванне.

Валерый Філатаў увогуле па ролі ціхуця ціхуцяю, і цяжка верыцца, што ён у гусарскім палку служыў і што ў яго магла закахацца маладая гувернантка. Хаця, з іншага боку, чалавек з зачаткамі характару не стаў бы пры сабе трымаць такога зануду і дробнага тырана. Час ад часу, падбухтораны пляменнікам, Ягор Ільіч Растанеў яшчэ "ўзбрыквае", прыасаньваецца, намагаецца аваладаць сітуацыяй і паставіць на месца нахлебніка. Нарэшце, не стрываўшы, выганяе таго за абразу каханай. І што ж? Нават выгнанне гэты расійскага разліву Тарцюф выкарыстоўвае, каб назаўжды і канчаткова "внедриться" ў новую сям'ю. І самае парадаксальнае, што менавіта ён і стварыў гэтую сям'ю, злучыў лёсы закаханых. Ён сапраўды "вечны", гэты тыпус, як вечнае ў душы чалавечай змаганне святла і цемры, боскага і д'ябальскага.

Уся гэтая "камарылля" (так азначаны жанр спектакля "Вечны Фама") адбываецца з удзелам простага, стылізаванага пад лубок люду і раскошнага дамскага атачэння — прыжывалак генеральшы, гарачых прыхільніц Фамы. "Караля" і стварылі, і іграюць менавіта яны, дамы (з іх найбольш каларытный мне падалася гераіня Г. Бальчэўскай). Сакрэт прыцягальнасці Фамы ў п'есе не раскрыты; аказваецца, ён у тым, што Фама няблага гадае на картах і па руцэ, а таксама разгадвае сны.

Варта асобна сказаць пра творы для інструмента, які быў першай спецыяльнасцю У. Каральчука, — для баяна. Дуэт "Pro e Contra" для баяна і мандаліны дазволіў цудоўным выканаўцам Мікалаю Марэцкаму ды Ігару Атраднаву стаць лаўрэатамі І прэміі знанага конкурсу ў Клінгенталі, а саната для баяна "Perpetuo moto" ў выкананні Аляксандра Севасцьяна — цяперашняга вучня славутага Фрыдрыха Ліпса гучала на міжнародных конкурсах у Іспаніі і Нарвегіі, дзе малады выканаўца стаў пераможцам.

Шукаючы тое ключавое слова, якое б вызначыла сутнасць творчай асобы Уладзіміра Каральчука, я падумала, што ён — а р ы с т а к р а т у сваёй прафесіі. У адным са сваіх раманаў Д. Галсуорсі так вызначыў арыстакратызм: уласная годнасць як бязлітасная патрабавальнасць да сябе. Калі ты не дапускаеш у сваёй творчасці ніякай неахайнасці, нядбайнасці, нечага прахонага, пустога, пошлага, калі для цябе і не існуе дробязей у тваёй партытуры і ты адказваеш за кожную паўзу ў ёй, ты — арыстакрат. А ў творчасці, як і ў жыцці, сапраўдных арыстакратаў — адзінкі.

Яшчэ не так даўно пачэсным (а раней і выгодным) было мець дэмакратычнае (рабоча-сялянскае) паходжанне, але tempora mutantur... Часы мяняюцца, а з імі пачынаюць мяняцца нацыскі ў прозвішчах (што павінна сведчыць пра высакароднае паходжанне), здабываюцца нейкія паперы, што павінны пацвердзіць прыналежнасць да шляхетнай касты і г. д. Але, як паказвае жыццё, у высакароднасці ды арыстакратызме пераконваюць не папера і не прозвішча, а сама асоба чалавека, яго словы, думкі, аблічча, душа. А калі ён мастак — дык і сама творчасць. Творчасць Уладзіміра Каральчука — пацверджанне таго.

А вось карані ў яго самыя дэмакратычныя, і менавіта яны робяць Валодзю тым нячастым выключэннем сярод яго калег — творчых мужчын — гэтых складаных неўраўнаважаных асоб, крыўдлівых, як дзеці, самалюбівых, як падлеткі, і капрызлівых, як жанчыны. У Каральчука мужчынскі (канструктыўны) погляд на рэчы, у яго цудоўныя рукі, што здольныя і паліцу прыладзіць, і радыёапаратуру ўсталяваць, і дачу пабудаваць (не кожны кампазітар можа пахваліцца, што працаваў у будаўнічых атрадах). І, мабыць, менавіта гэты становічы дуалізм дэмакратычнага і высакароднага вылепіў з яго тую прыкметную творчую асобу, якая заняла сваё ўласнае месца ў беларускім музычным мастацтве.

Сёння, калі яшчэ не ўсе творы кампазітара выкананы, не ўсе пачуты (як, напрыклад, нядаўна завершаны Канцэрт для баяна і віяланчэлі з камерным аркестрам), а галоўнае, не ўсе творы яшчэ напісаны (а самы дасканалы, самы цікавы, найлепшы заўсёды мроіцца наперадзе), цяжка рабіць абагульняючыя высновы наконт ягонай творчасці. Але ўжо зараз можна казаць, што, на шчасце, існуе такі цікавы, такі складаны і такі глыбокі свет, як музыка Уладзіміра Каральчука.

**Галіна ГАРЭЛАВА**

*Фота А. ПРУПАСА*

# Новае прышэсце

## З 13 ПА 15 ЛІСТАПАДА Ў МІНСКУ ПРАЙШОЎ ФЕСТЫВАЛЬ СУЧАСНАЙ НЯМЕЦКАЙ ДРАМАТУРГІІ

"Я так стамілася! Гэта ўжо чацвёрты тэатральны фестываль за апошнія паўтара месяца, дзе я ўваходжу ў склад журы", — прызналася вядомы крытык Таццяна Арлова. І сапраўды, восень выдалася багатая на тэатральныя фэсты самага рознага кшталту: брэсцкая "Белая вежа", фестывалі монаспектакляў "Я", маладзёжнай творчасці ў Гародні і, нарэшце, сучаснай нямецкай драматургіі.

Ладзіўся ён у памяшканні рэспубліканскага тэатра беларускай драматургіі "Вольная сцэна", які, дарэчы, і стварыў падставу для першага (і дай Божа, не апошняга) падобнага мерапрыемства, наладзіўшы два гады таму сумесна з мінскім інстытутам імя Гётэ і яго тагачасным дырэктарам Верай Багальянц сцэнічныя чытанні лепшых п'ес сучасных нямецкіх аўтараў. Тады перад акцёрамі была пастаўлена даволі цяжкая мэта: за некалькі дзён (а звычайна на "сядзячы" перыяд падрыхтоўкі ролі даецца не менш двух-трох тыдняў) яны павінны былі поўнасцю прыдумаць чытанне. З васьмі прапанаваных п'ес да сцэнічнага ўвасаблення дайшлі чатыры. Перакладам усіх гэтых твораў займалася супрацоўніца нямецкага культурнага цэнтра імя Гётэ Галіна Скакун, якая падчас працы мусіла раіцца з рэжысёрам Валерыем Мазынскім, адшукваючы адпаведнае беларускае слова ці выраз, каб зрабіць пераклад жывым і перадаць усе сэнсавыя нюансы, уласцівыя нямецкаму арыгіналу. Такім чынам быў створаны небывалы для Беларусі прэцэдэнт: да гэтай пары сучасная замежная драматургія да нас папросту не даходзіла, а калі раптам траляла ў краіну, дык толькі ў рускамоўным варыянце. Перакладаў на беларускую мову ўвогуле не было. Перашкаджала таксама адсутнасць у тэатраў грошай на аплату аўтарскіх ганарараў. Гэтую місію ўзяў на сябе ўсё той жа інстытут імя Гётэ, а Міністэрства культуры РБ фінансавала прыезд і размяшчэнне тэатраўудзельнікаў фэсту ў Мінску. В. Мазынскі спадзяецца, што такая добрая справа на гэтым не скончыцца і будзе мець працяг у выглядзе друкаванага зборніка нямецкіх п'ес. Спраўдзіцца гэтая надзея ці не, але вынікі фестывалю відавочныя ўжо зараз: па-першае, беларускай рэжысуры дадзены цудоўны шанц пазбавіцца засілля бытавога тэатра, папрацаваць з нязвыклай эстэтыкай і новым колам праблем, а па-другое, падобнае мерапрыемства мае на ўвазе і адваротную сувязь — знаёмства нямецкага гледача з нашай драматургіяй. Пра тое, што для яго яна цікавая і блізкая, сведчыць вялікі поспех за мяжой п'ес Алены Паповай, аднаго з цікавейшых сучасных беларускіх драматургаў. "Фестываль — шлях паразумення двух народаў, — так крыху высакамоўна адзываўся аб ім намеснік міністра культуры Уладзімір Рылатка. — Класіка нямецкай драматургіі, прадстаўленая творамі Гётэ, Шылера, Брэхта, займае выдатнае месца ў дасягненнях беларускага тэатра. Знаёмства ж з сучаснай драматургіяй (а яна — сэрца мастацтва) павінна спрыяць стварэнню адзінай культурнай прасторы". Што ж, справа сапраўды патрэбная, і хочацца думаць, што адзінаю Германіяй яна не абмяжуецца. Галоўнае — пачатак пакладзены.

Нягледзячы на тое, што пачынаўся фестываль у пятніцу трынаццатага, ніякіх эксцэсаў ды недарэчнасцяў з гэтай нагоды не здарылася (калі не лічыць забойства, запланаванага паводле п'есы). Зала на абодвух прадстаўленнях "Гера Паўля" (Т. Дорст) Мінскага абласнога драмтэатра з г. Маладзечна была поўная. У нязвыклай для сябе ролі рэжысёра спектакля выступіў вядомы мінскі акцёр Тэатра-студыі кінаакцёра Аляксандр Бубашкін. Мусіць, гэта самая "нямецкая" п'еса з прадстаўленых на фестывалі — я маю на ўвазе яе адпаведнасць нашаму ўяўленню аб менталітэце нямецкага народа. Усё ў ёй грунтоўна і надзвычай матэрыяльна (у першую чаргу гэта датычыцца сцэнаграфіі). Самае яркае ўражанне пакінула ігра Таццяны Грасевіч, якой давялося выконваць ролю прыдуркаватай дзяўчыны Аніты. Падчас назіраняў за яе мімікай, танцамі, рухамі, такімі шчырымі, свабоднымі і падзіцячы кранальнымі, ні разу не ўзнікла адчування недаверу да актрысы і яе гераіні.

У наступны дзень Акадэмічны тэатр імя Якуба Коласа прапанаваў задумацца над лёсам "Пісьменных" — менавіта так называецца трагікамедыя Мацяса Чокэ. Спектакль звярнуў на сябе ўвагу перш за ўсё надзвычай сучаснай тэмай выбару, перад якім стаіць любы творца, асабліва малады: заставацца творцам, жабраваць і цярпець кпіны так званых "масцітых", якія не прымаюць у сваё кола чужынцаў, або закапаць свой талент у зямлю ды зарабляць грошы, хай нават і тым шляхам, якім гэта даводзіцца рабіць пісьменніцы Сузане Серваль (І. Цішкевіч) — сваім целам. Дзіўна, няўжо і ў знешне такой добраўладкаванай Германіі гэтая праблема стаіць настолькі востра? Але яна — толькі асноўная канва, бо ў спектаклі шмат іншых тэм і сюжэтных нюансаў, якія завуаліраваны абсурдысцкай эстэтыкай, і кожны можа ўспрымаць іх па-свойму. Бясспрэчна адно: сцэнічная рэдакцыя тэатра настолькі ўзбагаціла п'есу, што сталася фактычна самастойным, новым творам, у параўнанні з якім арыгінал выглядае значна слабейшым. Немалая заслуга ў гэтым належыць Віталю Баркоўскаму, аўтару адразу і пастаноўкі, і сцэнаграфіі, і касцюмаў, і музычнага афармлення. Спектакль атрымаўся надзвычай стыльным: усе акцёры апрануты ў чорнае, на сцэне — неабходны мінімум дэкарацый (чорныя кубы ды дзіўныя сіметрычныя канструкцыі са шкла). Вялікую сэнсавую нагрузку нясуць зладжаныя рухі акцёраў — рэжысёрам па пластыцы стаў заслужаны артыст РБ Баляслаў Саўко. У невялікай, амаль эпізадычнай ролі злачынца Фрыца ён увогуле ствараў цуды. Ягонае з'яўленне ў манахромным спектаклі ўспрымаецца, як рознакаляровы выбух феерверка.

У трэці і апошні дзень былі прадстаўлены адразу дзве пастаноўкі. Гаспадар фестывалю "Вольная сцэна" паказала фарс-абсурд Герберта Ахтэрнбуша "Бот і яго шкарпэтка", дзе задзейнічаны ўсяго два акцёры: пераможцы леташняга конкурсу "Прызнанне ў каханні" Анатоль Кот (роля Герберта і Жанчыны) і Людміла Сідаркевіч (роля Фанні і Рымляніна). Калі Анатоль быў крыху "стрыножаны", абмежаваны роллю інваліда, які не ўстае з каляскі, дык Людміле дзякуючы рэжысёру Таццяне Сулімавай і пастаноўшчыку пластыкі і танцаў Ігару Сігову прыйшлося працаваць "на знос", вымагаючы ад свайго цела і душы максімум магчымага.

Завяршыў фестываль спектакль "Альпійскае ззянне" (П. Турыні), створаны рэжысёрам Вітаўтасам Грыгалюнасам і акцёрамі Рускага тэатра імя М. Горкага. Цікава, што ў афішах ён быў заяўлены пад маркай Альтэрнатыўнага тэатра, але потым над закрэсленым "Альтэрнатыўны" з'явілася назва "Рускі". Некаторыя даўнія прыхільнікі тэатра, што існуе зараз толькі на паперы, былі расчараваны, не ўбачыўшы нікога з былой зорнай трупы Альтэрнатыўнага. Але, спадзяюся, сам спектакль іх не расчараваў. Хаця ён атрымаўся сэнсава слабейшым, чым сама п'еса, бо некаторыя складаныя сюжэтныя лініі ў яго не ўвайшлі — сітуацыя прама супрацьлеглая той, што склалася з "Пісьменнымі". Выдатна адолеў сваю ролю старога сляпога Эдуард Гарачы, які па праву мог прэтэндаваць на ўзнагароду за мужчынскую ролю. Увогуле ж гэтая пастаноўка вылучалася з астатніх большай набліжанасцю да традыцыйнага тэатра, яна не перагружана абсурдысцкай эстэтыкай і адносна лёгкая для глядацкага ўспрымання.

Адразу ж пасля спектакля адбылося ўручэнне дыпломаў і памятных керамічных медалёў. Спецыяльны дыплом журы (а ў яго ўваходзілі прадстаўнікі як з беларускага боку на чале са старшынёй журы Аляксеем Дударавым, так і з нямецкага) атрымала актрыса Таццяна Грасевіч (Аніта, "Гер Паўль"). Дыплом за лепшую мужчынскую ролю дастаўся Баляславу Саўко (Фрыц, "Пісьменныя"), за жаночую — Людміле Сідаркевіч (Фанні, "Бот і яго шкарпэтка"). Лепшай сцэнаграфіяй была прызнана праца Віталя Баркоўскага ў "Пісьменных". І ў рэшце рэшт, нягледзячы на адсутнасць адзінадушша ў журы, пераможцам у якасці лепшага спектакля сталі тыя ж "Пісьменныя".

**Юлія ПАЛАЧАНІНА**

Адным словам — ён не пазбаўлены тонкасці ўспрымання. (Варыянт міні-Распуціна.) Для экзальтаваных дам ужо тое, што Фама каву не ідзе піць — цэлая трагедыя, ну, а пагроза пакінуць іх назаўжды — проста канец свету. Рэжысёр Уладзімір Савіцкі наблага паказвае гэта ў адной са сцэн — дзе грыміць гром, лямантуюць дамы, размахваючы крыналінамі, тухне святло, ну проста ўсяленская нейкая катастрофа. Дарэчы, усе **чатыры** свецкія дамы **двойчы** (!) за спектакль памянялі свае пышныя ўборы. Як па мне, дык на прыжывалках можна было б і зэканоміць, бо яны мала чым адрозніваюцца ад самой генеральшы.

З другарадных персанажаў вылучаюцца стары слуга Гаўрыла (П. Дубашынскі) і малады, сапсаваны барскай увагаю "паэт" Відаплясаў (В. Паўлюць). Першы ўвасабляе годнасць простага народа: ён кідае праўду ў вочы Фаме і наадрэз адмаўляецца вучыць французскія словы. У другім лёгка пазнаецца багемны творца пачатку стагоддзя, што ўносіць у спектакль некаторую стылёвую эклектыку. Зрэшты, тут усё досыць умоўна, "прапісана" штрыхамі, гледачы самі вольныя дадумваць, шукаць адпаведныя актуаліі і персаналіі. Галоўнае, што не адчуваецца лішняга націску і ўхілу ў шарж.

Не псуе ўражання акцёрская моладзь — С. Зеляноўская ў ролі Насці, А. Гарбуз у ролі пляменніка Сяргея. Мова ў асноўным без агрэхаў (прынамсі, у прэм'ерным паказе), хіба што В. Філатаў час ад часу "зрываецца" на мяккае -р-.

Публіка цёпла прыняла новую пастаноўку. Драматург Уладзімір Бутрамееў на сцэну не падняўся, ды і яго і паклікаць забылі. Сціпла сядзеў у зале і аўтар беларускамоўнага варыянта Алесь Петрашкевіч, які вельмі няблага справіўся з перакладам.

Параўнаўчы аналіз п'есы і аповесці Дастаеўскага паказаў наступнае. У арыгінале тэмпература эмоцый на пару градусаў вышэй: "вскричал" і "возопил" там самыя распаўсюджаныя дзеясловы. "Непостижимое и бесчеловечно-деспотичное влияние Фомы Фомича" распісана падрабязна і ў дэталях, але, зноў жа, як нешта звычайнае шэрагавае. Падкрэслены злосць і "яд", якіх не адчуваецца ў версіі драматурга. Трэба аддаць належнае майстэрству апошняга: няпроста было "выпісаць" каларытны вобраз "вечнага Фамы", не збіваючыся на прамыя аўтарскія ацэнкі тыпу "капризная тварь, эгоист, лентяй, лежебок". Затое няма ў сцэнічным варыянце і той шчымлівай ноты шкадавання бессэнсаўнага і бяздомнага чалавека, якім, пры ўсім пры тым, і быў хатні дэспат. Тут Дастаеўскі, як падалося, супярэчыць сам сабе. Але ці не прыпадабняюся я ў такіх заўвагах самому герою?

І апошняе. Паколькі фінал спектакля мне штосьці не запомніўся, я нагадаю, чым скончылася аповесць "Сяло Сцяпанчыкава і ягоныя жыхары". Фаму Фаміча пахавалі каля генеральшы, помнік над ім каштоўны, з белага мармуру, са слёзнымі цытатамі і ўхвальнымі надпісамі. Ягор Ільіч і Настачка часцяком заходзяць пакланіцца ягонай магіле, добрым словам памінаюць. Гаўрыла цалкам развучыўся размаўляць па-французску. З Фалалея атрымаўся здатны фурман, а няшчасны Відаплясаў даўным-даўно ў жоўтым доме. Каб зямлю араў, а не ўзяўся вершы пісаць, усё было б нармальна...

**Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ**

ВЫСТАВЫ

# А ніхто не баіцца!

У галерэі "А. В.", што пры тэатры "Вольная сцэна" — чарговая выстава. Галерэя знаёміць мінчукоў з творчасцю Вячаслава Радава, выхаванца нашай Акадэміі мастацтваў, які зараз жыве і працуе ў Польшчы. Выстава мае назву "Слава Радаў і ягоны тэатр малюнка. Акт 1. Хто баіцца Монікі Левінскі?" Перш чым гасцей вернісажа пусцілі да экспазіцыі, ім выпала пабыць гледачамі чагосьці, накшталт тэатральнай дзеі. На вялікім аркушы паперы, які зверху быў "аздоблены" ўзятым у Інтэрнэце тэкстам судовай справы "Моніка Левінскі супраць Біла Клінтана", Слава маляваў свае асацыяцыі, што ўзнікаюць у сувязі з гэтай справай, уражанні ад знаходжання ў Польшчы, а завяршыў кампазіцыю іранічным аўтапартрэтам.

Можна сказаць, што мастак скарыстаў палітычную падзею як падставу для творчага самавыяўлення, падкрэсліўшы першасныасць мастацтва і другаснасць палітыкі.

Экспазіцыю выставы складаюць так званыя "акты" (аголеная мадэль), цалкам пазбаўленыя канкрэтыкі. Мастака цікавяць у першую чаргу неабмежаваныя пластычныя магчымасці чалавечага цела, а ўжо потым, так бы мовіць, эратычны змест. Зрэшты, кожны ўбачыць у творах Славы Радава, што экспануецца ў галерэі "А. В.", тое, што захоча, тое, да чаго схільны і што яго хвалюе. Але кожны, нават не вельмі падрыхтаваны глядач, адзначыць віртуозны малюнак.

Падобную выставу мастак ладзіў і ў Польшчы (галерэя "Брама", горад Казімір Дольны). Але і выстава ў "Браме", і выстава ў "А. В." — некамерцыйныя. Як ні дзіўна, зарабляе на хлеб Слава Радаў зусім не гэтай "круцізною", а традыцыйнымі рэалістычнымі краявідамі. А гэтыя метафізічныя акты не на продаж, — для душы і розуму.

Калі ж на заканчэнне запытаць:

— Дык хто ж баіцца Монікі Левінскі?

— А ніхто не баіцца. Рэч, у рэшце рэшт, жыццёвая.

**Пётра ВАСІЛЕЎСКІ**

# "Arche" ў Лідзе

Ліду наведалі вядомы наш бард Андрэй Мельнікаў і паэт, перакладчык Андрэй Хадановіч. Сустрэча адбылася ў чытальнай зале гарадской бібліятэкі імя Янкі Купалы. А. Мельнікаў зрабіў невялікі экскурс у нашу гісторыю, пачынаючы з часоў Скарыны і заканчваючы нашымі днямі, прытым у яго на кожную значную падзею ў нашай гісторыі знайшлося адлюстраванне ў бардаўскай песні. А. Хадановіч зрабіў імправізаваную прэзентацыю новага беларускага часопіса "Arche". Маркуецца заснаваць фонд з такой назвай і фестываль. А. Хадановіч прачытаў свае ўласныя вершы, а таксама пераклады з замежных аўтараў.

Пасля Ліды госці з Мінска наведалі Бердаўскую сярэднюю школу.

**Лілія САЗАНАВЕЦ**

***На кожнае беларускае дзеянне ўлады стараюцца ўчыніць антыдзеянне. Апазіцыя праводзіць кангрэс? Хуценька арганізоўваецца народны сход. Ствараецца незалежная радыёстанцыя? Даеш саюзнае тэлебачанне! Вольная прэса шум падымае? А мы ў славянскі набат грымнем...***

***Калі група беларускіх пісьменнікаў выехала ў Віцебск і правяла там паўтара дзесятка літаратурных сустрэч, з акцыяй у адказ узніклі пэўныя праблемы. Каго паслаць? Сярод айчынных літаратараў да гэтай пары надзвычай мала выяўлена прыхільнікаў суцэльнай інтэграцыі. Тых жа, хто насуперак народнай мудрасці паперадзе бацькі гатовы лезці хоць у пекла, выпраўляць у падобныя паездкі рызыкоўна. Чытач пайшоў не той, наўрад ці моладзь прыйдзе ў захапленне ад гэтакіх, скажам, шэдэўраў на экалагічную тэму:***

*А у водоёмов Беларуси*
*Хищники гнездятся хорошенько.*
*Кто они — дознаться не берусь я,*
*Если не поможет Лукашенко.*

***І ўсё ж выйсце знайшлі. Брыгада пісьменнікаў была выпісана з Расіі. Таленавітых. Вядомых. Загартаваных у баях. Калісьці па аповесці аднаго з іх здымалі мастацкі фільм. Выканаўцу галоўнай ролі не змаглі адшукаць па ўсёй неабдымнай матушцы-Расіі. Знайшлі на Беларусі. Дзякуючы майстэрству Стэфаніі Станюты фільм “Развітанне з Мацёрай” стаўся выбітнай з’явай у кінематографе.***

***Прыйшоў час, і В. Распуцін прыехаў аддзячыць. Агітаваць за “единую и неделимую”.***

***Усе выступленні “братьев наших старших” старанна фіксаваліся і неаднаразова пракручваліся па Беларускім радыё. Іх вырашана выдаць асобнай кнігай. Зайздросныя тутэйшыя пісьменнікі жадаюць сваім маскоўскім калегам “усячаскіх благ”, якія толькі могуць сустракацца на цярністым літаратурным шляху.***

***Аўтар гэтых радкоў меў гонар быць удзельнікам шматлікіх літаратурных сустрэч, якія праходзілі ў студзені-траўні гэтага года ў абласных гарадах Беларусі. Скептыкі, якіх апошнім часам напладзілася нямала, могуць ісці спаць — амаль усе сустрэчы адбываліся пры запоўненых дарэшты залах. У школах, вучэльнях, універсітэтах, бібліятэках, дамах культуры і г.д. слухачоў захапляла, яднала і ўзвышала жывое Беларускае Слова. Людзі прагнуць праўды і паэзіі. Не заўсёды могучы купіць мастацкую кнігу, імкнуцца чуць пісьменніка беспасрэдна, і літаратары павінны не адмаўляцца ад падобных запрашэнняў. На тых нашых сустрэчах стваралася ўражанне, што ты знаходзішся ў віртуальнай Беларусі, дзе натуральна пачувае сябе беларуская мова, дзе шануецца сапраўдная беларуская гісторыя. Час ад часу я туды вяртаюся і спадзяюся, што прыгадваюць тыя сустрэчы не толькі выступоўцы, але і слухачы — гарадзенцы, берасцейцы, магілёўцы...***

# Трыццаць секунд на аўтографы

## ГАРОДНЯ

Каб патрапіць усюды, дзе нас чакаюць, дзелімся на групы. На кожную прыпадае да шасці сустрэч на дзень, падзеі вакол пачынаюць нагадваць шалёны калейдаскоп — прыязныя твары, кветкі, аўтографы. Праз кожныя дзве гадзіны — пачуццё шчаслівай спустошанасці, да машыны ідзеш, як п’яны. За паўгадзіны пераезду з месца на месца сілы не пасляваюць цалкам аднавіцца, але глянеш на Рыгора Барадуліна, які працуе ў гэткім жа напружаным рэжыме, і робіцца сорамна за сваю стому.

Палац культуры хімікаў. Зала кладзецца покатам ад барадулінскіх “дурнотаў” (такі адпаведны нашаму часу жанр вынайшаў Рыгор Іванавіч). “Дурноты” схопліваюцца на ляту, тут жа занатоўваюцца слухачамі. Як паказаць бяссэнсіцу змагання з нацыянальнымі колерамі? У паэта пра гэта ўсяго чатыры радкі:

***Я ведаю, што ён даўно гатоў —***
***Указ чарговы, як заўсёды, смелы,***
***Што трэба перафарбаваць буслоў,***
***Бо кожны бусел — бел-чырвона-белы!***

Гарадзенская педвучэльня. Заварожвае дзяўчат Генадзь Бураўкін. Аказваецца, ён выступаў тут у 1958 годзе, ажно сорак гадоў таму! З таго часу нібыта нічога не змянілася — усё тыя ж захопленыя позіркі слухачак, усё той жа зачараваны жаночай прыгажосцю, усмешлівы і галантны паэт. Калі Генадзь Мікалаевіч чытаў “Малітву”, уся зала ціха паўтарала: “Божа, захіні маю Радзіму мудрасцю, спакоем і цяплом”.

Пасля вечарыны на адным з багацейшых прадпрыемстваў горада — “Гроднаэнерга” — кожны з выступоўцаў атрымлівае па вялікім шкляным зубры. Мой прыгажун на вуліцы выслізгвае з кардоннае пакоўкі і разбіваецца на дробныя аскепкі. Нейкі нядобры знак? Так яно потым і сталася — менавіта з “Гроднаэнерга” дасылаліся ў “Славянский набат” лісты “ўдзельнікаў сустрэчы”, у якіх ганілася ўся беларуская літаратура ўвогуле, а Быкаў і Барадулін называліся “литературными шабашниками”.

На грудзях дырэктара адной з гарадзенскіх школ праменіўся бел-чырвона-белы сцяжок. Я пацікавіўся, як адносяцца да гэтага ў гарана? І сівы чалавек ледзь прыкметна пасміхнуўся — спачатку чапляліся, а потым прывыклі. У той жа школе пісьменнікаў пасля выступу паважна абыходзіў хлопчык Жэня, збіраючы аўтографы, як ясак са сваіх падданых. Для роспісу ён даставаў з сумкі кнігі, што выходзілі і пяць, і дзесяць гадоў таму. Пасля роспыту аказалася, што ён унук славутага Алеся Мікалаевіча Белакоза, сын яго-най дачкі Марыны, чый каштоўны падарунак — саматканы гальштук — вісеў у мяне на шыі.

Праз два дні мясцовая вертыкаль спахапілася і забараніла-такі дзве сустрэчы — у Скідалі і ў вёсцы Капцёўка. Нягледзячы на тое, што ў Капцёўскай школе за гадзіну да прыезду пісьменнікаў адмянілі заняткі, мясцовыя школьнікі не спяшаліся дахаты. Сустрэча адбылася ў маленькай вясковай бібліятэцы, дарослыя слухалі пісьменнікаў стоячы, дзеці прымошчваліся на школьных ранцах.

Журналісты незалежнай гарадзенскай газеты “Пагоня” падлічылі, што на трыццаці пяці літаратурных сустрэчах пабывала каля 9 тысяч чалавек. А Лявон Баршчэўскі мусіў “прызнаць”, што за чатыры дні пісьменнікі зрабілі больш, чымся Народны фронт за тры гады.

## БЯРЭСЦЕ

У мясцовым універсітэце павышаная ўвага да Алеся Разанава, які ў 1968 годзе пасля сталічнага разгону нацыяналістаў мусіў давучвацца ў Бярэсці. Алесь Сцяпанавіч цярпліва тлумачыць вынайдзеныя ім квантэмы, у якіх усяго тры радкі, а сэнсу — на цэлыя паэмы.

Уладзімір Арлоў прыглушаным голасам, нібы на канспіратыўнай явачнай кватэры, чытае сваё эсэ “Незалежнасць — гэта...”, якое неўзабаве пасля напісання было перакладзена на дзесяць замежных моў і не страціла актуальнасці за восем прамінулых з таго часу гадоў.

Будучыя філолагі вусцішна прыслухоўваліся, як гучаць у арыгінале з вуснаў Лявона Баршчэўскага Міцкевіч і Байран, Верлен і Кітс, Шэлі і Шылер, Гётэ і Пятрарка. Агучаныя па-беларуску, яны, здавалася, заходзілі ў аўдыторыю, блукалі па даўжэзных універсітэцкіх калідорах, дзе ўжо колькі дзесяткаў гадоў студэнты похапкам перад іспытам завучваюць на памяць іхнія біяграфіі.

У політэхнічным інстытуце на сустрэчу з’явілася непрадбачаная колькасць слухачоў — каля пяцісот чалавек, якія не змаглі змясціцца ў самую вялікую аўдыторыю. Пакуль шукалі ключы ад актавай залы, згубіліся мікрафоны, пакуль шукалі мікрафоны, прапала электрычнасць. Але сустрэча, што ўрэшце адбылася, па водгуллі ў слухацкіх сэрцах наўрад ці саступала паэтычным вечарынам у другім політэхнічным — што грымелі калісьці на ўсю краіну саветаў і былі ўслаўлены ў вершах А. Вазнясенскага. Студэнты самазабыўна слухалі ранняга Разанава ў выкананні позняга. Алесь Сцяпанавіч хітраваў, чытаючы верш “Арышт Кастуся Каліноўскага”:

***Усе ніты ў сувой,***
***у заклік пагалоскі***
***з’яднаць — і стаць сабой!..***
***Як зваць вас?***

Тут аўтар цягнуў ненатуральную доўгую паўзу, і аўдыторыя не вытрымлівала, выдыхала, як пароль: “Каліноўскі!” Так у галовах будучых беларускіх інжынераў поруч з рознымі інтэграламі апынулася слова-код, слова-сімвал. Дай бог каб назаўсёды!

У Бярэсці гарадскія ўлады вырашылі ўзяць пісьменнікаў пад свой патранаж. Падчас сустрэч у школах паблізу выступоўцаў кожны раз з’яўляўся намеснік мэра спадар Працэвіч. Да выбрання на адказную пасаду ён сам працаваў дырэктарам школы, таму ў педагагічных мэтах не цураўся самай няўдзячнай работы — нястомна інструктаваў нас перад кожным выступам. Заклікаў не закранаць перад дзецьмі палітычных пытанняў, не прапагандаваць “отмененную на референдуме” нацыянальную сімволіку. На пытанне, як быць з балотам Пагоня, якое насамрэч існуе на Берасцейшчыне ў Івацэвіцкім раёне паблізу вёскі Бабровічы, змагар з нацыянальнымі сімваламі не знайшоўся што адказаць. Але пільнасці сваёй не страціў, за што і вымушаны быў перажыць некалькі малапрыемных хвілін.

Рэч у тым, што з намі ўвесьчасна ездзіў сябра Згуртавання беларускай шляхты, мілы чалавек Аляксандр Усцінавіч Карызна, які загадваў перасоўнай кнігарняй. За некалькі дзён Усцінавіч звычайна прадаваў паўрафіка кніжак — на сорам занядбанаму айчыннаму кнігагандлю. Пільнае вока спадара Працэвіча высачыла, што ў перасоўнай кнігарні можна набыць не толькі кнігі, але і значкі ды сцяжкі з нацыянальнай сімволікай. І вось у сваёй былой роднай школе намеснік мэра ўладна “наехаў” на Усцінавіча: “Ты что это, старик, незарегистрированными символами торгуешь?!” Патомны шляхціц годна паслаў нахабнага незнаёмца падалей, ні на хвіліну не перапыняючы сваёй пачэснай справы. Разлаваны віцэ-мэр заявіўся ў актавую залу, дзе падлеткі акурат выстраіліся ў чэргі па аўтографы, і запатрабаваў, каб апошнія неадкладна ішлі на ўрокі. На што дзеці дружна адказалі, што ў іх цяпер другі дырэктар, што яны ўсе з’яўляюцца фанатамі беларускай мовы і любяць Беларусь, таму, маўляў, пажадана не перашкаджаць. Тады чыноўнік запатрабаваў, каб Васіль Сёмуха і Уладзімір Арлоў у аўтографах не пісалі пажаданняў, а толькі распісваліся. “Я даю вам тридцать секунд на автографы”, — строга папярэдзіў намеснік мэра. На шчасце, амонаўцаў паблізу не аказалася, і пісьменнікі змаглі дакончыць сваю справу,лішне не спяшаючыся.

Патомны шляхціц Карызна спрычыніўся да яшчэ адной анекдатычнай сітуацыі, што мела месца ў абласной бібліятэцы. Перад пачаткам вечарыны да мяне падышла адна з арганізатарак і спыталася, ці прыехаў Карызна. Я сумленна адказаў, што прыехаў — вунь у закутку кнігі прадае. “Как, — разгубілася арганізатарка, — он же лауреат Государственной премии!” І толькі ўгледзеўшы паблізу сцэны стэнд са шматлікімі зборнікамі Уладзіміра Карызны, я зразумеў, што мець рэдкае прозвішча, накшталт майго, — вялікае шчасце.

Сёй-той гаворыць, што на Берасцейшчыне моцныя ўкраінскія ўплывы. Атрымліваючы безліч запісак на самыя розныя тэмы, мы падсвядома чакалі, калі ж хто-небудзь закране “палескую праблему”. І дачакаліся.

На адной з сустрэч у зале падняўся чалавек і на неблагой беларускай мове з пэўнымі фанетычнымі асаблівасцямі пачаў прэтэндаваць на ўсю Берасцейшчыну як на спрадвечную ўкраінскую тэрыторыю. Каб спыніць непрыхаваную экспансію, з пісьменніцкіх шэрагаў наперад выступіў этнічны паляшук перакладчык Васіль Сёмуха. З высока ўзнятым Новым Запаветам, перастворaным ім па-беларуску, спадар Сёмуха нагадваў прарока Масея, які ведае, куды весці аблудную паству. Але інтэлігентнае Сёмухава і мудрае Божае слова не спыніла сепаратыста. Тады з месца падхапіўся каржакаваты барадач і на мясцовым дыялекце прачытаў папулярную лекцыю пра сапраўдныя памкненні “берасцейскіх украінцаў”, пасля якой адзін з іх прысаромлена замоўк, а зала выбухнула авацыяй.

Увечары таго ж дня ўкраінская тэма атрымала нечаканы працяг. Перад сном у сябравай бібліятэцы я натрапіў на цікавую кнігу — “Словник Берестейщины” Уладзіміра Леанюка, усяго два гады таму выдадзены ў Львове. З гэтай своеасаблівай “энцыклапедыі” я даведаўся, што амаль усе беларускія пісьменнікі з’яўляюцца беларусіфікатарамі Берасцейскага краю. Напрыклад, Уладзімір Караткевіч, аказваецца, калі пісаў пра Палессе, “губляв свою об’ективность, припускався неточностей, вдавався до белорусіфікації українскій мові полешуків”. Юрка Віцьбіч у вядомым нарысе “Плыве з-пад Святое гары Нёман” “торкався багатьох біл. топонімів, поширяючи понятьтя Білорусь і на Берестейщину”. Пан Леанюк адным махам семярых пабівахам — беларусіфікатарамі ў яго з’яўляюцца і Якуб Колас, і Уладзімір Калеснік, і Генадзь Каханоўскі, і Мікола Улашчык... А Рыгор Шырма, “стоячи на біл. платформі, вдавався до перекладу місцевіх укр. пісень на біл. мову, вміщуючи їх до своїх біл. збірників”. Пад пільным наглядам пана і маладзейшыя — аказваецца, Яўгенія Янішчыц “декларувала свій біл. патріотізм з безоглядностью неофіткі”. А з Нінай Мацяш за яе беларусіфікатарскія схільнасці нават “полемізувала група робітників Берези”. Цікавага запісу ў кніжцы ўдастоіўся і касманаўт П. Клімук. Пасля пералічэння ўсіх ягоных званняў-дасягненняў ідзе іранічна-лаканічны сказ: “Уважае себе білорусом”. Маўляў, і ў космас тройчы злётаў, а сапраўдных украінсіх межаў разгледзець не здолеў — лічыць сябе чамусьці беларусам.

Па дарозе на Менск нас чакала чатырохгадзінная (!) сустрэча ў Белаазёрскім доме культуры, куды сышлася ледзь не палова горада. Белаазёрцы былі гатовыя слухаць паэзію і прозу бясконца, але гаспадыня вечарыны, паэтка і перакладчыца Ніна Мацяш, напэўна, вырашыўшы, што яе землякі ўжо цалкам беларусіфікаваныя, не дазволіла расходаваць пісьменніцкую энергію напуста і запрасіла дарэшты знясіленых літаратараў да сябе на вячэру.

## МАГІЛЁЎ

Першы выступ — у ПТВ металістаў. Старэнькі гукаўзмацняльнік пад назовам “Родина” бязбожна сіпіць, са скрыпам праглынае беларускія словы, малаўцямныя, відаць, для яго сашрубаваных дзе-небудзь у Пензе электравантробаў. Прыгадваючы пачутую дзесьці прыпеўку:

***Радавод у нас адзіны,***
***тыя ж і паводзіны,***
***Толькі я люблю Радзіму,***
***а ты любіш Родину, —***

я назіраю, як магілёўскі бард Ігар Мухін-Рабянок упэўнена апрацоўвае пэтэвушнікаў. Праз хвіліну зала пачынае падцягваць: “Спі, пі гарэлку, гуляй, Северо-Западный край...”

Школы N 3, 25, 32, 40 — перад вачыма пачынае мільгаць звыклы калейдаскоп. У актавай зале школы-гімназіі N 30 на сцяне вісіць трохметровая карціна “Человек с ружьём”. Уражанне, нібы выступаеш пад канвоем.

Магілёўскі графік не такі шчыльны, і ў першы ж дзень мы адведваем на могілках паэта Аляксея Пысіна, аглядаем Свята-Мікалаеўскі жаночы манастыр. Ігуменняна імя Яўгенія расказвае, як бальшавікі з царквы семнаццатага стагоддзя зрабілі турму. І калі аднаўлялі храм, у алтары знаходзілі людскія чарапы. Ігумення слёзна просіць дапамагчы ў росшуках іканастасу, які забралі ў Менск на рэстаўрацыю. Куды яна толькі ні звярталася, нават да самога прэзідэнта — а вынікаў ніякіх. Прапаў іканастас.

Найпрыгажэйшы будынак у Магілёве — касцёл святога Станіслава. Асляпляльна белы, ён лунае ў паднябессі над прыземістымі камяніцамі, у якіх спыняліся расійскія каранаваныя асобы. На зацемку будучаму экскурсаводу — пры касцёле запачаткаваўся фестываль духоўнай музыкі “Магутны Божа”, тут вянчаўся Зянон Пазняк.

Музычная вучэльня імя Рымскага-Корсакава. Адміністрацыя разбеглася, прадбачліва адчыніўшы канцэртную залу.

У адной са школ у кабінеце беларускай мовы і літаратуры на сцяне — завешаная нейкім невыразным краявідам “Пагоня”. “Нядаўна была праверка, — тлумачыць настаўніца, — давялося схаваць”. Разам з намі ў класе хлопчык гадоў дванаццаці: “Мама, можна я ўжо адвешу?” — і ходзіць кругамі каля таго стэнда.

На задніку сцэны тэхнічнага ліцэя — эмблема з “Пагоняй”. Не пазайздросціш магілёўскім працэвічам — збройны рыцар на кані ўваходзіў у склад герба Магілёва, на рэферэндуме магілёўскі герб не адмянялі — як змагацца?

На кожнай сустрэчы ў навучальных установах прысутнічалі строгія дамы з нататнікамі

(Працяг на стар. 15)

КАНТАКТЫ

***Іяханес ДЗЮР добра знаёмы з нашай краінай, неаднаразова бываў у горадзе Маладзечне. Падчас апошняга па часе прыезду групы з Эслінгена наш карэспандэнт прапанаваў пастару пытанні, на якія неўзабаве прыйшоў разгорнуты адказ. Мяркуем, нашым чытачам цікава будзе адкрыць для сябе светапогляд лютэранскага царкоўнаслужыцеля (прынамсі, асобныя яго складнікі і рысы), а таксама меркаванні адносна грамадскіх тэндэнцый у Беларусі і перспектывы царкоўных кантактаў.***

# Чэрпаць са свае духоўнасці

**— Спадар Дзюр, вы аднойчы казалі, што збіраеце газетныя выразкі з інфармацыяй пра Беларусь. З чым звязана цікавасць да нашай краіны?**

— Пачынаючы з 15 гадоў, я цікавіўся рускай культурай, мовай і палітыкай. У час "халоднай вайны" і пануючага ў нас антыкамунізму я проста быў цікаўным і хацеў як мага бліжэй спазнаць гэтую краіну. Па старым падручніку я крыху вывучыў рускую мову, прачытаў асноўныя творы рускай літаратуры XIX стагоддзя і некаторыя XX-га і ўважліва сачыў за спробамі ўстанавіць нармальныя палітычныя адносіны з Усходам.

25 гадоў таму я выправіўся са сваёй жонкай на аўтамабілі ў Ленінград, як тады называўся гэты горад. Пасля гэтага ў мяне з'явілася магчымасць удзельнічаць у г. Цюбінгене ў сустрэчы са студэнтамі і выкладчыкамі тэалагічнага факультэта Рускай праваслаўнай царквы.

У 1990 годзе мы пераехалі ў Эслінген, які ўжо два гады меў партнёрскія сувязі з горадам Маладзечнам. Такім чынам, у сілу маіх моўных і іншых інтарэсаў я прымаў удзел у партнёрскіх сувязях гарадоў Эслінген і Маладзечна. Увосень 1991 года царкоўныя прадстаўнікі з Маладзечна ўпершыню прыехалі да нас, пры гэтым асабліва цікавым субяседнікам быў праваслаўны святар Іван Міцько, які прыняў удзел у богаслужэнні ў маёй царкве. Акрамя таго, завязаліся сувязі з былымі вязнямі на прымусовых работах, а таксама гуманітарныя праекты ў сацыяльнай, медыцынскай і царкоўнай сферах, якія мы рэалізоўвалі з Маладзечнам. Для лепшага разумення нашых партнёраў і іх становішча я збіраю з таго часу артыкулы і літаратуру пра Беларусь, што далёка не проста, паколькі Беларусь застаецца для Германіі даволі невядомай краінай, калі не лічыць вопыту немцаў — удзельнікаў вайны. Мой клопат не ў апошнюю чаргу тычыцца і таго, каб праводзіць работу па прымірэнні былых праціўнікаў у вайне, а таксама ніколі не дапусціць жахаў нацыянал-сацыялізму і сталінізму.

**— Вы тройчы па лініі партнёрскіх сувязей прыязджалі ў Маладзечна. Што-небудзь змянілася ў нашым жыцці ў той ці іншы бок, як вы мяркуеце?**

— Для мяне беларусы заўсёды былі гасціннымі, адкрытымі і сімпатычнымі людзьмі. Асаблівае ўражанне ў мяне выклікаў іх высокі культурны ўзровень, у чым мы пераконваліся падчас розных мастацкіх выступленняў, а таксама дысцыпліна і энтузіязм дзяцей і моладзі, якія ў іх удзельнічалі. Усё яшчэ недастаткова развітой уяўляецца мне палітычная культура, таму, нягледзячы на высокі ўзровень адукацыі і кваліфікацыі рабочых кадраў, мы бачым вялікія эканамічныя праблемы. Мне гэта ўяўляецца вытлумачальным на гістарычным фоне: прыгнёт на працягу стагоддзяў, вялікія страты ў выніку нямецкай акупацыі, ізаляцыя падчас камуністычнай дыктатуры. Да Першай сусветнай вайны таксама наўрад ці можна было дасягнуць высокай грамадзянскай і дэмакратычнай культуры, ад якой можна было б адштурхнуцца сёння. Такім чынам, значная частка насельніцтва ўяўляецца мне кансерватыўнай і апатычнай. Без фарміравання адпаведнай свядомасці наўрад ці будзе магчыма стварэнне дэмакратычнага і справядлівага грамадскага парадку, а небяспека новага дыктатарскага і аўтакратычнага панавання будзе ўзрастаць.

Мы звярнулі ўвагу на тое, што пашырыўся асартымент спажывецкіх тавараў, але паглыбілася і бездань паміж беднымі і багатымі. Адпаведна растуць злачыннасць і карупцыя. Хоць мы асабіста гэтага і не адчулі, але наўрад ці адважыўся б я ажыццявіць прыватную паездку ў Беларусь на адпачынак. Кінулася нам у вочы і празмерная прысутнасць паўсюль міліцыі.

Мы часта назіралі прыклады, якія сведчаць аб спробах абапірацца на ўласную беларускую культуру. Я разглядаю гэтыя спробы як імкненне народа захаваць сваю ідэнтычнасць перад пагрозай разбурэння духоўных і маральных асноў у працэсе мадэрнізацыі. Такія асновы, вядома ж, патрэбны ў барацьбе супраць матэрыялізму і татальнай секулярызацыі. Зарыентаванае ў будучае развіццё грамадства мае на мэце, акрамя таго, захаваць прыроду і навакольнае асяроддзе, каб і наступныя пакаленні мелі прыдатныя для жыцця ўмовы.

Час пакажа, наколькі прадуктыўнай акажацца апора на беларускую культуру, якая ў мінулым, як мне падаецца, не знайшла яркага выяўлення. Незалежнасць краіны патрабуе, як і паўсюль, высокай эканамічнай цаны. Нацыяналізм не зможа вырашыць праблем сучаснага свету. Ёсць пэўныя прычыны, чаму ліквідуюцца межы ў Цэнтральнай і Заходняй Еўропе і дзяржавы зыходзяцца ўсё бліжэй. Глабальныя рынкачныя і фінансавыя сілы павінна стрымліваць палітыка. Адначасова я лічу важным умацоўваць мясцовыя культуры перад наступам агульнай сусветнай матэрыялістычнай культуры тавараў, грошай і забаў у СМІ. Гэта мясцовая культура дасюль жыве на Беларусі сярод простага народа, мы мелі магчымасць успрыняць яе з вялікім задавальненнем праз народную музыку, рамёствы, танцы і г.д. Дзіўнай, праўда, мне падалася арыентацыя на старыя, яшчэ дахрысціянскія міфы і легенды. Мне здаецца, што на Усходзе таксама ёсць шмат сімвалаў і сведчанняў хрысціянскай культуры, на якія можна абапірацца, напрыклад, у выяўленчым мастацтве. Важнейшым укладам хрысціянства ў культуру я лічу той факт, што хрысціянскі ідэал чалавека набывае ўсё большы ўплыў і садзейнічае гуманізацыі грамадства. Гэта мае месца толькі ў тых выпадках, калі ўзаемапераплятаюцца любоў да Бога, да бліжняга і самасцверджанне асобы. Многае будзе залежыць і ад таго, ці ўспрыме моладзь нацыянальныя каштоўнасці. Бо ў мяне складваецца ўражанне, што моладзь у значнай ступені арыентавана на негатыўныя заходнія ўзоры.

**— Сяброўства паміж лютэранамі Эслінгена і праваслаўнымі Маладзечна абвяргае звыклую думку пра самаізаляцыю хрысціянскіх канфесій. Што вы можаце сказаць на гэты конт?**

— Пераадоленне ізаляцыі хрысціянскіх канфесій на Захадзе патрабавала працяглых і інтэнсіўных намаганняў. Асновай яе з'явіліся самі вернікі і тэалогія, а таксама супраціўленне царкоўнага кіраўніцтва, якое часта зацікаўлена ў захаванні ўлады. Пратэстанцкая і каталіцкая галіны хрысціянства маюць свае моцныя і слабыя бакі: у пратэстантызме гэта ярка выяўленыя асабістая вера і свабода сумлення, а ў каталіцызме — сацыяльнае вучэнне і сам інстытут царквы. Для іх аднолькава страцілі сваю актуальнасць гістарычныя адрозненні, бо наступаюць матэрыялізм і секулярызацыя. У апошнія гады рэлігійная свядомасць у нашай царкве моцна аслабла. Толькі нядаўна намецілася пераадоленне ізаляцыі праваслаўнай царквы (на Захадзе яе завуць артадаксальнай). У Германіі праваслаўе прадстаўлена перш за ўсё грэкамі і сербамі, для якіх канфесія з'яўляецца прыкметай нацыянальнасці. Адносіны паміж намі пакуль складваюцца сяброўскія, але стрыманыя. У нас досыць кепска ведаюць праваслаўе. Пры першым кантакце праваслаўная царква выклікае нязвыклае ўражанне. Яе самаўпэўненасць і яе іерархічныя структуры здаюцца нам занадта выяўленымі. Але пры бліжэйшым знаёмстве карціна аказваецца больш дыферэнцыраванай. Мы бачым, што і ў праваслаўі ёсць розныя цячэнні. Партнёрства і дружба маюць на ўвазе, што трэба спазнаваць адзін аднаго, не асуджаючы. Пры гэтым можна сказаць адзін аднаму пра тое, што не зусім зразумела. Уразілі нас пры стасунках з праваслаўнай царквой Беларусі яе высокая духоўнасць, значэнне літургіі і набожнасць простых людзей. Мы пераканаліся ў тым, якія сур'ёзныя задачы стаяць перад царквой пасля пераломнага 1989-га года. У выніку прыцяснення на працягу стагоддзяў яна аказалася непадрыхтаванай да гэтага.

Мы, напрыклад, бачым вялікую задачу ў рэлігійнай адукацыі дзяцей, моладзі і дарослых, для якіх сталі чужымі асобныя традыцыі праваслаўя. Мы лічым вельмі важным, каб вернікі бралі на сябе ў царкве адказныя задачы, каб царква працавала ў грамадстве. І перш за ўсё, каб яна ўзяла на сябе сацыяльную работу і падтрымлівала слабых. Я лічу: чым больш такіх задач возьме на сябе царква, тым менш ёй трэба баяцца, што секты і рэлігійныя групы новага тыпу будуць пашыраць свой уплыў.

Што датычыць нас, то мы далёкія ад думкі пра "месіянства" праваслаўя. Мы зацікаўлены ў дыялогу з раўнапраўным партнёрам. З заклапочанасцю мы назіраем за шавіністычнымі і антыэкуменічнымі настроямі ў некаторых праваслаўных цэрквах. Мы спадзяёмся, што далейшыя кантакты з Беларуссю будуць садзейнічаць таму, каб рос узаемны давер і была пераадолена ізаляцыя, якая мела месца ў мінулым, як гэта было ў нас з каталіцкай царквой Германіі. Вось чаму вельмі важна зацікавіць кантактамі з Маладзечнам яшчэ больш пастараў і адказных асоб у нашым прыходзе. Адначасова праваслаўная царква павінна ўзяць на сябе задачу павышэння ўзроўню сваіх святароў для выканання гэтай задачы і пашырэння адукацыйных устаноў царквы.

**— Раскажыце, калі ласка, пра свой шлях да веры і служэння.**

— Я вырас у доме пастара і змалку ўвабраў у сябе дух хрысціянства і штодзённую практыку парафіі. Я ўдзячны свайму бацьку за тое, што пры гэтым ён даў мне магчымасць самому выбіраць шлях.

Апошнія чатыры школьныя гады я правёў у евангелісцкім інтэрнаце. Яго духоўная атмасфера садзейнічала таму, што пасля кароткага вывучэння царкоўнай музыкі я пачаў вывучаць тэалогію з мэтай служыць у кірсе. Падчас вучобы да тэалагічных і агульнакультурных інтарэсаў далучылася літургіка. Богаслужэнне я вывучаў паглыблена на працягу 5 гадоў, калі кіраваў студэнтамі ў багаслоўскай навучальнай установе г. Цюбінгена.

Для мяне вера з'яўляецца шляхам, ідучы па якім я вучуся як пастар і вырашаю ўсё новыя праблемы. Апошнія ўзнікаюць перш за ўсё ў сувязі з паслабленнем царкоўных сувязей у Германіі з прычыны грамадскіх зменаў, пры гэтым у Заходняй Германіі цікавасць да рэлігіі ўвогуле не аслабла. Усход жа Германіі стаў у выніку працяглага камуністычнага панавання краінай, дзе праваслаўная царква, відаць, лепш прыжылася б. На мой погляд, хрысціяне і царква нясуць у адносінах да людзей функцыю служэння. Для мяне царква ўвасабляе адзінства ў веры розных людзей з рознымі схільнасцямі. На аснове Бібліі і Новага запавету людзі заклікаль жыць у веры як спадкаемцы Хрыста. Веру я разглядаю як упэўненасць, што Бог знаходзіць сваё выяўленне ў гэтым свеце праз дух свой і ўмацоўвае сілы, якія падтрымліваюць жыццё, каб гэты свет стаў даступны разуменню як Яго тварэнне, хоць ён яшчэ патрабуе ўдасканалення.

Я ўдзячны, што займеў гэтую цяжкую і цікавую прафесію, якая дазваляе мне засяродзіцца на пытаннях веры і, спадзяюся, нечым з гэтага падзяліцца з іншымі.

**— Што б вы пажадалі нашаму народу?**

— Я жадаю беларускаму народу, каб ён знайшоў мірны шлях для вырашэння складаных эканамічных, сацыяльных і экалагічных праблем, у тым ліку чарнобыльскай. Я жадаю, каб яго не праглынуў заходні матэрыялізм і каб ён мабілізаваў сілы для супольнай дзейнасці ў абарону слабых. Беларускі народ шмат выпакутаваў, і гэта можа стаць крыніцай для разумення пакут іншых — гэтак жа, як Гасподзь Бог у Хрысце пакутаваў за людзей і паказаў ім шлях да збавення. Таму я жадаю беларускаму народу ўмацаваць і паглыбіць сваю веру. Няхай ён чэрпае са сваёй духоўнасці ўсё новыя сілы дзеля добрых учынкаў. Калі бачым складанае становішча Расіі, то са скепсісам глядзім на яе будучыню. Тым не менш, я спадзяюся, што беларускі народ захавае свае высокія чалавечыя якасці і выкарыстае іх для стварэння новага грамадскага парадку.

**Пераклад з нямецкай Віктара БАЛАКІРАВА**

Мікола ТОНКАВІЧ

## Мініяцюры

### Не зразумеў

*Прынёс нейк вершы*
*з магазіна,*
*Каб наталіць душу у смак.*
*Ды, прачытаўшы палавіну,*
*Усё не разбяру ніяк,*
*Чаго тут больш,*
*у кніжцы гэтай*
*(Якіх з тых вершаў ні крані):*
*Бездапаможнасці паэта*
*Ці звышмадэрнай балбатні?*

### Стомленасць паэзіяй

*Ты, Паэзія, нібы сяброў талака,*
*Служыш мне, чытачу,*
*мой настрой разумеючы:*
*Як стамлюся "Гасподай"*
*Дранько-Майсюка —*
*Спачываю*
*пад шчырую ліру Гілевіча.*

### Нэквівалентна

*— Купіў на днях раман...*
*— І што ж?*
*— Сабе, брат,*
*крута насаліў:*
*У ім цікавасці на грош —*
*Я ж трыста*
*тысяч "адваліў".*




ЗАСНАВАЛЬНІКІ

Саюз беларускіх пісьменнікаў; рэдакцыя газеты "Літаратура і мастацтва"

ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА

Галоўны рэдактар
Уладзімір НЯКЛЯЕЎ

РЭДАКЦЫЙНАЯ РАДА:
Святлана БЕРАСЦЕНЬ,
Мікола ГІЛЬ — *намеснік галоўнага рэдактара*
Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ,
Жана ЛАШКЕВІЧ,
Алесь МАРЦІНОВІЧ,
Барыс ПЯТРОВІЧ — *першы намеснік галоўнага рэдактара,*
Віктар ШНІП — *адказны сакратар*

АДРАС РЭДАКЦЫІ:
220005, Мінск, вул. Захарава, 19

ТЭЛЕФОНЫ:

| | |
|---|---|
| прыёмная рэдакцыі — | 2848-461 |
| намеснікі галоўнага рэдактара — | 2848-525, 2847-985 |
| АДДЗЕЛЫ: | |
| публіцыстыкі — | 2848-204 |
| пісьмаў і грамадскай думкі — | 2847-985 |
| літаратурнага жыцця — | 2848-462 |
| крытыкі і бібліяграфіі — | 2847-985 |
| паэзіі і прозы — | 2848-204 |
| музыкі — | 2848-153 |
| тэатра, кіно і тэлебачання — | 2848-153 |
| выяўленчага мастацтва, аховы помнікаў — | 2848-462 |
| навін — | 2848-462 |
| мастацкага афармлення — | 2848-204 |
| фотакарэспандэнт — | 2848-462 |
| бухгалтэрыя — | 2366-071 |

*Пры перадруку просьба спасылацца на "ЛіМ".*
*Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе.*
*Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі і думкамі аўтараў публікацый.*

**Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра тыднёвіка "ЛіМ"**

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня "Беларускі Дом друку" (г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 77)

Індэкс 63856.
Наклад 4002
Нумар падпісаны ў друк 3.12.1998 г. у 17.30.
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 999
Заказ 7010/Г

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12